**Календа, С.**

Балтыйскія шкарпэткі / Сяргей Календа. – Вільня: Logvinovo Literatūros namai, 2019. – 128 с.

**ISBN 978-609-8213-69-0**

«Балтыйскія шкарпэткі» – гэта дзесяць гісторый, у якіх персанажы аказваюцца не тым, чым здаваліся на самым пачатку. Вочы сябра, каханай або сваяка ўспыхваюць іншасветным агнём, і бывае, што толькі смешныя лялькі з панчохі або шкарпэткі ратуюць герояў з пашчы вусцішы.

Казкі на мяжы жахлівіка і прыпавесці, паўночнай містыкі і біблейскага аповеду.

Заснавана на рэальных падзеях, усе супадзенні не выпадковыя.

**ISBN 978-609-8213-69-0**

© Календа Сяргей, 2019
© Logvinovo Literatūros namai, 2019

Кніга зьявілася
дзякуючы стыпэндыям:

International Writers
and Translators’ House
in Ventspils, Latvia
(2012, 2016, 2018);

Baltic Centre for Writers
and Translators in Visby,
Gotland, Sweden (2017);

Residence of The
Young Writer, Vilnius,
Lithuania (2019).

# ШКАРПЭТКІ НА МОРЫ

«Іжылі яны доўга і шчасьліва, і памерлі ў адзін дзень» – такая старая канцэпцыя больш не працуе. Сьвет вялікі і няпросты, ён складзены з розных эмоцыяў і пачуцьцяў, і патрабаваньні да казак ужо іншыя. Сучасныя дзеці, а зь імі і мы, чакаем, што казка нас ня толькі пазабавіць, але і не атруціць мядовай хлусьнёй. Нас атачае шмат тых, хто прадае рамантычную пустэчу, няспынна прапаноўвае панацэю, заганяе ў кут, стварае рабоў сыстэмы.

Crossover fiction, альбо kidult-гісторыі, у нашым стагодзьдзі робяцца ўсё больш папулярнымі, вяртаецца мода на жахі, трылеры і вусьціш – гэта чапляе, трымае дзіцячую ўвагу да канца, да апошняй старонкі. Дастаткова згадаць братоў Грым без цэнзуры: набіты камянямі ды зашыты страўнік Шэрага Воўка, альбо гісторыі Шарля Пэро, дзе Малое Пальчанё падманам прымушае велікана зьесьці сваіх дзяцей, ці той жа гофманаўскі Курдупель Цахес са сваімі далёка не дзіцячымі жаданьнямі.

Папялушка больш не чапляе – патрэбныя зладзеі, ашуканцы, супрацьстаяньне Дабра і Зла – і калі Дабро прайграе, гэта больш падобна да рэальнасьці. Сучасным дзецям не дастаткова андэрсанаўскай Пярсьцяначкі ды яе змаганьня з жаніхом Кратом, каб перажываць за гераіню, цяпер нават зомбі нікога не палохаюць і рыпучыя дзьверы шафы ў Нарнію ня дзівяць. Дзяцей вабіць складанае і страшнае, новыя ўзроўні пачуцьцяў, эмоцыяў, якія нам былі ўласьцівыя часта толькі ў падлецтве.

Я спрабую згадаць свае дзіцячыя жахі – мне даволі было «Заклятыя скарбы» пачытаць альбо падгледзець на бацькоўскім відэаплэеры «Экзарцыста» ці «Паўсталых зь пекла», каб ня спаць да ранку, рэшту даробяць цені ды ўяўленьне.

Цяпер я назіраю, як мае дзеці глядзяць анімацыю студыі «Лайка»: «Каралінa ў краіне жахаў», «Паранорман» або мульцікі студыі «Ghibli», «Зьнесеныя прывідамі»... І ўсьведамляю, што ў маім дзяцінстве яны лічыліся б сапраўднымі дарослымі жахамі, якія лёгка прагоняць сон на пару дзён. А цяпер гэта абмежаваньне «6+», якое нікому і не цікавае.

У гэтай кнізе я імкнуўся балянсаваць на мяжы міталёгіі, казачнасьці ды містыкі, кожная гісторыя апавядае ўласныя страхі ды жаданьні, і з кожнай казкай чытач будзе расьці – тое, што турбуе ў дзесяць гадоў, паступова заменяць падлеткавыя праблемы.

У дзіцячай літаратуры мне не хапае глыбіні, схаваных сэнсаў і цытатаў, якія гэтак важныя для дарослых, асабліва калі чытаньне перад сном робіцца нуднай справай. Пісаць кнігу я пачаў сем гадоў таму, на літаратурных стыпэндыях, у камандзіроўках і проста ў адпачынку, знаходзячы ўрэшце час не працаваць, а толькі марыць, гутарыць зь дзецьмі, слухаць мясцовых жыхароў, зьбіраць забаўныя гісторыі ды ствараць новы сусьвет.

«Балтыйскія шкарпэткі» аб'яднаныя адным настроем і морам, і галоўнае – цацкамі, лялькамі, своеасаблівымі татэмамі, створанымі хто са шкарпэтак, хто з хустак, тканіны і нітак. Гэтыя другасныя героі адыгрываюць важную ролю ў жыцьці галоўных пэрсанажаў, і можа, чытачу будзе цікава адшукаць у кожным творы іх – таемных і маўклівых герояў.

Упершыню я сам праілюстраваў кнігу. Я намаляваў трыццаць карцінаў акрылам на палатне, тры карціны на гісторыю. Гэтак зьявіліся дзесяць трыпціхаў, якія знайшлі ўладальнікаў і цяпер упрыгожваюць гасьцёўні, спальні, калідоры альбо складзеныя ў пыльных шафах.

Калі я заканчваў кнігу і ілюстрацыі былі гатовыя, заставалася адно дапісаць некалькі сказаў апошняй казкі, я пачаў сябе запавольваць, мне моцна не хацелася расставацца з казкамі, якія я пісаў шмат гадоў. Я разумеў, што больш ня буду сядзець вечарамі, перапэцканы акрылам, вымалёўваючы герояў, караблі ды ствараючы дзіўныя фоны, якія для мяне ўжо выглядалі гатовымі карцінамі. Набліжаючыся да фіналу, я адчуваў няўпэўненасьць у сваіх сюжэтах: scio me nihil scire[1], так бы мовіць. Але я агледзеўся, зразумеў, што мае хлопцы толькі пачалі расьці і бліжэйшыя дзесяць гадоў мяне чакае шчыльны казачны пэрыяд у жыцьці ды творчасьці. І гэтую кнігу варта разглядаць як пачатак жыцьця – як кнігу, што асабіста для мяне задае адмысловы тон.

С. К.
2019

[1] Я ведаю, што нічога ня ведаю (лац.).

Монстры напраўду існуюць, і прывіды таксама.
Яны жывуць усярэдзіне нас і часам перамагаюць.

*Стывэн Кінг*

# RUDA MEITENE NO PLUDMALES[2]

Гэта здарылася даўно, у тыя часы, калі жанчыны ўбіраліся ў каляровыя сукенкі, лёгкія й празрыстыя, нібыта сатканыя з павуціньня, якія вабілі сваім хараством і прыгажосьцю. Калі жанчыны гутарылі на адзінай мове і насілі доўгія валасы, сплятаючы іх у калосьсе і не хаваючы пад хусткамі. У тыя часы, калі мужчыны хадзілі выпрастаныя, крочылі па брукаванцы й сьцяжынах, выпраўляліся ў мора па воблу й вімбу, па вецер і гонар, прымалі спаборніцтвы, змагаліся з прыродаю, скаралі караблі. Пракліналі багоў і маліліся прывідам.

Аднойчы маці падняла руку на сваю любую дачку. Любую, але ж ня надта. Дарагую, але ж ня так, як дорага ёй золата й тое, што пра яе скажуць суседзі. Маці нібы ўтрапёная накінулася й адлупцавала дзяўчо за позьняе вяртаньне дадому.

Што скажуць суседзі! Што скажуць яны пра нейкія птушыныя яйкі, якія тая прынесла з сабой, пра брудную спадніцу! Што яны скажуць пра тое, што яна робіць лялек са сваіх панчох і носіць іх з сабой! Што скажуць пра разадранае плячо й кірляў, нaкліканых па дарозе!

Зьбіла маці дачку як мачыха, ня гледзячы, куды трапляе скураным рэменем. Дзяўчо раўло й енчыла, скуголіла й спрабавала зьбегчы, прасіла аб літасьці й любові. Рудая дзяўчынка распавядала, што ратавала птушак, і прынесла з сабой яйкі, і што сама потым ня ведала, дзе выхад з хвойнага бору, разадрала плячо ў хмызьняку, сукенку парвала. Распавядала, што прадзіралася наўздагад, ажно пакуль ня выйшла на бераг мора, адкуль чайкі вывелі яе дамоў.

[2] Рудое дзяўчо з пляжу (лат.).



*Рудая дзяўчына бегла празь цёмныя, сонныя, самотныя думкі, праз абураныя словы, праз усе адценьні адчаю і болю, праз злосьць і нявыкрутку.*

Паплакала дзяўчо і прыціхла. Сьцішылася і яе маці. Аслупянелая, кінула долу скураны рэмень, а сама цяжка асела на зэдлік, не жывая й ня мёртвая.

Дзяўчына, валасы якой былі празрыста-рудыя і блішчэлі хвалямі так, што можна было патануць у гэтым хараստве, ускочыла з падлогі, змахнула рукавом сьлёзы, падцерла кроў з расьсечанай шчакі, схапіла сваю ляльку – панчоху, набітую саломаю, з адным вокам-гузікам – і выбегла з драўлянага дому на брукаванку й кінулася да Рынкавай плошчы. Кароткімі, вузкімі ielām[3] яна пабегла, не азіраючыся. І толькі вецер уварваўся празь дзьверы, і марскі суворы скразьняк абдаў маці холадам. Яна, выпусьціўшы зь левай рукі два птушыныя яйкі, цяжка дыхаючы, сядзела на зэдліку. Бацькаў ваенны рэмень, па-зьмяінаму скруціўшыся, ляжаў зьнерухомлены.

Рудая дзяўчына бегла праз цёмныя, сонныя, самотныя думкі, праз абураныя словы, праз усе адценьні адчаю і болю, праз злосьць і нявыкрутку.

Бегла, куды несьлі ногі.

Праз колькі хвілінаў перад ёй паўстала старая паўзгнілая драўляная вежа з гадзіньнікамі. Гадзіньнікі былі вялікія, пахлі рыбаю і вабілі гэтым водарам мясцовых чаек, праз гэта выгляд у іх быў брудны. Дзяўчына абмінула іх і, прасьлізнуўшы пад змрочную лаўку, апынулася пад старым дубовым сталом, які быў неахайна прыкрыты старым пледам. Тут дзяўчо й засталося, захутаўшыся ў валасы й сукенку, грэючыся аб котку, што прытулілася да цёплай сьпіны.

Гадзіньнікі выбухалі звонам, але гэта не перашкаджала. Пакуль дзяўчына спала, да яе пасьпела прыбіцца ня толькі котка, але і самотная чайка з адным крылом, якая, зьвіўшы гняздо ў празрыста-рудых валасах, цяпер прыносіла з сабою рыбу ды ікру.

Вяртацца дадому дзяўчо не сьпяшалася й не зьбіралася. Міналі дні.

Яна прыжылася на рынку, ёй падабалася тутэйшая брукаванка, гандаль усім на сьвеце, пакупнікі і мясцовыя жыхары, яе цешыла каляровае багацьце садавіны й гародніны, пахі вэнджанага мяса й рыбы, мяккія ваўняныя тканіны, пледы й швэдры. Яна магла хутка перасоўвацца праз выкладзеныя гандлярамі тавары, ласуючыся ежай, крадучы тое-сёе, выносячы ў кішэнях рыбу чайкам, заблытваючы свае валасы ў каўтуны, каб птушкам было лягчэй выседжваць яйкі. Яе панчохавая лялька ўсяляк яе аберагала і дапамагала адшукваць што заўгодна. І што†разу, ухапіўшы кавалачак ежы, дзяўчо пакідала крыху і ў валасах – кожнай жывой істоце, якой спатрэбіцца месца для жыцьця.

Дзяўчыну ніхто не заўважаў, яе прысутнасьць была відавочная і адчувальная, але ніхто ня мог дакладна сказаць, што бачыў яе тут ці там. Маці шукала сваю

[3] Вуліцы (лат.).



*На хвалях гайдаўся вялізны карабель, які, павольна праплыўшы яшчэ пару мэтраў, пачаў хіліцца ўбок, і гэтаксама павольна, як плыў, ён пайшоў на дно.*

дачку некалькі гадоў, ды нарэшце вырашыла, што тая зьнікла незваротна, і таму завочна яе пахавала. Сябе маці не вінавацілa. Яна вінавацілa толькі позьні час, стому, няўдалы лёс і брыдкія абставіны, а таксама ўласную самоту і ссунутую сьпіну, празь якую ніхто яе ня любіць.

Жыцьцё працягвалася.

Аднойчы рудая дзяўчына закахалася ў хлопца, бацька якога гандляваў ваўнянымі тэпцямі на рынку. Яна дакладна вырашыла, што створыць зь ім сям'ю, што яны разам будуць гадаваць птушак, карміць жывёлін і ў іх будзе тузін дзетак. Яна пачала прыносіць хлопцу хрызантэмы, якія разам са сваёй лялечнай панчохай скрадала ў гандляра кветкамі, а потым пачала дадаваць да хрызантэмы бутон каляровай капусты, якая буяла па ўсім партовым горадзе й расла як пустазельле. Хлопец зацікавіўся й лічыў, што гэтыя кветкі каханьня носіць яму дачка гандляркі рыбаю, якая была ў росквіце гадоў і мела вялікія блакітныя вочы.

Хлопец цяпер прачынаўся неверагодна шчасьлівы, аблашчаны сонейкам і каляровымі снамі. Кожную ноч рудая дзяўчына пачала прыходзіць да яго й спаць побач, а птушкі падкладалі ёй сваё пер'е, каб сны былі мяккія і бязважкія.

Аднойчы ўначы сын гандляра ваўнянымі тапкамі пракраўся да дачкі гандляркі рыбаю і прапанаваў ёй зьбегчы разам куды вочы глядзяць. Уцячы на любым грузавым караблі, які раніцай выправіцца ў Паўднёвую Афрыку, Шатляндыю, Лацінскую Амерыку альбо ў Сібір, стварыць новую сям'ю і новае жыцьцё ў новым месцы. Ці то з каменным вугалем ехаць, ці то яшчэ з чым – не істотна, галоўнае – уцячы, бо ягоны бацька мае ўгоду са сваім сябрам, гандляром мяса, каб той аддаў за яго дачку, страшэнна непрыгожую, саплівую й касавокую! Рашэньне аб уцёках было прынятае імгненна, дачка рыбнай гандляркі сама даўно хацела зьбегчы ад злых бацькоў.

Наступным ранкам рудая дзяўчына не знайшла свайго каханага на Рынкавай плошчы. Чайкі распавялі ёй, што ён уцёк зь іншай. Яна кінула на бруканку хрызантэму й пайшла да пляжу, зь якога было відаць, як з бухты выплываюць у адкрытае мора караблі. Яна ступала, і за ёй цягнуліся ўскудлачаныя брудныя валасы, якія сталі прытулкам птушак і кузюрак, кавалкаў хлеба, рыбы й вэнджаных каўбасаў. Сьледам ляцелі чайкі, альбатросы й галубы, а сукенка, вытканая з вудзільнай сеткі, вяла за сабой зграю сабак, пацукоў і вожыкаў, якімі кіравала панчохавая лялька, пакідаючы ў вачах жывёлінаў водбліскі мэталічнага гузіка. Усе яны жудасна крычалі, брахалі й сычэлі, клікалі хлопца, клікалі шчасьце, якое не ажыцьцявілася, клікалі цьмяную



*Маці дзяўчыны даўно памерла, яна не вінавацiла сябе, хоць цела ейнай нерухомай дачкі гэтак і стаяла перад вачыма, гэтак і ляжалі вакол на падлозе раструшчаныя яйкі, белае й жоўтае, жоўтае й белае.*

любоў. Дзяўчына ішла, адрывала па валаску са сваіх пасмаў і кідала іх долу, лялька сплятала зь іх ніткі, заплятала павуціньне й траву.

Дайшоўшы да вады, дзяўчо зірнула ўдалечыню. На хвалях гайдаўся вялізны карабель, які, павольна праплыўшы яшчэ пару мэтраў, пачаў хіліцца ўбок, і гэтаксама павольна, як плыў, ён пайшоў на дно.

З тае пары рудое дзяўчо штодня выходзіць на pludmali[4] і лічыць, колькі нагружаных чоўнаў выходзіць з порту. Вырывае адзін руды валасок і пачынае намотваць яго на пальчык, і калі валасок зробіць цотную колькасьць абаротаў, караблі спакойна даплывуць да месца прыбыцьця. Але тыя судны, якім не пашчасьціла трапіць на няцот, часта трапляюць у штормы, губляюць маракоў і прыходзяць ня ў тыя парты. Бывае, што яны аказваюцца парожнімі, а маракі – шалёнымі й прапахлымі ня морам, але хрызантэмамі. Таму капітаны караблёў, як пачуюць жудасныя крыкі шматлікай колькасці чаек і зьвяр'я на пляжы, адразу сьпяшаюцца выйсьці як найхутчэй з порту, выплываючы й прамаўляючы: «Paldies Dievam!»[5] Але кажуць, што цяпер тыя гукі сталі зусім рэдкія – можа, яны аслаблі ад крыўды й пустога каханьня, а можа, згубілі на тое веру.

Маці дзяўчыны ўжо даўно памерла, яна не вінавацiла сябе, хоць цела ейнай нерухомай дачкі гэтак і стаяла перад вачыма, гэтак і ляжалі вакол на падлозе раструшчаныя яйкі, белае й жоўтае, жоўтае й белае. Толькі рудое дзяўчо нічога пра гэта ня ведае, проста ходзіць сваімі сьцежкамі з рынку на пляж па справах – дый проста так, пастаяць, пачакаць кагосьці.

*Кастрычнік 2012*
*Вэнтсьпілс, Латвія*

[4] Пляж (лат.).
[5] Дзякуй Богу! (лат.)

# ДЖУСТУС, ВЯЛІКІ І НЕПАКОРЛІВЫ

## ПРА МАЛЕНЬКАГА ФЛОРЫЯНА, ЯКІ ЗМАГАЎСЯ З ЧАСАМ

– Флорыян, даражэнькі, ты дзе?! Фло-о-оры-ы-ы-я-ан! Мы можам спазьніцца, сынку! – Іво, ягоная маці, ціўкала, хвалявалася і лётала па кватэры ўтрая шпарчэй, чым звычайна.

Сёньняшні дзень – асаблівы для сям'і Рычаў, сьвяточны, сёньняшні вечар – незвычайны вечар, бо гэтак супала, што ў горад прыехаў велічэзны парк забаваў, самы сапраўдны цырк з атракцыёнамі, падобны да перадкаляднага кірмашу, але толькі ўлетку, і ня проста парк з карусэлямі, але парк з цыркам, маленькім заапаркам і чортавым колам, якое, калі яго змантавалі, стала відочнае амаль усім жыхарам з кожнай ускраіны мястэчка на ўзьбярэжжы. Гэтае кола на колькі тыдняў ператварылася ў сымбаль гораду, такая сабе часовая тутэйшая Эйфэлева вежа.

Сёньняшні вечар асаблівы, бо ў мамы дзень нараджэньня, які яна зьбіралася сьвяткаваць дома. Але раніцаю, калі маленькі Фло толькі расплюшчыў вочы, ён пабачыў перад сваім тварам бацькаву зарослую мядзьведжую пысу ў акулярах і маміну птушыную дзюбку. І бацька сказаў:

– Сынку, сёньня мы адзначаем мамін дзень народзінаў ня дома! Паедзем забаўляцца ў парк! Я асабіста гатовы на агляднае кола, горкі, салодкую вату і цір, – бацька засьмяяўся, і ўсё ягонае цела сьмешна затрэслася, пайшло хвалямі.



*– Сынку, сёньня мы адзначаем мамін дзень народзінаў ня дома! Паедзем забаўляцца ў парк! Я асабіста гатовы на аглядное кола, горкі, салодкую вату і цір.*

Флорыян спачатку і ня чуў бацькавага голасу, які цяжкім рэхам азываўся недзе ўнутры жывата, але паступова, як прачынаўся, усё больш ясна разумеў сэнс бацькавых словаў.

Праз сэкунду малы ўжо скокаў на ложку. Парк! Парк! Парк!

Самае галоўнае на сёньня. Флорыян знайшоў пад падушкай сабачку, шкарпэткавага Старкі з гузікавымі вачыма. Хлопчыку забаранілі мець жывога сабаку, бо мама казала, што ён ня будзе яго даглядаць, а бацька сказаў, што выгульваць ня возьмецца, таму Старкі – нацягнутая на руку шкарпэтка з прышытымі гузікамі ды павіслымі вушамі з тканіны – быў самым верным сабакам, якога толькі магчыма знайсьці на сьвеце.

Флорыян спачатку схадзіў у прыбіральню, вымыў рукі ды пачысьціў зубы, апісваючы шчоткай круг – рыхтык як кола агляду ў парку дзівосаў. Спачатку ў адзін бок сьпераду, потым па паверхні зубоў ніжняй сківіцы... потым углыб... і кола ў іншым кірунку. Затым Фло пачысьціў зубы, паўтараючы рух вагончыкаў падчас пад'ёму і спуску на Супэргорках. Далей хлопчык пачаў кружляць па зубах і дзяснах хаатычна, то ўверх, то ўбок, то па коле, то рэзка па дыяганалі, такім чынам ён ужо езьдзіў на электракары, зьбіваючы іншых са шляху, а часам трапляючы пад чыйсьці трапны фінт. Гумовыя бампэры машынак адскоквалі адзін ад аднаго, ну літаральна як шчотка ад языка.

Потым Флорыян еў кукурузныя чакалядныя шарыкі з малаком і расьцягнуў асалоду настолькі, што шарыкі размоклі, уся смаката ператварылася ў кашу, адно кавалачкі яблыка заставаліся як трэба.

Фло сачыў за часам і паціху вылоўліваў лыжкай яблыкі ды накіроўваў кавалачкі ў рот, быццам гэта і ня лыжка зусім, а бесьпілотнік, які лётае над кірмашом. Ён любіў гуляцца, нават забываўся на час. Маці з бацькам не зьвярталі ўвагі на сына, той мог і да вечара праседзець за кухонным сталом.

Мама гутарыла па тэлефоне, паглядаючы на сябе ў люстэрка каля шафы, няўзнак папраўляла на галаве валасы, нібыта пер'е, і рабіла вуснамі птушыную дзюбку.

Маці клала слухаўку, толькі каб праз хвіліну набраць іншую сяброўку і паведаміць той пра новыя пляны на сьвяточны вечар альбо ўзгадніць час сустрэчы.

Тата, заваліўшыся на канапу гэтак, што тая зарыпела і рассунула свае маленечкія ножкі ў розныя бакі, зьбіраўся крыху адпачыць пасьля цяжкага сьняданку:



*Тата, заваліўшыся на канапу гэтак, што тая зарыпела і рассунула свае маленечкія ножкі ў розныя бакі, зьбіраўся крыху адпачыць пасьля цяжкага сьняданку.*

смажаныя яйкі, курыная катлета, салата, кавалак вішнёвага пірага і два кубкі кавы. Прычым два кубкі моцнай кавы – каб не цягнула на сон пасьля ежы, бо выходны дзень такі сонечны, радасны... хочацца паназіраць за ім, пражыць лепш за астатнія дні. Але праз пяць хвілінаў бацька ўжо па-мядзьведжы соп і хроп, яму нават плед не патрэбны быў, каб ня зьмерзнуць падчас пасьняданкавага сну, ягоная поўсьць была такая густая, што магла сагрэць дзесяць такіх дзетак, як Флорыян.

Хлопчык назіраў за бацькамі ды разважаў, што трэба прыдумаць, як змарнаваць час, бо чакаць да пятай вечара – гэта як чакаць палову жыцьця. Трэба тэрмінова нешта прыдумаць. Напэўна, можна за дзень пабудаваць зь «Лега» велічэзную вежу. Самую вялікую, вышэйшую за яго.

Флорыян, як вучыла маці, паставіў талерку з малочна-чакалядна-кукурузнай кашай у чарупіну, забыўшыся, што ставіць талеркі зь недаедзенай ежай забаронена, паназіраў, як ягоны сьняданак сьцякае па іншым посудзе ў трубу, а яблык захрасае, і пабег у свой пакой, абмінуўшы ложак з сонным бацькам і прасьлізнуўшы за сьпінай мамы, якая цяпер разглядала твар у люстэрка, не адрываючыся ад тэлефона.

Флорыян бяз роздумаў вываліў з скрынкі ўвесь канструктар на дыван і пачаў будаваць вежу. Спачатку падмурак... Вось знайшоўся адразу куб, дадамо яго да прастакутніка, а зьверху для прыгажосьці можна насыпаць бліскучых кружкоў, яны будуць нібыта натуральныя камяні, што ўмацоўваюць падмурак... Так, вось можна яшчэ гэтых плястынак пакласьці ды замацаваць усё шэрагам паралелепіпэдаў. І не забыцца на вокны, на лега-краткі ды лесьвіцы, дахі і доўгія плястыкавыя палоскі.

Фло не канцэнтраваўся на гульні з канструктарам, ён паглядаў на гадзіньнікі, але стрэлка ня рухалася, час не сьпяшаўся, у адрозьненьне ад хлопца. На цыфэрблятах – нерухомыя дванаццаць нуль пяць.

Хлопчык яшчэ колькі хвілінаў памарудзіў, гуляючы з канструктарам, пакуль пад руку ня трапіў маленькі лега-самалёцік, які ён учора сабраў. Самалёцік выйшаў сьмешны, непрадказальны ў сваіх магчымасьцях лётаць, але затое свой, бліжэйшы за астатнія цацкі, бо створаны ўласнаручна. Крылы самалёціка былі пазычаныя ад дзьвярэй грузавіка, колы – зь лега-джыпа, кабіна – ад будаўнічага лега-крана. Старкі схапіў самалёт і кінуўся пад ложак, а Фло за ім, напалохаўшы пылавых трусікаў, якія кінуліся ўроссып круглымі камякамі па кутах.

## ПРА ТОЕ, ЯК ЗАЗВЫЧАЙ СКЛАДАНА САБРАЦЦА КУДЫСЬЦІ ХУТКА

– Сынок! Час зьбірацца! – маці гучна паведамляла з залі, дзе сядзела за пісьмовым сталом і раздрукоўвала з кампутара сьпіс пакупак і падрахунак фінансавых выдаткаў на атракцыёнах.

– Іво, слухай, ён зноў у касманаўта гуляе. Напэўна, заснуў там пад ложкам, трэба праверыць, – бацька, цяжка падняўшыся і ступаючы як слон, рушыў у сынаў пакой.

– Так, Якаб, схадзі па яго, а я пакуль падлічу ўсю нашую гатоўку ў гаманцах.

Крок за крокам, цяжка падымаючыся на другі паверх, бацька напяваў штосьці да болю знаёмае. Ён быў у гуморы, прадчуваючы вечаровыя забавы на кірмашы.

Вядома, ён не зьбіраўся хадзіць на атракцыёны і ня быў настроены страляць у ціры або закідаць баскетбольны мяч у кошык. Якаб бачыў перад сваімі вачыма кебаб, і ня проста нейкі невядомы кебаб, ён бачыў кебаб каралеўскі, кебаб з лаўкі атракцыёнаў, нечуваных памераў, сакавіты і гарачы, з соўсам і пад піва. А калі да кебаба дадаць сто грамаў брэндзі, то вечар зробіцца незабыўным сьвятам! А потым, падсілкаваўшыся, зноў паўтарыць: сто брэндзі, і грэцкую салату замовіць.

Мужчына адчыняе дзьверы ў сынаў пакой і адразу здагадваецца, што напалову ссунутая долу коўдра хавае пад ложкам Флорыяна, які даўно ўжо сьпіць.

– Капітан, прашу прызямленьня! Капітан Флорыян! Гэта Зямля!

Па коўдры прабягае хваля, спачатку лёгкая і амаль непрыкметная, затым другая, і вось на трэцяй хвалі коўдра спаўзае на падлогу і з-пад ложка выскоквае Флорыян.

– Наш карабель пасьпяхова прызямліўся! Каторая гадзіна? Я гатовы ехаць!

– Спачатку прыбіраемся ў пакоі! Што гэта тут? Паўсюль «Лега» раскіданы, шкарпэткі, машынкі, коўдра на падлозе.

Штодня трэба прыбіраць. Штодня рабіць гэтую непатрэбную справу. Навошта прыбірацца, калі ўсё роўна будзе брудна!? Бацькі на гэта адкажуць, што жыць у гразюцы нельга, бо мы людзі, а людзі прыбіраюцца, як і большасьць культурных жывёлінаў, ну, акрамя парсючкоў і некаторых драпежнікаў. Флорыян коўзаецца па дыване і складае ў скрынку канструктар. Ён натрапіў на сваю рознакаляровую шкарпэтку, даўгую і ў палоскі, і нацягнуў шкарпэтку на руку, і тая адразу ажыла і высалапіла язык.

Бацька спусьціўся на першы паверх, ягоны поступ быў гучны, з трэскам і болем, і як толькі Якаб апынуўся ўнізе, атрымаў ад жонкі традыцыйнае: «Ты калі нарэшце на дыету сядзеш? А? Ледзь ходзіш ужо! Натуральна! Мядзьведзіна!»

Хвіліна – і Фло весела бег па сходах уніз. Так шпарка, што ледзь ня зьбіў з ног маці, якая, палічыўшы ўсе грошы і запэўніўшыся, што крэдытныя карткі на месцы, зноў стаяла пры люстэрку. Флорыян праляцеў куляю наўпрост на пухнаты белы дыван пасярэдзіне залі. Старкі скокнуў наперад і ня даў яму пабіць лоб і нос, падклаўшыся пад галаву.

Іво прадчувала, як сяброўкі будуць яе разглядаць, у думках абмяркоўваць яе дзень народзінаў і ўзрост. Але насамрэч няма чаго тут абмяркоўваць, бо яна ў прыўкраснай форме, а яе прыгажосьць, як і ў дваццаць, усё такая ж сьвежая і непаўторная...

Іво глядзелася ў люстэрка, калі Фло гучна прызямліўся.

– А ну ня лётаць па доме! Усе сабраліся? Выклікаем таксоўку! – хутчэй сабе, чым каму іншаму, загадала Іво, адвярнулася ад люстэрка і ўбачыла, што абодва яе мужчыны ўжо стаяць у дзьвярах. Адзін выклікае таксоўку, другі размаўляе са шкарпэткавым сабачкам.

– Фло, што я табе казала? Шкарпэткі – рэч брудная, пагатоў гэтая, ты ня мыў яе месяц.

– Гэта не шкарпэтка! – абурыўся хлопчык.

## ПРА ТОЕ,<br>ЯК УСЯ СЯМ’Я ДАБІРАЛАСЯ ДА ПАРКУ ДЗІВОСАЎ

Таксоўка нарэшце выскачыла з маленькіх вулічных кішак і трапіла на праспэкт, а гэта значыць, яны паедуць утрая хутчэй, ня трэба будзе чакаць на сьвятлафорах і зэбрах, пакуль пройдуць мінакі, пакуль праедуць усе тыя раварысты, якія і так праскочаць, парушаючы правілы, на чырвоны. Галоўная вуліца, і тут кіроўца таксоўкі ня будзе гэтак часта карыстацца клаксонам. Брукаванка скончылася, толькі стрункі праспэкт да моста – і такі ж роўны, як страла, пасьля. А там, бач, – і на гарызонце ўжо будзе ня толькі агляднае кола, але і галоўны вялікі цыркавы шацёр, намёты, шапікі, кавярні ды агні, шмат ліхтароў, лямпачак, сьцяжкоў, канфэці ды гірляндаў, дзіцячых горак і розных забаваў. І ўсё гэта каля мора, уздоўж берагу, недалёка

ад галоўнага пляжу. Парк дзівосаў, быццам васьміног, выпаўз з мора ды раскінуўся перад горадам, адкрываючы свае нетры.

– Значыць, так, будзе Валерыя і дзьве яе дачкі-блізьняткі…

– Ох, ізноў гэтая твая Вале-е-ерыя! Дурная жанчына, балбоча без супыну! Адны плёткі, абмеркаваньне адзежы і суседзяў!

– А я цябе не прымушаю яе слухаць, можаш браць Флорыяна і шыбаваць зь ім на атракцыёны, мо цябе, такога габарытнага, куды і пусьцяць!

– Ладна, пабачым, мо і пайду… Хто яшчэ будзе?

– Джульета прыедзе, абяцала не спазьняцца. Са старэйшым будзе, бо малодшы дома з бацькам застаўся, хварэе.

– Ага, зразумела… Ну, можа быць, ён і будзе даглядаць нашага…

– Ну і я яшчэ сваю Сафію паклікала. Толькі, калі ласка, ня трэба на яе глядзець такім злосным позіркам, нібыта зьбіраесься забіць. Ты яе заўсёды пужаеш!

– Вядома! Пужаю я яе! Яна не разумее, што я на яе нармальна гляджу, проста яна часам такое выдае, што ажно хоць вушы адарві і зьеж! Чуць гэтага не хачу!

– Нармальная яна жанчына, проста такая своеасаблівая! А ты занадта крытычна да ўсяго ставісься!

– Ага, таму ў яе мужа і дзяцей няма!

– Слухай, я, можа быць, і сама была б радая, каб у мяне хаця б часам не было дзяцей і мужа! Мужа, які толькі і робіць дома дзьве рэчы: сьпіць і есьць.

– Бо я цяжка працую…

– Цябе ніхто не прымушаў шмат і цяжка працаваць!

– Але я кармлю сям’ю!

– Гледзячы на цябе, можна падумаць, што ты сам сябе толькі і корміш!

Таксоўка ляцела наперад, бацькі ззаду, як звычайна, спрачаліся, а Флорыян, прыадчыніўшы вакно, высунуў свайго Старкі, і той, весела падставіўшы пыску ветру, высалапіў ніцяны язык, і той гайдаўся, як стары карабельны канат.

Нягледзячы на тое што бацькі зноў не маглі паразумецца і нацягвалі дыялёг, нібыта струну на гітары, пакуль тая не парвецца, Флорыян марыў, што на кірмашы ён спачатку возьме салодкай ваты! І потым папкорн! А зап’е гэта цытрынавым сокам! А потым! А потым ён зьесьць банан у чакаляднай паліўцы і, калі застанецца месца, – мармэлядных чарвячкоў! Але, напэўна, мама яму дазволіць выбраць штосьці адно з усяго гэтага хараства. Сумна, але давядзецца выбіраць.

Машына, падскокнуўшы, ужо ехала па старым брукаваным мосьце. Пасажыры разам з кіроўцам пачалі дробна трэсьціся на сваіх месцах, і ў гэты момант Іво, якая, распачаўшы даўгі маналёг пра мужа, ягоную працу, злоўжываньне ежай і нелюбоў да сяброваk, пачала весела сьмяяцца, бо гэта было відавочна сьмешна, калі яна, такая злосная і пакрыўджаная, спрабуе штосьці прамовіць Якабу, але атрымліваецца толькі «Бэ-э-э-э-э», бо старая брукаванка не дае нармальна гутарыць.

Жончын сьмех падхоплівае Якаб, ён любіць, калі Іво сварыцца, яна робіцца напорыстай, жорсткай і адначасова такой прывабнай, а тут яшчэ да ўсяго і такой сьмешнай, што трываць немагчыма.

Флорыян глядзіць на іх – і яму робіцца і сьмешна, і страшна, бо гэта заўсёды сьмешна, калі бацькі радуюцца, як дзеці, але страшна, бо літаральна толькі што яны сварыліся.

Мост скончыўся, сьмех – не.

Таксоўка спынілася. Сям'я малога Фло ступіла на ходнікі, перад імі быў уваход у форме вялікага вока, зрэнка наросхрыст, усяго адна прыступка – і ты пасярод шумнага карнавалу!

Над дзьвярыма-вачыма пералівалася ўсімі колерамі шыльда «ДЖУСТУС, ВЯЛІКІ І НЕПАКОРЛІВЫ, ВІТАЕ Ў СВАІМ КАРАЛЕЎСТВЕ ЎСЁДАЗВОЛЕНАСЬЦІ І ШЧАСЬЦЯ» і драбнейшымі літарамі: «Пакінь увесь свой смутак вонкі».

– Мне падабаюцца і назва, і парада, і гэты ўваход! Хутчэй! – амаль што пракрычаў Якаб і цяжка патупаў наперад, адчуваючы, як у роце зьбіраецца сьліна, бо пахі вакол, такія пахі… І шашлык, і вэнджаны вугор… і нават магчыма рассмакаваць у паветры запечаную качку!

## ПРА ТОЕ, ЯК НАРЭШЦЕ СУСТРЭЛІСЯ ЎСЕ, ХТО ЗЬБІРАЎСЯ СУСТРЭЦЦА

Навокал панаваў пах тлустай рыбы, дзесьці над галовамі тужліва і рэзка крычалі чайкі. Усё тут выглядала таямніча, а паху быццам ніхто і не адчуваў, як і ня чуў жаласьлівых крыкаў чаек, якія нібыта пра штосьці папярэджвалі Фло і ягоных бацькоў. Кіроўца таксоўкі, разварочваючыся, злавіў у люстэрка сваіх пасажыраў, і ягонае сэрца ахінула холадам. Кіроўца пасьпяшаўся як мага хутчэй зьехаць.

І вось сям'я апынулася за прыступкамі парку, у віры гучнай музыкі, крыкаў дзяцей. Хтосьці віскатаў ад радасьці, а хтосьці з горкі ляцеў і крычаў ад вусьцішы, захапленьня і адрэналіну, выкінутага ў кроў буйной порцыяй.

– Я прапанавала сустрэцца каля ўваходу ў бліжэйшую кавярню, – сказала Іво і пачала вызіраць сяброўак, імкнучыся выхапіць іх з шматкаляровасьці кірмашу, дзе лёталі балёнікі розных формаў і адценьняў, выбухалі хлапушкі, плылі людзі зь дзецьмі, мяккімі цацкамі, мыльнымі бурбалкамі ды салодкімі мармэляднымі чарвячкамі.

– Ага, чакай, я ня думаю, што твая Джульета ці Валерыя пагодзяцца на бліжэйшае кафэ. Я думаю, яны засядуць у самым патасным месцы! – прамармытаў пад нос Якаб.

– Дарагі, мы на кірмашы, сярод карусэляў і салодкай ваты з папкорнам! Якія патасныя месцы? Хутчэй нейкая сталоўка будзе, ну, можа крыху лепш.

І тут перад вачыма сужэнцаў паўстала самая сапраўдная ці то рэстарацыя, ці то бар, а мо і кебабная, бо Якаб адразу ўбачыў, што на шыльдзе ў мэню – сьвіныя ногі і кебаб, а Іво прачытала, што тут сёньня гатуюць «Касмаполітэн», іхны зь дзяўчатамі любімы кактэйль.

– Вось гэта тое, што трэба! Я думаю, тут яны і будуць! Зараз пазваню Валі!

Пакуль Іво даставала тэлефон, да іх з рэстарацыі выбеглі блізьняткі Да і Ма, і давай лётаць вакол Фло, Якаба і Іво ды сьпяваць:

– Хэпі бёздэй ту ю! Хэпі бёздэй, дарагая цёця Іво! Хэпі бёздэй ту ю!

Усе ўвайшлі ў рэстарацыю, якая звалася «Гула», а за сталом ужо сядзелі Валерыя і Джульета ды чакалі сям'ю Рычаў.

Кампанія толькі пасьпела замовіць кактэйлі і пачаць піць, але Валерыя ўжо расчырванелася.

– Сафія папярэдзіла, што не прыедзе, сказала, што ня любіць гэтых кірмашоў і паркаў дзівосаў, лічыць іх спараджэньнем д'ябла, а цыркі ўвогуле катуюць жывёлін. Сказала, што цябе, Іво, павіншуе потым, прыедзе ў іншы дзень, – патлумачыла Джульета.

– Я ж табе казаў, што яна вар'ятка нейкая, – усьміхнуўшыся, прамовіў Якаб, – магла б дзеля дня нараджэньня і...

– Што ты кажаш! Яна мая сяброўка і мае права! – рэзка адказала Іво.

## ПРА ТОЕ,
## ШТО ЗЛОЎЖЫВАНЬНЕ ЧЫМ ЗАЎГОДНА МОЖА НАШКОДЗІЦЬ

Вакол іх усчалася мітусьня, такая самая, як за суседнімі столікамі. Пры кожным стале былі афіцыянты, падобныя адзін да аднаго ня толькі працоўным строем, але і абліччам. І ўзростам – такія хутчэй падлеткі, якім наўрад ці можна працаваць. Перад кожнай жанчынай афіцыянт паставіў кактэйль, а Якабу прынёс двухлітровы куфаль вадкасьці, што колерам нагадвала нефільтраванае піва, але замест пены з куфля ішла пара і распускалася ў паветры. «Гэта за кошт рэстарацыі, наш фірмовы эль і першыя кактэйлі для імяніньніцы і яе сяброўак – бясплатна», – прамовіў афіцыянт і ўсьміхнуўся, але неяк няўдала, на твары мільгануў зьмяіны абрыс вуснаў, але гэта было так незаўважна, што Якаб палічыў тое за гульню ценяў.

Якаб сербануў трыма глыткамі трацiну элю, і ў ягонай галаве праляцелі выявы нейкіх цудоўных мясьцінаў, казачны лес, возера, неба, празрыстае і чыстае, па якім лётаюць толькі фэі, – неба такое, быццам і ня неба, але празрыстае мора, з хвалямі-аблокамі. Смак напою быў неверагодна мяккі, чысты і адначасова моцны – ажно займала дых.

– Гэта самае смачнае піва, якое я каштаваў у жыцьці! – пракрычаў Якаб, выпусьціўшы адрыжку, і адразу папрасіў яшчэ два куфлі. Іво вачыма выбачылася за тое, што ў яе такі муж.

Побач, на канапе, сядзелі тры сяброўкі, п’ючы адзін «Касмаполітэн» за другім, гучна гутарылі, і кожная жанчына спрабавала іншую перагаварыць, але ўдавалася трымаць тэмп і не зьбівацца нават на выдыху адно Валерыі: яна гэтак утрапёна мянціла языком, што за думкамі гэтай балаболкі было цяжка прасачыць. Нарэшце, стаміўшыся слухаць і таксама штосьці выкрыкваць, Іво згадала, што Флорыяна трэба выправіць гуляць разам зь Мікам, які, як сказала Джульета, адразу па прыезьдзе сюды некуды зьнік.

Іво павярнулася да сяброўкі і папрасіла пазваніць Міку. Пакуль Джульета званіла свайму старэйшаму сыну, Флорыян, седзячы на краёчку бацькавага зэдліка, ціхенька, нікім не заўважаны, бо на яго не зьвярталі ўвагі, карміў хлебнымі крошкамі Старкі, а той іх еў, і нават нічога не выпадала з тканевай пашчы.

– Ага, зараз прыйдзе Мік, забярэ Флорыяна і блізьнятак Валерыі – дарэчы, дзе яны?

– А вунь, каля дзьвярэй, балёнікі ловяць, якія ім афіцыянт надзімае, – кажа Іво і прымружваецца: – Слухай, Джу, а гэта ня наш афіцыянт? Здаецца, наш! А мы ж ежу замаўлялі!

І тут, як Піліп з канапель, перад сталом зьяўляецца хлопец, і ў ягоных руках велічэзная таца.

– Ух, ну вы і спужалі мяне! Малады чалавек! – ускрыкнула Іво.

– Выбачайце, – суха прамовіў хлопец і пачаў жангляваць талеркамі з шашлыком, сьвінымі нагамі, кебабам.

– О, як ён ладна гуляецца з ежаю! Во малайца! – Якаб, ужо нападпітку, падскокваў на двух зэдліках, а тыя толькі рыпелі, але мужна трымалі цела. І тут, калі афіцыянт нахіліўся паставіць талеркі на стол, Якабу здалося, што хлопец нейкі надта малады, каб працаваць: – Слухай, а колькі табе год, дружа?

– Ой не… ну… год колькі, ён запытваецца, – забалбатала яшчэ гучней Валерыя. – Ты зірні, дзе мы! Боўдзіла! Гэта цырк! Гэта ж цыганы! У іх дзеці ўсе на адзін твар, ды яшчэ з маленства працуюць, хто больш здольны – у цырку, хто целяпень, як вось гэты, – афіцыянтам! Гэта такая тут рэальнасьць, і я лічу, што дooобра! Бо яны ня швээндаюцца галодныя і халодныя па, па, па вуліцааах! – Валерыя казала ўсё хутчэй, і ў яе замест словаў пачалі выходзіць бязладныя гукі: – Мэвэ фэшэ э э э э э э я і так тактак і сю му-ну-мы!

Афіцыянт нічога не адказаў. Паставіўшы талеркі, ён сышоў, але на яго ўжо і так ніхто не зьвяртаў увагі. Якаб хапаў мяса рукамі, закручваючы кавалкі ў салатныя лісты, бо гэта шашлык, і есьці яго трэба толькі так – як, дарэчы, і піцу – толькі рукамі.

Валерыя п’е, напэўна, пяты кактэйль і балбоча, але ня так замінае Іво і Джу, як спачатку. Іво знайшла сваё адлюстраваньне ў келіху і любавалася сабою. «Якая я ўсё-ткі прыгожая, такая маладая, нягледзячы на сёньняшні саракавы дзень нараджэньня, такая апэтытная! Што я раблю з гэтым парсюком?» – думала Іво, пакуль Джу шамацела ёй у правае вуха:

– Ну дык вось, я набыла вось гэтую кашулю, уяўляеш, у «Манга» і са зьніжкаю семдзесят адсоткаў, разумееш, яна абсалютна крутая, я б яе і бязь зніжкі ўзяла… А потым, бачыш, не, ну ты бачыш гэтыя акуляры ў мяне на галаве? Чатырыста пяцьдзясят эўра! Чатырыста пяцьдзясят эўра! ЧАТЫРЫСТА ПЯЦЬДЗЯСЯТ ЭЎРА! А? Крута, га?! Але я насамрэч не зьбіралася так дорага іх браць, я іх памерала і бачу: ну ўсё, зорка! І кошт – дзьвесьце эўра! Ну, я такая толькі на касе ўжо чую: чатырыста пяцьдзясят эўра. Не адступаць жа мне, я ж прыўкрасная супэрлэдзі, за мною ўжо чарга,

што яны падумаюць – што я галадранка якая? Я і набыла іх удвая даражэй! Цудоўныя акуляры, ты толькі паглядзі, як яны мне пасуюць! – і Джульета перасоўвае акуляры з галавы на нос.

У рэстарацыю зайшоў Мік і з парога зразумеў, што за сталом усе добра выпілі, бо зрабіліся гучнымі, неахайнымі, няўважлівымі, вунь цётцы Валерыі нават мову заняло, а дзядзька Якаб... Як можна столькі есьці? Напэўна, такіх у вайну першымі касілі з аўтаматаў, бо неразваротлівыя, а мо да ваенных дзеяньняў яны і не даяжджалі, паміралі ад сэрца.

– Ну што такое, мне цяпер увесь вечар сачыць за гэтымі трыма малымі?! – пачаў, дайшоўшы да стала, Мік.

– Так, і пільна! – прамовілі Іво і Джу амаль разам.

– Мэ ў а эээ оооо я уттут маку кака!

– Ладна, давайце мне малых.

– І каб на званкі адказваў! – цьвёрда загадала Джульета.

– Ага, і каб гэта, ну таго... – нешта пачаў казаць Якаб, але куфаль з элем спыніў усе гукі.

## ПРА ТОЕ,
## ЯК У РЭСТАРАЦЫІ ПАЧЫНАЮЦЬ АДБЫВАЦЦА ДЗІЎНЫЯ РЭЧЫ

Мік на пяць гадоў старэйшы за Флорыяна, ён ужо быў падлетак, таму і паводзіўся адпаведна. Мік рабіў выгляд, што ён ідзе адзін, Фло і блізьняткам даводзілася амаль бегчы за ім. Падлетак саромеўся, што на яго пакінулі малых, бо ён жа дарослы, а даводзіцца вазіцца зь нейкімі дзецьмі. Хай сабе ягоны малодшы брат, Мік яго нават за руку можа ўзяць, калі яны пераходзяць дарогу альбо па краме ідуць, але тое брат, а гэта проста чужая малеча.

Мік не зьбіраўся бадзяцца па ўсім парку, пагатоў у ягоныя пляны не ўваходзіў выгул Флорыяна, Да і Ма. Калі хлопец пабачыў неабходную яму шыльду, ён спыніўся і абярнуўся да малых, ды так раптоўна, што Фло, які намагаўся не адставаць ад вялікіх крокаў хлопца, даўся яму галавой у жывот. А дзяўчынкі сутыкнуліся ўжо з Флорыянам.

– Так, драбяза, я вам ня нянька, грошы вам бацькі далі – ідзіце на свае карусэлькі. А я ў цір. Калі што, сустракаемся праз гадзіну каля вось гэтага вялікага намёту, бачыце, што тут напісана?

– Так, – адказаў Флорыян.

– Ты ладна ўжо, – усьміхнуўся хлопец, – мне цікава, ці малыя Да і Ма ведаюць, дзе мы сустракаемся і што тут напісана!

– Цір! – хорам, з ноткай крыўды адказалі блізьняты.

– Вось тут сустракаемся. Калі што, заходзіце ўсярэдзіну і знаходзіце мяне, але прашу вас, толькі не турбуйце мяне проста так, бо вам сумна. Толькі як нешта пільнае! – і Мік паказаў дзецям кулак. – Інакш мала не пакажацца.

У рэстарацыі бяседа набывала жахлівыя рысы, праходзіў сымпозіюм пітва, ежы і самазакаханасьці. Якаб на вачах акругляўся, быццам шар, ягоныя пальцы апухлі ды раздзьмуліся, як сардэлькі, шлюбны пярсьцёнак схаваўся ў складках скуры, пазногці павыкручвала вонкі, а ён не заўважаў – ён трымаў сакавітую, засмажаную на барбэкю каўбаску, мачаў яе ў соўс кары і еў: раз надкусіць, другім разам рэшткі закідае ў рот. Гэтыя нямецкія братвюрсты выглядалі ў ягоных руках меншымі за пальцы. Якаб аблізваў свае тлустыя, выпацканыя вусны, далоньню выціраў вусны і бараду, запіваў усё ладнымі глыткамі элю. На ягоным целе пачала разыходзіцца кашуля, а рэмень на пузе расшпіліўся – і добра, інакш бы лопнуў. Якаб на сэкунду спыніўся, зьнерухомеў, адчуў, як штосьці клякоча ў пузе... яшчэ імгненьне, і ён рыгае. Ажно шкло ў вокнах задрыжэла. «Ох, добра як, ледзь ня трэснуў!» – зарагатаў Якаб і працягнуў жэрці, і ягоныя вочы, у якіх мільгануў неспакой, зноў сканцэнтраваліся на ежы. Флорыянавага бацьку рыхтык нехта загіпнатызаваў.

А тым часам жанчыны, старыя сяброўкі, якія за доўгі час не навучыліся гутарыць адна з адной, яшчэ ніколі ў жыцьці не былі так шчыра апантаныя сваімі любімымі справамі. Зразумела, калі яны заставаліся на самоце, то Іво абсалютна свабодна любавалася ў люстэрках сваім хараством, другая, Джульета, як вар’ятка, хадзіла па крамах і называла гэта шопінг-тэрапіяй, штодня набываючы нейкія бразготкі, а трэцяя, Валерыя, магла балбатаць суткамі, распавядаючы новыя плёткі ды што яна чула ў грамадзкім транспарце, ад мінакоў, на працы, у краме і нават пад вакном ад суседзкіх бабулек.

– Не, ну я не магу, гэта ж на табе апошняя калекцыя «Армані», я такую кашульку тыдзень таму набывала, хадзіла ў ёй увесь вечар па кватэры, во якая хатняя вечарынка была!

– Слухай, а чым тут вакол пахне? Фе!

– Ну што такое, што! Зірні, якая ў цябе кашуля! Цуд!

– Ээээээ! Да! Цу-цу-цу вывывыхахаха... ууууу!

– Ой, я вас так люблю, дзеванькі, давайце вып’ем.

І ў кожнай у руцэ зьявіўся новы кактэйль… і ніхто зь іх не зьвяртаў увагі на навакольле, на тое, што Якаб жарэ, што ўвесь стол проста завалены ежай, што афіцыянты ўжо не хаваюць сваіх зьмяіных ратоў і што суседнія сталы жывуць асобным жыцьцём: жанчына побач сьмяецца і плача, бо ёй даводзіцца есьці такія смачныя сушы, а спыніцца яна ня можа, і ёй млосна, а зусім маладое дзяўчо за дальнім сталом ніяк ня можа суняць сьмех, і ўжо напэўна і хацела б, гэта відаць у спужаных вачох, але вусны ўсё расьцягваюцца і расьцягваюцца, а хлопец побач такі шчасны, што можа яе сьмяшыць, і, ужо ня ведаючы, чым бы яшчэ яе пазабавіць, круціць галавою ў розныя бакі, а шыя ягоная спружыніць, як у балванчыка, аўтамабільнай цацкі.

## ПРА ТОЕ,
## ЯК РАЗЬМЕРКАВАЦЬ СВАЕ МАНЭТКІ НА ЎСЕ АТРАКЦЫЁНЫ

Сьвята ў парку рабілася ўсё ярчэйшае і жывейшае, а мінакоў, якія б проста бадзяліся сярод балёнікаў і канфэці, няма ніводнага, кожны адшукаў улюбёную гульню на аўтаматах, кожны знайшоў любімы шапік зь яблыкамі ў чакалядзе, з папкорнам, з разьліўным півам, паўсюль дарослыя і дзеці згуртаваліся вакол найулюбёнейшых рэчаў, і на кожнага ёсьць афіцыянт – той самы хлопчык, які нібыта размножыўся на тузіны, і гэтых хлопчыкаў цяпер столькі ж, колькі адпачынкоўцаў. Больш хіба толькі ў чарзе ў цырк, але трэба набываць квіткі ды заходзіць адно за адным. Цырк абяцае шалёнае штучнае сафары, паляваньне зэбраў на львоў – сьмешна гучыць, цікава, асабліва гэта цікава вунь тым хлапчукам, якія гучна абмяркоўваюць: па-сапраўднаму будуць паляваць зэбры на львоў ці не, мо дрэсіроўшчык не дазволіць?!

І тут Да і Ма захоплена ўскрыкваюць і паказваюць Флорыяну ўказальнымі пальчыкамі ў бок шапіка з салодкай ватай:

– Хочам, хочам, хочам! Наша! Наша! Наша! – крычаць дзяўчынкі і, ня слухаючы, што адказвае Фло, бягуць да салодкага.

Флорыян на хвіліну спыняецца, назірае за тым, як блізьнятам накручваюць на палку ружовую вату, ды такіх памераў, што гэта цуд, як такі велізарны пухнаты шар увогуле трымаецца на палачцы. Да і Ма з абодвух бакоў акунаюцца ў салодкую пульхнасьць і ядуць з асалодаю.

– Ну і ежце сваю вату, а я затое пайду на горку, на якую вас і так ніхто ня пусьціць, бо малыя, – кажа сабе Флорыян.

«Эх. Шкада, што мама дазволіла набыць толькі мармэлядных чарвячкоў, але трэба правільна траціць грошы. Калі я набуду трох чарвячкоў, то змагу чатыры разы пракаціцца на карусэлях. Спачатку можна на горках, потым у пакой жахаў, потым у люстэркавы лябірынт, ну і ўрэшце на электракарах», – рахаваў Флорыян, пакуль ішоў на горкі, і левай рукой пералічваў у кішэньцы манэткі, а на правую руку быў надзеты Старкі, што боўтаўся ўверх-уніз, як на арэлях: зямля – балёнікі – атракцыёны – ліхтары – атракцыёны – мінакі – балёнікі – канфэці – зямля.

Вось арэлі скончыліся, Флорыян набыў чарвячкоў і заціснуў іх у правай руцэ, акурат у шкарпэткавай пашчы свайго сабакі. Старкі гэта спадабалася, і ён аблізнуўся.

## ПРА ТОЕ, ЯК МОЖНА ПАЧАЦЬ ГУБЛЯЦЬ САМОГА СЯБЕ

– І ведаеце што, даражэнькія мае сябровачкі? А вось гэтыя чаравічкі вы бачылі? – і Джу падымае над сталом нагу і кладзе яе каля талеркі з салатаю.

– Я думала, у мяне дзень народзінаў! А ты ўсё пра сябе ды пра сябе, а пра мяне ніхто? А? – абураецца Іво нападпітку.

– Тыыыыыы ўўўўў ааа нооорррмммм су ппппп уппп ееее яяяяррр!

– Ты сёньня зорка! Ік. Ты для – ік – нас – ік – Сьвята! Ік зьвя ік лікай ік літары да ік рагая! Ік. Ік. Ік! – Якуб нават знайшоў, што адказаць сваёй жонцы, яго апанавала ікаўка, што і вызваліла час на гутарку.

– Слухай, не падабаюцца чаравікі – так і скажы, бо зайздросьціш, што не твае! – Джульета дэманстратыўна зьняла нагу са стала і адвярнулася.

– Ну, ік пупсічак ік, ну ік, не ік... ік... прабі к праб ік праб ік ач...

– Ой, ды заткніся ты там ужо! – Іво пачаў раздражняць тупы муж.

– Тыыыыыы ўўўўў ааа нооорррмммм су ппппп уппп ееее яяяяррр!

– І ты заткніся! – гыркнула Іво на Валерыю.

Магчыма, пачатак гэтай сваркі Іво мог бы ўратаваць вар’яцкую вечарынку і страшную весялосьць. Яны маглі б разысьціся ў розныя бакі, бо часам лепш разысьціся, чым сядзець пакрыўджанымі ды трываць адно аднаго, але за суседнім сталом штосьці гучна бабахнула. Усе пачалі рагатаць: адзін мужчына, які шмат еў

і піў, вырашыўся акуратна шапатнуць у сваё крэсла, але не разьлічыў і разам з гучным пукам лопнуў, як вялікі надзіманы шар.

Афіцыянты з розных бакоў кінуліся падбіраць рэшткі мужчыны, нехта з гэтых дзіўных падлеткаў пасьлізнуўся, паваліўся і зашыпеў, але гэта выклікала яшчэ большы рогат у рэстарацыі.

Усё навокал было сьмешным, яскравым, рознакаляровым і неверагодным.

За сталом сям'і Рычаў усе таксама сьмяяліся, весела і неяк вусьцішна, бо гэты сьмех гучаў як штосьці пустое і бязглуздае, калі чалавек сьмяецца не з анэкдоту ці жарту, а вось проста пачынае рагатаць, пачынае ад сьмеху ліць сьлёзы, хапаецца за жывот. І робіцца зразумела, што гэта ня сьмех, а тое ж самае, як і ў гіенаў: калі яны хіхікаюць, ім ня весела.

І таму падчас усеагульнага ўгару, пасьля таго як хтосьці лопнуў, з кожнай галавы павыляталі крыўды і можна было працягнуць баляваньне. Джульета нават не заўважыла, як яе правая рука ператварылася ў пухнаты зімовы бэжава-пастэльны шалік з новай калекцыі дому Вэрсачэ. Шалік акуратна адштурхнуўся ад пляча і мякка паклаўся на стол, напалову зьвесіўшыся долу.

## ПРА ТОЕ,
## ЯК МОЖНА ЛЁГКА ПАМЯНЯЦЦА МЕСЦАМІ ДЫ ПАДАЦЦА СПАКУСЕ

Мік адразу купіў пяцьдзясят кулек і ўзяў пнэўматычную вінтоўку. Ён набіў стрэльбу і прыцэліўся. Хлопец чуў грукат сэрца, кроў пульсуе ў скронях, гэтае прыемнае пачуцьцё, калі ты ў кагосьці страляеш.

Бах! І мэталічная качка, якая ехала за сваёй сяброўкаю, трапна зрынутая долу. І праз сэкунду яшчэ раз – бах! Яшчэ качка.

Вінтоўка набіваецца на дзесяць стрэлаў – і Мік праз хвіліну зьбіў шэсьць качак, аднаго зайчыка, але ў мядзьведзіка ён усё ж ня трапіў, бо той хутчэй за астатніх прабег па сваёй стужцы. У Міка сьліна сабралася ў роце, ён пераламаў стрэльбу напапалам, яшчэ дзесяць куляў, як раптам адчуў, што пакой павялічваецца. Стрэльба паляцела долу. Вось хлопец, які страляў побач, не зьмяніўся ў памерах, але сам цір зьмяніўся – зрабіўся агромністы.

Мік азірнуўся і ўбачыў дзяўчо, якое страляла зь іншага боку ад яго, і праз сэкунду ў дзяўчо трапляе велічэзны снарад, быццам вінтовачная кулька, павялічаная

ў дзесяць разоў. Міка загайдала, але ён ня ўпаў і не пабег хутчэй... Ён усё яшчэ не разумеў, што робіцца. Дзяўчыну штурханула ўбок, яна ўскрыкнула, але праз сэкунду паднялася, прычым вэртыкальна, незвычайна для людзей, і Мік убачыў, што дзяўчо – пляскатае, як 2D-фільм.

«Ну нішто сабе!» – выгукнуў хлопец. За дзесяць мэтраў ад яго паўстала качка са стрэльбаю, прыцэлілася – і як пальне зь вінтоўкі... Міку трапіла ў ногі, адкінула ўбок, але праз сэкунду падняло на месца. Мік адчуў боль, быццам яму далі палкаю па нагах, але не да злому, каб жыў далей. І Мік зразумеў, што трэба бегчы, ён заварушыў нагамі, але пад ім толькі пачала рухацца стужка замест падлогі. І тут зноў. Бах! І яшчэ раз. Бах! Побач з качкаю стаяў зайчык са стрэльбаю, а каля яго хлопчык-афіцыянт.

Блізьняткі Да і Ма ўжо паўгадзіны патаналі ў салодкай ваце, а яна ўсё не заканчвалася, яны так смачна яе елі, адно замілаваньне, вось толькі яны не заўважалі, як іх скура паступова мяняецца, ружавее, мякчэе, робіцца салодкая і... і... і... ЛІПУЧАЯ. І вось сястрычкі пачынаюць прыліпаць адна да адной і да суседніх дзетак, якія зьелі так шмат салодкага, што самі зрабіліся салодкія і пачалі зьліпацца ў вялікую цукерку.

А ў гэты час Флорыян знайшоў пачатак экстрэмальных горак, сеў у кабіну. Яго зашпіліў афіцыянт і, прайшоўшыся па астатніх кабінках, упэўніўся, што ўсе на месцах, запусьціў машыну радасьці, вар’яцтва і адрэналіну.

Фло імгненна праляцеў тры колы сьмерці, упаў з чатырох вэртыкальных спускаў і пакружляў каля шасьці разоў па коле. Асалода! Калі кабінкі вярнуліся на месца старту, Фло адчуў, як усім сэрцам прагне паўтарыць, але ў яго яшчэ тры карусэлі, трэба расьцягваць задавальненьне!

І тут афіцыянт прамаўляе: «Усім нашым гоншчыкам у кабінках Джустус Вялікі дорыць яшчэ адзін заезд! Суперджустусны заезд у падарунак! Катайся вечна!»

І ўсе закрычалі «ТААААААК!!! Ура!!! Джустусны! Майстра! Вечна!»

І малы Флорыян не пасьпеў падхапіць агульнага крыку шчасьця, як Старкі балюча ўшчыкнуў яго за шчаку.

Фло зірнуў на свайго сабаку, а той яму: «Трэба ведаць меру ва ўсім, нават харошым, ашчаджай радасьць, эмоцыі. Давай, хадзем на іншыя атракцыёны, вось табе мармэлядны чарвячок». Фло, не разважаючы, укінуў у рот чарвячка, адшпіліў рамяні бясьпекі і, калі кабінкі ўжо зварухнуліся, саскочыў на пэрон.

Калі Флорыян імкліва вызваліўся ад бясплатнага заезду, шалёнае сэрцабіцьце пацішэла, і ён выплыў з туману. «Дзякую, Старкі», – прамовіў хлопец, азірнуўся і зьнерухомеў.

## ПРА ЖАДАНЬНІ, СЛАБАСЬЦІ, ПАКУТЫ І СУЦЭЛЬНАЕ ПЕРАТВАРЭНЬНЕ

Тым часам у рэстарацыі – вэрхал. Якаб наеўся да абсалютна круглага стану, хоць бяры ды пускай з гары – будзе каціцца і падскокваць да самага неба.

Валерыя ўжо не магла прамаўляць ніякіх гукаў, яна, як сабака, высалапіла язык вонкі – такі даўгі, што ляжаў на плячы, – і, прымружыўшы вочы, стомлена мычала.

Джульета і надалей ператваралася ў любімае адзеньне, і яе другая рука стала саколкай, ногі пад сталом – моднымі джынсамі з высокай таліяй, а цела на канапе ляжала неахайнай купкай зь пінжака і кашулі, а паверх гэтага хараства сядзела велічэзная вязаная шапка – твар Джу з двума гузікамі-вачыма і матузком, які торгаўся, – вуснамі Джу.

А Іво аглядалася па бакох, яна адзіная магла больш-менш нармальна прамаўляць, і яна рагатала: усё здавалася такім забаўным! Але яна яшчэ ня бачыла ўласнага адлюстраваньня: ейны прыгожы твар, яе зорная скура спаўзьлі на плечы і грудзі, і шторазу, як яна сьмяялася, нешта казала або варушыла галавою, уся гэтая скура трэслася і хвалявалася, як жэле.

Флорыян глядзеў і не даваў веры вачам. Хтосьці, аб'еўшыся папкорну, бегаў, скокаў, і ягонае цела лопалася і разьляталася на драбочкі, нібыта ён зрабіўся вялікай папкорн-машынай. Іншыя дзеці зьліпаліся ў салодкія цукеркі, па некаторых няспынна сьцякала цёплая чакаляда.

Флорыян пабег праз страхотную масу ў бок Ма і Да. Знайшоўшы іх у ліпучай мяшанцы целаў і салодкай ваты, прыклаўшы ўсю моц, ён нарэшце выхапіў дзяўчатак, якія адразу прыліплі да ягоных рук, але Старкі пачаў зьлізваць з малых салодкую вату.

Прабягаючы паўзь цір, Флорыян заўважыў, што ўсе мэталічныя жывёлінкі, па якіх стралялі, вырасьлі, узялі стрэльбы, і мішэні цяпер – хлопцы і дзяўчаты, якія любілі страляць. Падкраўшыся разам са Старкі, Фло адламаў пляскатага і маленькага Міка ад стужкі для мішэняў і, схаваўшы яго ў саколкавую кішэню, пабег з ужо не такімі ліпучымі блізьнятамі далей. Мік аказаўся зусім малы, лёгкі і пляскаты, але нават у такіх абставінах для малых ён заставаўся дарослым, і яны яго баяліся.

Калі дзеці прабягалі праз цырк, у прыадчыненыя дзьверы яны заўважылі, як па коле бегаюць людзі, а ў цэнтры імі кіруюць зэбры, а львы стаяць звонку арэны і пільнуюць – цэлае шоў. На глядацкіх месцах сядзяць адны хлопчыкі-афіцыянты, і іх дзясяткі, і ўсе яны сьмяюцца. Не, не сьмяюцца – сычаць, як зьмеі.

## ПРА ТОЕ, ЯК ПАЧЫНАЕЦЦА НЕЎТАЙМОЎНАЕ ХВАЛЯВАНЬНЕ Ў ПАРКУ ЗАБАВАЎ

Флорыян разам з Да і Ма, Старкі і Мікам у кішэньцы сьпяшаюцца.

Яны бягуць і крычаць, спрабуюць абудзіць мінакоў, адначасова прыглядаючыся да хлопцаў-афіцыянтаў, да гэтых малых паслугачоў, якія патроху пачынаюць здагадвацца, што нешта руйнуе іхныя пляны. І з кожным мэтрам адлегласьць да бацькоў скарачаецца, але і колькасьць тых, хто спрабуе разам зь імі зьбегчы ад пакутлівых забаваў і атракцыёнаў, таксама расьце, як і армія варожых сілаў.

Вось дзеці дабеглі да рэстарацыі, расчынілі дзьверы і як загарлаюць:

– Гэта пастка, гэта падстава, мама, тата, цётка Джу, Валерыя!!!

Але ня так і проста іх разварушыць. Дзеці не адразу пабачылі, як зьмяніліся іхныя бацькі… Вось да іншых сталоў таксама бягуць малыя і таксама крычаць, што адсюль трэба ўцякаць, бо тут зусім ня весела… І праз сэкунду, калі вочы абвыкнуцца да паўзмроку, дзеці лямантуюць ад вусьцішы. Рэстарацыя зрабілася сапраўдным пякельным садам незвычайных істотаў.

Першай з-пад чараў абудзілася Іво. Яна схапіла Джульету, як звычайна бяруць вялікую купу адзежы, каб занесьці ў пральную машыну, штурханула Якаба, той толькі скаціўся на падлогу, накрычала на Валерыю, каб тая падымалася на ногі.

І тут на ўваходзе рэстарацыі зьявіліся афіцыянты. Спачатку іх было тузіны два, і раптам хлопцы пачалі абдымацца і ператварацца ў аднаго гіганцкага чалавека. Пачвара ўжо не баіцца, што яе выкрыюць, яна высоўвае халодныя зьмяіныя языкі і сыкае:

– Заставайцеся тут, дарагія госьці! Тут весела! Можна рабіць што хочаш і колькі заўгодна разоў катацца, страляць, забаўляцца! Вы-ы-ы ў гасьця-а-а-а-ах у Джус-с-стус-с-са! А ён сам вырашае, калі трэба заканчваць гульні й весялосьць!!! Весялосьць будзе ве-е-е-ечнай! Ш-ш-ш-ш-ш!

– Так, дзеці, давайце ў гэтыя дзьверы збоку, хуценька – ты, Фло, каці бацьку па падлозе, як бочку! – зашаптала Іво, і яны пабеглі да суседніх дзьвярэй, за чатыры крокі ад іх…

За імі памкнуліся й іншыя, але вызваліліся адзінкі…

Ужо на вуліцы:

– Мам, я ведаю, вунь там будзе люстэркавы лябірынт, а потым цягнічок, мы ня зможам выйсьці праз цэнтральны ўваход! – пракрычаў Флорыян, але яму

і не абавязкова было папярэджваць пра цэнтральны ўваход, бо ўсе ўбачылі, як процьма малых афіцыянтаў яднаюцца там у вялікага цмока.

І сям’я Рычаў разам з тымі, хто здолеў вырвацца, кінулася ўцякаць... Іво бяжыць, скура на целе спаўзае ўсё ніжэй, Джульета ў яе руках лунае сваімі адзежнымі рукамі ды нагамі, як некалькі сьцягоў... За імі мчыць Валерыя зь языком на плячы і трымае прыліплых салодкіх Да і Ма, а наперадзе нясецца Флорыян, што коціць круглага бацьку, які адлятае колькі мэтраў наперад і сьмяецца – напэўна, ён яшчэ не зусім працьверазеў. А ў кішэньцы сядзіць бляшаны Мік, увесь у пупышках, бо пабіты кулямі.

Яны бягуць паўзь людзей, якія не ачунялі, і іх ужо не пазнаць, не прызнаць за людзей... «Гэтыя наўрад ці выратуюцца», – зірнуў на іх Флорыян, ледзь пасьпяваючы каціць бацьку як мага раўней, каб той не адскокваў у бакі.

Перад люстэркавым лябірынтам афіцыянты пачалі ператварацца ў зьмеяў і падаць уцекачам пад ногі, спрабуючы ўджаліць. Нарэшце людзі забеглі ў люстэркавы дамок, і тут залямантавалі ўсе, хто сябе ня бачыў і не ўяўляў, як выглядае.

Іво крычала праз сваю згубленую прыгажосьць.

Якаб роў, як мядзьведзь, убачыўшы, у якое тлустае ліха ён ператварыўся.

Валерыя мычала...

З усіх бакоў даносіліся енкі.

Толькі Джульета не крычала, яна папросту не магла разабрацца, як і чым можна выдаваць гукі.

– Мы ня можам затрымлівацца, да нас з-пад дзьвярэй запаўзаюць зьмеі! – закрычаў Флорыян і павярнуўся, каб пакаціць круглага бацьку, але той зь вялікімі высілкамі падняўся ўрэшце на ногі.

Зьмеі падпаўзалі ўсё бліжэй... Джус-с-стус-с-с, джус-с-с-с, шус-с-с-с...

## ПРА ТОЕ,<br>ШТО ЎСЁ Ў ЖЫЦЬЦІ ПРОСТА ТАК НЕ ЗАКАНЧВАЕЦЦА

Па лябірынце ўцекачы кружлялі доўга, некаторыя пачалі сьмяяцца з адлюстраваньняў... Тыя, хто бязглузда засьмяяўся, адразу забываліся, чаго шукаюць і куды бягуць, гэтак і заставаліся сьмяяцца сярод люстэркаў – надрыўна, няспынна.



*– Гэта зьмяіны цар… Гэта карнавальны Джустус. Яго тут не было больш за сто гадоў, мая бабуля мне распавядала, як бачыла яго на кірмашы на ўзьбярэжжы.*

Хтосьці намагаўся злавіць сваю мару, жаданьне, хтосьці разявіў рот, каб менавіта гэтая крэмаўка трапіла яму на язык…

Перад Флорыянам сядзеў мужчына, які зусім ні на што не рэагаваў, толькі круціў носам, і хлопчык неверагодна запаважаў яго, бо сам, калі б ня Старкі, ужо даўно б кінуўся па скейт, але ягоны шкарпэткавы сабака, здавалася, намёртва ўчапіўся ў сядушку вагона, не даючы хлопчыку падняцца.

Іво, якая не магла асэнсаваць, чаго ж яна больш за ўсё ў сьвеце жадае, першая зразумела, што трэба адвесьці ўвагу ад гіпнозу. І прыдумала: закрычала, каб усе заплюшчылі вочы і пачалі сьпяваць, бо песьні аб’ядноўваюць і дапамагаюць перажыць усё на сьвеце.

Вагончык засьпяваў. Кожны цягнуў сваю песьню, на свой лад і свой рытм, як мог. Здавалася б, мусіў атрымацца бязладны вэрхал гукаў, крыкаў і фальшывых нотаў, але вось і астатнія вагончыкі падхапілі сьпеў, і цягнік загучаў ладнай, прыгожай песьняй космасу, самога жыцьця.

А праз хвіліну на даляглядзе паказалася сьвятло.

Як толькі пасажыры цягнічка пакінулі вагоны, яны ўбачылі, што парк забаваў застаўся далёка ззаду, а над ім высіцца велічэзны, пярэсты клубок зьмеяў, вельмі падобны да цмока. Некаторыя зьмеі ведаюць, як трымацца адна за адну, але тыя, што памерамі саступаюць іншым, то падаюць уніз, то зноў паўзуць наверх. Парк пачаў паціху рухацца назад, да берагу – спачатку да першых языкоў марскіх хваляў, потым углыб, глыбей, глыбей, пакуль над паверхняй вады не віднелася толькі зьмяінае кубло.

– А што будзе з тымі, хто застаўся? – спытаў Фло і не пачуў адказу.

– Гэта зьмяіны цар… Гэта карнавальны Джустус. Яго тут не было больш за сто гадоў, мая бабуля мне распавядала, як бачыла яго на кірмашы на ўзьбярэжжы, – прамовіла старая жанчына, якая стаяла побач з Рычамі. – Раней гэты зьмяіны доўбень проста так прыходзіў, выкрадаў людзей, але тыя пачалі яго лёгка раскрываць у чалавечых адзежах, і тады ён зрабіўся хітрэйшы, пачаў граць на чалавечых жаданьнях, ператварыўся ў Джустуса – хлусьлівага кірмашнага цмока. Ён няхутка вернецца. Столькі душаў, колькі ён забраў сёньня, хопіць надоўга.

Усе стаялі моўчкі. Ніхто не даваў веры і слухаць не хацеў старую кабету, у кожнага было адзінае жаданьне: на ўсё забыцца. Людзі пачалі разыходзіцца.

– А насамрэч добра, што Сафія не прыехала. Няма за што любіць гэтыя атракцыёны, – Валерыя зноў ачуняла. – Я ёй сёньня пазваню, выкажу ўсё, што думаю пра гэтыя кірмашы.

– Ты нічога не зразумела, цётка Лера, – прамовіў Флорыян, і яны ўсе паглядзелі на Валерыю, якая фанабэрыста пайшла па дарозе наперад.

– І што гэта я мушу разумець – такія ўжо дзіўныя ўсе, дурні нейкія... Ма і Да – за мной!

– А мы ў краму зойдзем? Ты нам купіш салодкага? – забалбаталі дзяўчынкі.

Флорыян ціхенька пагладзіў свайго шкарпэткавага Старкі. Дзень быў доўгі, як расьцягнутая жуйка.

*Кастрычнік 2016*
*Вэнтсьпілс, Латвія*

# СЬМЕШНЫ СТРАХ

***

Гэтая гісторыя напраўду адбылася – бо хто, як ня Міха, гераіня майго апавяданьня, была і сьведкаю, і галоўнай гераіняй, і фантазэркай. Міха, цудоўная маленькая дзяўчынка, мая дачка, – яна гарэза і цікавіцца ўсім на сьвеце. І раней, калі была меншая (як яна кажа, «у дзяцінстве», то-бок год таму), яна вельмі баялася заставацца ў сваім пакоі адна. Я дазнаўся пра гэта, калі Міха аднойчы залезла ў наш з жонкаю ложак і прашаптала, што ў доме зьявіўся вусьцішны пакой. Я зьдзівіўся і адказаў, што ў доме такога пакою дакладна няма, бо я сам будаваў дом і нічога такога не плянаваў. На гэта Міха заявіла, што пакой існуе, проста я пра яго ня ведаю. Можа, не заўважыў нават, як ён пабудаваўся сам сабою і схаваўся.

Будаваць дом мы з жонкай пачалі тады, калі Міхі яшчэ ў плянах не было, проста вырашылі ўцячы з шумнага гораду і пасяліцца каля ракі, лесу, пажадана ўвогуле на хвойнай высьпе. Гэтак мы і перабраліся бліжэй да прыроды, і гэтак разагналіся, што ад'ехалі ад гораду задалёка. Цяпер, каб трапіць на вялікую зямлю, нам трэба дабірацца альбо паромам, альбо невялічкім самалётам. Першыя гады было ніякавата, але калі прарасьлі першыя карані ў падмурку, мы адчулі, што і самі можам прарасьці на гэтай высьпе, і жыцьцё нашае моцна зьмянілася. Замест каб спаць, як даўней, да абеду, мы пачалі падымацца рана і цэлы дзень былі на нагах, займаліся гаспадаркай, працай – цяпер я пішу штодня пяць-дзесяць старонак, чаго не было ў горадзе, а жонка ўвесь дзень штосьці макетуе або кампануе на сваім велізарным экране каля адкрытага вакна.

Дом стаіць на ўзгорку, і з акна відаць палову старой замкавай сьцяны і мора. Мора халоднае, я б сказаў, сьцюдзёнае, але гэтак здаецца першыя тры хвіліны, пакуль не паплаваеш і не разагрэеш кроў.

***

І вось мінуў час, мы не заўважылі нават, як хутка ў нас пачала расьці Міха – абсалютна незямная дзяўчынка. Яна рана пачала хадзіць і рана пачала гуляцца на беразе мора, нават сама навучылася заходзіць у цукерню па гарачую булачку, манэты на якую яна выграбае са сваёй скарбонкі або падыходзіць да мяне, просіць падняцца з фатэля і паскокаць, і калі чуе вясёлы звон манэтаў, радасна ўскрыквае, забірае ў мяне драбязу і кіруецца ў суседнюю цукерню.

– Тата, а ў цябе ёсьць манэткі?

– Не, напэўна няма.

– А калі ты паскокаеш?

Заўсёды вясёлая, няўрымсьлівая і сьмяшлівая – мая Міха кажа мне пра вусьцішны пакой у доме, і я чамусьці адразу ўспомніў прачытаныя кнігі містыкі, жахаў і процьму іншых рэчаў, якія пужалі мяне ў дзяцінстве: незачыненая шафа ў чорных нетрах паўзмрочнага пакоя, вусьцішная халодная пастка цемры пад ложкам, лясныя прывіды ў гушчарах, русалкі ў моры, ктулхі пад тоўшчай сіняй вады і вось гэтыя гукі, у пустых далёкіх пакоях, нібыта хтосьці там не хацеў, каб яго пачулі, але нязграбным рухам выдаў сябе.

Міха распавяла, што заўчора, калі яна пасьля казкі ўжо засынала, а я, стомлены доўгім цёплым днём, пайшоў спаць, сярод ценяў Міха заўважыла, як штосьці заварушылася ў дальнім куце, побач зь яе сталом з маляванкамі. Яна спалохалася, ускрыкнула, і цень мільгануў пад ложак. І Міха, ужо засынаючы, не пасьпела паклікаць мяне. Толькі на раніцу ўспомніла пра гэта.

Я сказаў, што, калі цені скокаюць пад ложак, гэта добры знак, яны свойскія цені, хатнія. А калі б уцякалі ў акно, гэта было б кепска – малыя пачваркі, якіх ня клікалі, самі прыходзяць звонку, праз адчыненую фортку, і, спускаючыся з падваконьня, залазяць пад коўдру да дзяцей, каб пужаць іх у снах. Я ўспомніў, што казала мне маці, калі я палохаўся начных ценяў, і Міха супакоілася – прынамсі, я бачыў, што яна вярнулася да цацак, раскіданых на падлозе... Сёньня быў дзень, калі яна захоплена гулялася з каляровымі калабкамі, зробленымі зь яе маленькіх шкарпэтак

і груцы (мама нашая мае добрую фантазію, калі трэба тэрмінова прыдумаць дзетцы новую цацку).

Я прысеў у фатэль ды прыгадаў, што ў маленстве меў любімую цацку, якую называў Сокс, і гуляўся зь сябрамі ў такую ж гульню – сокс. Правілы былі такія: адбіваць пашыты з шкарпэткі калабок нагамі адно аднаму, каб Сокс не кранаўся зямлі. Гэты Сокс у мяне быў ня просты, а зьвязаны кручком маёй сяброўкай, рознакаляровы, як вясёлка. Я яго вельмі любіў, і вось цяпер на маіх вачах у Міхі зьяўляюцца адразу тры такія соксы.

– Міха, давай згуляем у такую гульню: я буду нагой адбіваць табе калабкоў, а ты іх нагамі таксама лаві.

– Тата! Ты ашалеў! Навошта біць маіх калабкоў нагамі!

Тады я параіў дачцэ ўзяць калабкоў у ложак, каб яны баранілі яе ад начных жахаў. Толькі калабкам трэба даць імёны і шчыра папрасіць іх аб дапамозе і абароне, інакш нічога не атрымаецца.

– Добра, тады ружовага будуць зваць Бук. Чорнага – Чук, а каляровага – Сап-Сап.

– Як скажаш, гэтак і будуць яны звацца.

На наступны дзень Міха агледзела месца пад ложкам, вырашыла папужаць пачварак, але знайшла толькі пыл, стары мячык-паскакунчык і згубленую колькі дзён таму ляльку, якой яна любіла рабіць фрызуры.

Міху, вядома, зьдзівіла, што нікога няма пад ложкам. А я параіў ёй на ўсялякі выпадак пасябраваць з падложкавымі жыхарамі, прынесьці колькі цукерак, але ніякага хлеба, булачак і садавіны з гароднінай каб пад ложкам не было, бо ад гэтага завядуцца мухі, прусакі і, крый божа, пацукі, а яна ж ня хоча, каб у яе пад падушкай знайшоўся прусак альбо мыш! Вядома, мама будзе сварыцца за салодкае на падлозе, але мы штосьці прыдумаем, я зь ёй пагутару. Цукеркі мелі быць толькі ў абгортцы, каб начным сябрам пад ложкам было зручна іх забіраць.

Увечары з форткі ў пакой завіталі прывіды, Міха бачыла, што яны шматгаловыя, і не магла дакладна сказаць, колькі іх было. Яны ціха праплылі да ложка, ухапілі цукеркі, пачалі камечыць іх, але ня есьці, толькі нюхаць сваімі пысамі ды камечыць, Міха не разгубілася, кінула ў іх калабкамі ды запішчэла.

А потым Міха заплакала і паклікала мяне, і ўсю ноч я спаў побач.

– Тата, як толькі я кінула Бука, Чука і Сап-Сапа, гэтыя злыдні адразу зьніклі, распусьціліся ў паветры.



*Я прысеў у фатэль ды прыгадаў, што ў маленстве меў любімую цацку, якую называў Сокс, і гуляўся зь сябрамі ў такую ж гульню – сокс.*

– Можа, гэта былі проста цені з вуліцы?

– Не, я ведаю, што такое цені, а што – не.

Відаць, кожнаму дзіцяці наканавана сустрэцца з сваімі пачварамі, галоўнае не пужацца, выявіць мужнасьць, паспрабаваць наладзіць кантакт, бо прывіды могуць быць карыснымі.

На другі дзень, калі я вярнуўся з мора, зь няўдалай рыбалкі, Міха ўжо прыйшла з садочка і нават не пацікавілася маім уловам, але сустрэла мяне разьюшаная:

– Я прыйшла дадому і ўбачыла, як мой пакой быў поўны матылёў ды мурашак, а пасярод нехта сядзеў, і я не пасьпела разгледзець яго, бо гэты цень скокнуў пад ложак! Тата! Я больш ня буду там спаць, пакуль ты не разьбярэсься з прывідамі ды ня знойдзеш схаванага пакою, які месьціцца пад маім ложкам!

Я спачатку задумаўся, а потым высунуў здагадку:

– Відаць, Міха, гэта быў лясны эльф. Магчыма, ён сам цябе спужаўся.

Некалькі гадзінаў мы праседзелі з жонкаю на канапе і прагутарылі пра тое, што фантазія дзіцёнка працуе за траіх. Можа, узрост такі падышоў, што Міха выдумляе, а да ўсяго яшчэ і страшыць сама сябе.

Я згадаў, што ў дзяцінстве таксама назіраў дзіўныя рэчы, мо гэта зьвязана з асяродзьдзем, бо малым я жыў каля мора, пакуль бацькі не пераехалі ўглыб краіны ў пошуках лепшай працы. І вось цяпер я ізноў жыву каля вады, на высьпе.

І толькі бліжэй да ночы, пасьля вячэры, Міха наважылася вярнуцца ў свой ложак. Яна зноў паклала цукеркі пад ложак, а сваіх калабкоў уладкавала на падушцы. Я накрыў дачку і сам паклаўся побач, каб пагутарыць перад сном і прачытаць казку. І тут за вакном хтосьці заварушыўся – ціха, няўклюдна, нібыта спалохана. Я падняўся і зірнуў у вакно. Яблыневыя галінкі мякка стукаліся ў шыбу, і я адчуў неверагодную стому, такую моцную, што вочы самі заплюшчваліся. Я вярнуўся ў ложак, сказаў Місе, што не гатовы чытаць казку, і калі яна хоча, можа прыдумляць сваю, а я працягну. Так і заснуў, пад танюткі дзіцячы галасок, які распавядаў гісторыю пра дзяўчынку-гузік і яе адважнага ката.

Раніцай мы заўважылі, што цукеркі зьніклі, калабок Чук валяўся на падлозе, Бук сядзеў на падвоканьні, а Сап-Сап схаваўся пад падушкай. Я сказаў Міхалінцы, што цукеркі напэўна зьелі шкарпэткавыя калабкі – вунь якія яны задаволеныя і тоўстыя. Міха адно пасьмяялася, і гэта дапамагло мне забыцца пра зьніклыя цукеркі ды пра тое, што ўначы дачка, напэўна, сама расклала сваіх лялек.



*Пакуль я спрабаваў асэнсаваць адбытае і думаў, што за выкінутым калабком Міхі трэба ісьці ў начны двор, з-пад ложка выцягнулася малюсенькая сіняя рука з чатырма пальчыкамі, схапіла цукеркі ды зьнікла.*

***

Некалькі дзён мінула спакойна, са звычайнымі гульнямі з казкамі перад сном. Здавалася, Міха больш не прыдумляе прывідаў. Мы дачыталі кніжку перад сном, я зьбіраўся вяртацца ў свой пакой, як раптам заўважыў, што на фортцы сядзіць гном з трыма галовамі, зь некалькімі вялікімі вушамі – я нават пачаў іх лічыць зь перапуду. Глядзіць ціхенька на мяне, быццам чакае, калі я зачыню за сабой дзьверы.

Я не разгубіўся, схапіў аднаго з калабкоў, ня памятаю, якога менавіта, і кінуў у фортку. Міха нічога не заўважыла, яна ўжо заплюшчыла вочы. Праз увесь пакой я скокнуў да вакна і зачыніў фортку.

Я стаяў агаломшаны і ня мог сьцяміць: я бачыў кагосьці на ўласныя вочы ці мне ўжо мрояцца нейкія істоты? Вядома, гэта магла быць і птушка, і мышанё, але хто баіцца, таму ўваччу дваіцца, вось я і надумаў сабе троля...

Пакуль я спрабаваў асэнсаваць адбытае і думаў, што за выкінутым калабком Міхі трэба ісьці ў начны двор, з-пад ложка выцягнулася малюсенькая сіняя рука з чатырма пальчыкамі, схапіла цукеркі ды зьнікла. Цяпер я быў пэўны, што бачыў кагосьці, і імгненна паклаўся на падлогу, каб зазірнуць пад ложак.

– Тата, ты што там робіш? – Міха паднялася ў ложку і пазірала на мяне.

– Нічога асаблівага, правяраю, каб тут нікога не было.

– А давай я табе дапамагу, – і дачка праз імгненьне была са мною пад ложкам.

***

У дальнім куце сядзела сіняя маленькая істота і трымала ў лапках цукеркі.

Перад намі было казачнае стварэньне, пачварка, а за сьпінай у яе нібыта расьлі фіялетавыя туліпанчыкі, што хаваліся пад пухнатым сінім хвастом.

Міха падпаўзла бліжэй, і мне здалося, што прастора пад ложкам павялічылася ў некалькі разоў альбо зьменшыўся я сам.

– Хто ты?! – шаптала Міха і паўзла на фіялетавае і сіняе сьвятло. Было відавочна, што ні дзіця, ні гэтая істота не баяцца адно аднаго.

– Я Люля! – ціха прамовіла істота з дальняга кутка, зрабіла крок насустрач, і мы ўскрыкнулі.

Перад намі стаяла пухнатая, кашлатая Люля: малыя лапкі, дзьве валасатыя галавы, чатыры вочкі і восем вушак, а ззаду вялікі пухнаты хвост, які на канцы нагадваў рамонак.



*Цяпер, перш як заснуць пасьля казкі, Міха абавязкова пакідае печыва каля ложка. Я, вядома, кажу ёй, каб не рабіла гэтага, бо могуць завесьціся прусакі, мурашы і мышы, яна ж ня хоча знайсьці пад падушкаю прусака, але адначасова думаю: ну і няхай!*

– Я Лю! – адказала левая галава.

– А я Ля! – адказала правая галава.

– Мы вырошчваем месяцовыя туліпаны, іх пах адганяе злыдняў. Нас паклікалі вашыя калабкі, бо да вас пачалі прыходзіць лясныя прывіды, а гэта кепска! – разам прамовілі Лю і Ля.

– А я Міха. А гэта мой тата.

Як высьветлілася пазьней, Люля будзе жыць пад нашым ложкам яшчэ пару дзён, бо трэба бараніць Міху ад злыдняў, якія крадуць каляровыя сны, прыходзячы ў расчыненыя форткі ды праточваючыся праз танюткія шчыліны ў шыбе.

У вечар знаёмства зь Люляй мы добра яшчэ пасядзелі, пагутарылі ды паласаваліся цукеркамі, і пайшлі спаць кожны ў свой ложак, і спалі добра да самай раніцы.

***

На нашай высьпе сапраўды стары лес – відаць, старэйшы за чалавецтва.

Цяпер, перш як заснуць пасьля казкі, Міха абавязкова пакідае печыва каля ложка. Я, вядома, кажу ёй, каб не рабіла гэтага, бо могуць завесьціся прусакі, мурашы і мышы, яна ж ня хоча знайсьці пад падушкаю прусака, але адначасова думаю: ну і няхай! Есьці ўсе хочуць, ня толькі людзі, люлі, пачвары і прывіды (і ў кожнага свае густы), але і мурашы, і прусакі, і мышы, і нават Чук, Бук і Сап-Сап любяць начамі выпраўляцца ў прыгоды і сілкавацца чымсьці. А падчас абеду Міха ўсё адно запэцкае кашаю ці заліе сокам сваіх калабкоў. А я і дагэтуль ня пэўны, ці была тая двухгаловая Люля, ці гэта мне Міхаліна нашаптала, пакуль я задрамаў, чытаючы казку. Адно дакладна ведаю: на фортках больш ніхто не сядзіць вечарамі.

*Сакавік 2017*
*Вісьбю, Готлянд*

# HAVET INUTI[6]

На адной высьпе, аточанай халодным морам, жыла Юста, дзяўчына, якая не хацела быць сабою, усяго баялася, трымцела ад кожнай думкі, трывожылася за сваё здароўе і жыцьцё, хвалявалася за мінакоў, прыроду, лёсы сваякоў і суседзяў. І гэтая трывога працінала яе і не давала дыхаць, спаць, жыць.

Вось яна ўсхвалявана падумала, што вецер з мора дзьме надзвычай халодны, і гэта кепска, бо можа застудзіць птушак, – і ўвадначасьсе перад ёй на траву ўпаў замерзлы птах. Альбо яна пачне турбавацца за беспрытульных котак – і паўсюль ёй на вочы трапляюцца зьбітыя машынамі коцікі.

Каб пазьбегчы кепскіх здарэньняў, Юста прыдумляла сабе процьму гісторыяў – сьмешных, бязглуздых. Яна любіла зьнікаць у фантазіях, што былі для яе рэальнейшыя за навакольнае, былі асабістым морам, у якім Юста, нібы карабель, рухалася на хвалях, як на арэлях, – уверх, і ўніз, і адразу ўверх, і потым уніз.

Вось яна гуляе ўздоўж старога гарадзкога мура, які ў Сярэднявеччы быў абарончай сьцяною з боку порту. Гуляе, і зьяўляюцца трывожныя думкі, што зараз мур можа абрушыцца, бо вельмі стары, паўсюль расколіны, і вунь шпацыруе мужчына з сабакам – каб жа на іх нічога не звалілася са сьцяны. І на яе вачах каля сабакі падае камень з вышыні. І Юста хутка прыдумляе сабе гісторыю пра тое, як сьмешна было б, калі б гэты скасабочаны мур, расьцягнуты на дзесяць кілямэтраў, ператварыўся ў зэфірны... Каб кожная цаглінка і камяні зрабіліся самымі сапраўднымі зэфіркамі ў чакалядзе, мяккімі ды смачнымі. Праходзіць Юста праз мужчыну з сабачкам і ўсьміхаецца, і нічога благога не адбываецца.

[6] Мора ўнутры (швэдзк.).



*У горадзе ёсьць велічэзны закінуты касьцёл, дах якога абрынуўся пяцьдзясят гадоў таму, і ўнутры пасяліліся марскія чайкі, маёўкі, вароны і бакланы. І калі раптам які гук іх спужае, можна бачыць, як зь нетраў касьцёлу падымаецца шэра-белае воблака птушак.*

У горадзе ёсьць велічэзны закінуты касьцёл, дах якога абрынуўся пяцьдзясят гадоў таму, і ўнутры пасяліліся марскія чайкі, маёўкі, вароны і бакланы. І калі раптам які гук іх спужае, можна бачыць, як зь нетраў касьцёлу падымаецца шэра-белае воблака птушак, яны крычаць – пранізьліва, нібыта кагосьці клічуць, з болем і смуткам. Юста дужа баіцца нават набліжацца да касьцёлу з птушкамі, ня тое што міма праходзіць, але штоup разу, калі ідзе паркам са школы, яна адзначае, што ўсё бліжэй і бліжэй мінае вусьцішны касьцёл.

Горад, у якім жыве дзяўчына, вельмі стары – настолькі, што палова яго дамоў паспаўзала да ўзьбярэжжа, і яны ледзь чапляюцца, каб не зваліцца ў ваду. Сапраўды, ня тое месца для нараджэньня выбрала дзяўчына – але такі быў сьляпы лёс, бо яе бацькі нарадзіліся ў гэтым халодным і самотным горадзе, на высьпе, якая прадзімаецца з усіх бакоў сьвету, і дзядуля і бабуля нарадзіліся тут, і бацькі іхных бацькоў – таксама. І тое сьведчыць, што Юста не магла нарадзіцца ў іншым горадзе, ёй было наканавана, такой далікатнай, зьявіцца на сьвет менавіта тут і цяпер.

Аднойчы, калі Юста вярталася са школы праз стары, парослы елкамі, соснамі ды хмызьняком парк, яна заўважыла пад мостам, што быў зусім побач са страшным птушыным касьцёлам, чырвоную шкарпэтку. Ня тое каб Юста зьвяртала ўвагу на згубленыя ў горадзе рэчы, але гэтая шкарпэтка была яркая, чырвоная, і чамусьці дзяўчыне дужа захацелася падняць яе – хаця б дзеля таго, каб павесіць на кусты, каб мінакі бачылі і каб шкарпэтку заўважыў той, хто яе згубіў і, мусіць, шукае.

Але як можна было згубіць шкарпэтку позьняй восеньню, калі вятрыска лёгка забіраецца пад шалікі, шапкі і паліто, а нават у абутак і шкарпэткі?

Гэтак атрымалася, што Юста, зануранная ў свае думкі, нават не заўважыла, як апынулася пад мостам і падняла шкарпэтку, неяк задуменна сунула яе ў кішэню паліто і пабегла дадому.

Усё б нічога, Юста нават забылася пра знаходку, як раптам наступным ранкам, на тым жа шляху ў парку, дарогаю ў школу, яна знайшла непадалёк ад моста яшчэ адну чырвоную шкарпэтку.

Калі б дзяўчына не была такая турботная і гэтак часта не трывожылася пра ўсё на сьвеце, яна і першай шкарпэткі не падняла б. Але гэта была Юста, якая ўхапіла і другую шкарпэтку, бо падумала, што пара шкарпэтак абавязкова знойдзе свайго гаспадара.

На трэці дзень Юста зноў знайшла каля моста чырвоную шкарпэтку, і гэтак пяць дзён яна шторазу знаходзіла каля моста чырвоную шкарпэтку, і хай бы шкарпэткі

трапляліся парамі альбо розных колераў, але ж не – кожны раз Юста сустракала чырвоную шкарпэтку, такую самую, простую, прыкладна саракавога памеру, шчыльнай вязкі, самаробную. Юсьце ўжо і ня так боязна было мінаць вусьцішны касьцёл, і нават стала цікава адшукваць шкарпэткі пад мостам, і яна амаль забылася на свае страхі.

Дзяўчына назьбірала пяць шкарпэтак і, ня ведаючы, што зь імі рабіць, прыдумала наступнае: Юста сфатаграфавала шкарпэткі, раздрукавала абвесткі пра знаходку ды пайшла ў парк іх расклеіць.

Парк, як звычайна, быў цёмны і халодны, самы сапраўдны казачны, шэры лесапарк, жыхары называюць яго Svart Park[7].

Юста ішла сьцяжынкамі, выкладзенымі з брукаванкі, ды імкнулася наступаць толькі на каменьчыкі – галоўнае ня хібіць, бо гэта будзе паразай у гульні. Думкамі дзяўчынка была далёка, і сама не заўважыла, як дайшла да таго самага моста. Яна агледзелася, зьняла заплечнік, каб наклеіць на дрэва абвестку пра шкарпэткі, усхвалявалася, што дарогаю ніводнай абвесткі не наляпіла, як раптам з-пад моста нехта ціхенька яе паклікаў.

– Дзяўчынка, дзяўчынка, хадзі сюды, ня бойся... Ты ж, пэўна, усе мае шкарпэткі сабрала... – галасок быў тонкі, амаль дзіцячы, але ноткі ў гэтым голасе насьцярожвалі, і Юста здранцьвела, ня ведаючы, што рабіць, бо ісьці пад мост яна не хацела. Але ж яна напраўду сабрала ўсе шкарпэткі, і гэта дакладна іх гаспадар яе клікаў...

– Хто там? Хто ты?

– Гэта мае шкарпэткі, даражэнькая, але нічога больш табе не скажу, пакуль ты не пакажасься мне тут, пад мостам.

– Добра, але майце на ўвазе: шкарпэтак я цяпер ня маю і я ведаю каратэ.

– Не бяды, нічога ня бойся.

Юста спусьцілася да самых прыступак моста, які лучыў дзьве паловы чорнага парку і пад якім цякла вузкая рачулка, парослая чаротам. У цені хаваўся чалавечак – дзяўчына падумала, што гэта ліліпут, а мо і хобіт, бо шкарпэткі ж вялікія. Але хобітаў не бывае, а ліліпуты існуюць – прынамсі, яна дастаткова дарослая, каб ведаць пра гэта. Яна падбадзёрыла сябе і падышла бліжэй да малога чалавека.

– Вітаю-вітаю, дзяўчынка. Ня бойся, ня бойся мяне. Я добры Бэйбіс Фут, майстар на ўсе рукі ды ногі.

– Добры вечар, я Юста, люблю прыдумляць сьмешныя гісторыі. Калі вам патрэбныя вашыя шкарпэткі, – і дзяўчо заўважыла, што Бэйбіс Фут абуты ў вялікія скураныя боты, – то я магу вам іх з дому прынесьці.

[7] Чорны парк (швэдзк.).



*Аднойчы, калі Юста вярталася са школы праз стары, парослы елкамі, соснамі ды хмызьняком парк, яна заўважыла пад мостам, што быў зусім побач са страшным птушыным касьцёлам, чырвоную шкарпэтку.*

– Не-не-не, Юста, я хачу прапанаваць табе адну важную ўгоду. Для мяне і цябе, разумееш, – і чалавечак усьміхнуўся гэтак шчыра і па-дзіцячаму міла, што кожны згадзіўся б на любую ўгоду з гэтым прыўкрасным ліліпутам. – Я ведаю, ты шмат чаго баісься ў гэтым сьвеце, і ў табе зашмат трывогі, якая замінае жыць і спаць. Я магу забраць усе твае страхі, і ты зробісься нечувана бравай маладой жанчынай, якая дасягне вяршыняў.

– А скажыце, Бэйбіс Фут, што дзеля гэтага трэба зрабіць? Я часам гутару са школьным псыхолягам, і мне гэта дапамагае. Ці гэта лічыцца?

– Усё лічыцца, і ўсё можа залічыцца ў гэтым сьвеце, Юста. Твой, як ты кажаш, псыхоляг – гэта добра, але я магу ператварыць цябе ў сапраўдную супэрдзяўчыну.

– Ого, і што я мушу зрабіць?

– Ты мусіш прыйсьці дадому і пашыць са шкарпэтак ляльку, якая будзе цябе ахоўваць. Лялька можа быць кім заўгодна – мышанём, мядзьведзікам, птушкай. Галоўнае, што ты яе сама пашыеш і тройчы прамовіш маё імя – і ўсе твае страхі зьнікнуць, а лялька будзе ўсё жыцьцё тваім абярэгам, каб яны не вярнуліся.

– Ага, а хто яны – страхі? І што вам трэба ўзамен? Колькі гэта каштуе? Можа, мне ня хопіць грошай?

– Не хвалюйся, дзяўчынка, расплацімся шмат пазьней. Калі захачу з табою разьлічыцца, я сам цябе знайду, – прамовіў Бэйбіс Фут і ўміг пераскочыў на другі бок маленькай, сьціснутай лёдам рэчкі. – Да заўтра, Юста, мушу бегчы!

І чалавечак зьнік.

Ужо дома Юста зразумела, што зусім ня ўмее шыць – дакладней, яна, як сумленная дзяўчынка, можа нешта зацыраваць, але пашыць ляльку – рэч складаная, таму яна зьвярнулася па дапамогу да маці.

– А ты хіба хочаш сабе ляльку з гэтых шкарпэтак? Ты ж думала адшукаць гаспадара, абвестку друкавала.

– Гаспадар мне дазволіў, сказаў, яму яны не патрэбныя, таму і губляў іх кожны дзень, бо хацеў, каб яны зьніклі.

– Што ты кажаш, летуценьніца. Добра, нясі з шафы маю машынку. Зараз мы зробім выкрайку.

– Дзякуй, мама, я хачу, каб гэта быў дракон, з крыламі – чырвоны такі дракон. І зваць яго будуць, як танец: Кракавяк, бо я люблю таньчыць.

– А я ўжо падумала, што ты хочаш, каб твой дракон кракаў, нібы качка. Згода, нешта прыдумаем.



*– Ой-ой-ой, каб адшукаць майго даўжніка, мне дастаткова панюхаць паветра. Як бачыш, я не маладзею і прыйшоў да цябе па аплату. Ты добра пажыла, сьмела і прыгожа! Надышоў час дзяліцца.*

Увесь вечар маці і дачка стваралі ляльку, якая атрымалася ў іх ня надта і страшным драконам – хутчэй помесь сабакі, бычка і птушкі, якую звалі Кракавяк.

Юста вельмі хутка палюбіла ляльку, а праз пару дзён у яе зьявілася жаданьне навучыцца плаваць, а потым мо нарэшце і катацца на каньках, а можа, і каратэ яна вывучыць і ня будзе проста так казаць, што ўмее біцца, як каратыстка. Юста, як і абяцаў ёй дзіўны чалавечак, згубіла страх, аддала яго Кракавяку.

Дзяўчына цяпер займела сьмеласьць да ўсяго новага, прыгоды і доўгія падарожжы яе больш не палохалі. Юста пачала хутка расьці ды заваёўваць месца ў сьвеце, і ніводнага дня не было, каб яна не згадала пра свайго чырвонага дракона, дзякуючы якому была гатовая нават у горы ісьці ды абляцець сьвет на велізарным самалёце.

Час мінаў, Юста вырасла ў прыгожую жанчыну, маці траіх сыноў. Яна паступіла ва ўнівэрсытэт вельмі далёка ад дому, бо хацела памяняць асяродак, і родны горад ёй здаваўся замалым для яе плянаў і зусім ня страшным, як раней…

Мінула пятнаццаць гадоў, як яна жыве ва ўласным доме, гадуе дзетак і займаецца любімай працай – здымае перадачы пра незвычайных людзей: аквалянгістаў, пілётаў, баксэраў і падарожнікаў, скалалазаў і вайскоўцаў у гарачых кропках.

Здавалася б, што можа быць лепш і якая яшчэ сям’я шчасьлівейшая за яе сям’ю, як аднойчы ў дзьверы пазванілі, і калі Юста адамкнула, яна пабачыла на парозе малога чалавечка.

– Вітаю-вітаю, дзяўчынка. А куды падзелася лялька, твой Кракавяк? Можа, хтосьці на яго забыўся, а нават і згубіў?

– Эээ… Бэйбіс Фут? Як ты… увогуле… знайшоў мяне? Ты пра Кракавяка? Майго шкарпэткавага дракона?!

– Ой-ой-ой, каб адшукаць майго даўжніка, мне дастаткова панюхаць паветра, – і чалавечак крануў указальным пальцам свой вялікі нос. – Як бачыш, я не маладзею і прыйшоў да цябе па аплату. Ты добра пажыла, сьмела і прыгожа! Надышоў час дзяліцца. Сёньня я забяру ў цябе толькі пяць гадоў жыцьця, ну і крыху маладосьці, – абвясьціў Бэйбіс Фут і дробна затупаў нязграбнымі ножкамі, на якіх цяпер не было абутку, толькі неахайныя чырвоныя шкарпэткі.

*Сакавік – Ліпень 2017*
*Вісьбю, Готлянд, Швэцыя / Кракаў, Польшча*

# КАРОЛЬ-ЖАБА

## 1

Аднойчы хлопчык, якога звалі Пакемоха (бо ён быў той яшчэ рэдкі драпежнік), разам зь сястрой Этнай (бо яна часам магла ўспыхнуць, ну як сапраўдны вулькан, каб усім побач стала страшна) вырашылі, што надышоў час знайсьці сабе сапраўднае жытло, бо жыцьцё ў лесе іх больш не задавальняла.

У лесе жыць было ня вельмі ўтульна – зьвярам яшчэ так-сяк, але дзецям зусім кепска. Пакемоха і Этна, колькі сябе памятаюць, жылі ў лесе, але ўсе наўкола, ад птушак да жывёлінаў, казалі ім, што яны не лясныя жыхары, а прыбіліся аднекуль лясной ракой, якая невядома адкуль бярэцца і невядома куды цячэ.

З гісторыі пра тое, як яны трапілі ў лясны гушчар, вельмі любіў пацяшацца стары мядзьведзь. Ён распавядаў, як знайшоў іх і прынёс да сябе ў бярлог. Хлопчык быў пацешны, тоўсьценькі, круглы і ў сьмешнай піжаме з капюшонам, жоўтай. У піжамы хвост быў, як маланка. Глядзіць малы на мядзьведзя і кажа: «Пахімоха», гэтак яго і назвалі. Дзяўчынка была меншая, але адразу абвясьціла аб сваёй прысутнасьці ў лесе крыкамі, пачырванела ўся, ну рыхтык вулькан, які ўзвышаецца над лесам. Вулькан гэты ўсе завуць Этна, гэтак і дзяўчо назвалі.

Прынесла рэчка дзяцей у вялікім кошыку, пакінула на беразе і далей пацякла, а хлопца зь дзяўчынкай пачаў гадаваць лес.

Пакемоха хутка вывучыўся паляваць і быў знаны паляўнічы. Этна ўмела распальваць вогнішча з таго, што знаходзіла, але лес быў брудны, нават у самых дзікіх



*Аднойчы мядзьведзь распавёў дзецям, што там, калі падняць галаву, вышэй да гары, адкуль бяжыць рака, там, дзе яны яшчэ не былі, хоць ім здавалася, што бывалі, – там стаіць чалавечы замак, нікому не патрэбны, закінуты, але гэтак ён адно выглядае.*

кутках дзеці сустракалі то плястыкавыя бутэлькі, то сырыя запалкі, а то і сурвэткі, таму шмат часу яны прыбіралі.

Брат зь сястрой ня прагнулі сысьці зь лесу. Яны не адчувалі, што ім трэба мяняць асяродзьдзе, пакуль не падрасьлі ды не пачалі задумляцца, што выглядаюць зусім іначай, чым астатнія лясныя жыхары, і што, можа, надышоў час вярнуцца да людзей.

Мядзьведзь на схіле гадоў штодня заводзіў адную і тую ж гісторыю, маўляў, яны дзеці чалавека, але ня лесу, як бы гарманічна яны тут ні выглядалі. Але сказаць, што яны гарманічна выглядалі, было немагчыма – Пакемох гэтак вырас зь піжамы, ажно рукі ды ногі зь яе павылазілі і ззаду ўжо нічога не нагадвала сьмешнага хваста маланкаю, хутчэй выглядала як брудны шнурок на хлапечай дупе. А ў Этны вырасьлі даўгія і кучаравыя валасы, што спакойна замянялі ёй швэдар, а штаны яна сама сабе пашыла: як магла ўявіць штаны, гэтак і зрабіла іх з рэчаў, якія знаходзіла: з пакетаў, ручнікоў, сурвэтак.

Аднойчы мядзьведзь распавёў дзецям, што там, калі падняць галаву, вышэй да гары, адкуль бяжыць рака, там, дзе яны яшчэ не былі, хоць ім здавалася, што бывалі, – там стаіць чалавечы замак, нікому не патрэбны, закінуты, але гэтак ён адно выглядае. Гэты замак захапіў Кароль-Жабка, і ён, гэты пыхлівы і разьдзьмуты да неверагодных памераў зялёны карапуз, ганарыста лічыць сябе вышэйшым ня толькі за лясных жыхароў, але й лепшым і разумнейшым за людзей, таму і пасяліўся там. Ды ўсё ж дзецям варта наведаць замак, каб пачаць жыць па-чалавечы.

Мядзьведзь сказаў Пакемоху і Этне, каб яны пашукалі шчасьця ў замку, каб знайшлі кнігі ды вывучыліся чытаць і нават пісаць – тады яны стануць бліжэйшыя да чалавецтва і, можа, здолеюць зьбіць гонар з Караля-Жабкі.

## 2

Пакемоха і Этна выправіліся да гары. Ішлі цэлы дзень і толькі пад вечар убачылі ўдалечыні вялікі каменны дом, зь вежамі, якія глядзяць на ўсе чатыры бакі сьвету. У цэнтральных вокнах гарэла цёплае сьвятло.

Дзеці вырашылі ночыць у лесе, а раніцай пайсьці ў замак. Яны забраліся на верхавіну сасны і на галінах заснулі.

Ураньні іх пабудзіў крык. З вышыні дрэва Пакемоха заўважыў, што сам Кароль-Жабка б’е па сьпіне і галаве кагосьці ружовага і тоўстага, выганяючы яго з замку.

З замку выштурхалі кухара-парася, якога дзеці неўзабаве сустрэлі пад сасною.

Парася Кук быў слынны кухар, усе ведалі ягонае майстэрства, таму было дзіўна, што Жаба запрасіў такога файнага ўмельца смажыць кіўбаскі ды гатаваць салаты, бо ўсё, чаго прасіў кароль ад Кука, – варыць суп з мухаў, якіх яму ўпалёўвалі салдаты. Мушыны суп, нават прыпраўлены жукамі, быў зусім ня смачны, нават калі дадаць чарвякоў, і парася Кук ня ўмеў гатаваць ежы з кузурак – яго і выгналі.

Дзеці пасябравалі з парасём і паабяцалі, што абавязкова вернуць яго ў замак, калі самі туды трапяць і дамовяцца з Жабай пра жытло, і тады ўжо ён будзе гатаваць усё, што яму заманецца, каб ласаваць іх.

Кук апавёў, што ў замку сто дваццаць пакояў і пасяліць можна ня толькі дзяцей, але ўсіх лясных жыхароў, але Кароль-Жабка дужа сквапны і злы, і што яны і падысьці да замку не пасьпеюць, як іх схопяць вартавыя, і невядома, чым тое скончыцца.

Пакемоха і Этна вырашылі браць замак штурмам. Хлопчык выразаў з галінак пяцьсот салдацікаў, дзяўчына кожнаму салдаціку падаравала жыцьцё, дакрануўшыся ўласным магічным указальным пальцам, а парасё Кук зь лістоў клёну зрабіў самалёты, бо вакол замку велікан Боб выкапаў велічэзны роў, заліў вадою, распаліў вакол полымя, якое дзень і ноч падаграе ваду ажно да кіпню, таму прайсьці немагчыма, калі мост падняты, а вось пераляцець – лёгка.

Увесь дзень дзеці рыхтаваліся да бітвы, нават не прыкмецілі, як наступіла ноч. Этна распаліла вогнішча, а Кук згатаваў усім кашу з каштанаў. Пакемоха пашыхтаваў сваіх салдацікаў і загадаў ім класьціся спаць пасьля вячэры, каб набрацца сілаў. Сярод ночы пачнецца штурм замку.

## 3

І вось а трэцяй гадзіне ночы салдацікі пераляцелі на самалётах роў з кіпнем і, пакуль усе вартавыя спалі, скруцілі ды зьвязалі ўсіх. І гэтак жа ціха яны знайшлі Караля-Жабку ў ягоным пакоі, і пакуль той сонна пасопваў, скруцілі яго і занесьлі да вартавых.

Калі ўсе ў замку былі схопленыя і зьвязаныя, салдацікі адамкнулі галоўныя дзьверы і апусьцілі мост, каб зайшлі дзеці з парасём.

Кароль-Жабка, як прачнуўся, пачаў сварыцца, крычаць і патрабаваць, каб яго адпусьцілі, але дзеці выставілі ўмовы: яны ўсіх адпусьцяць, калі той згодзіцца пасяліць іх у адным з шматлікіх пакояў і дасьць ім настаўнікаў, каб навучыцца чытаць і пісаць.

І ўсе вартавыя пагадзіліся, каб хлопчык і дзяўчынка засталіся жыць і вучыцца ў замку, бо пуста і сумна тут. А Жабу нагадалі, што ён незаконна захапіў замак. Тут жылі сумленныя людзі, а ён падманам трапіў сюды і ўсіх насельнікаў атруціў. Ходзяць чуткі, што жывыя засталіся толькі двое дзяцей, якіх маці пасьпела пакласьці ў кошык і выправіла плыць па рацэ. Хто ведае, мо якраз яны і вярнуліся ва ўласны дом!

Жаба ажно разьдзьмуўся, як мяч, ад такой прапановы – пасяліць дзяцей у замку, і толькі зароў, каб яго разьвязалі ды неадкладна кінулі дзяцей у найцямнейшы пакой!

Пакемоха і Этна даведаліся, што яны нарадзіліся ў замку, і вартавыя, якіх разьвязалі салдацікі, пакланіліся ім і паабяцалі служыць. Яны ўзялі Жабу, які ўсё разьдзімаўся ад злосьці ды крычэў ліхім крыкам, занесьлі падалей ад замку, кінулі ў адной піжаме ў лесе і загадалі ніколі не вяртацца, калі хоча жыць.

4

Цэлы дзень дзеці хадзілі з пустога пакою ў пусты пакой і паўсюль бачылі толькі бруд і паламаную мэблю, якую пакінуў па сабе Жаба. Ён штодня перабіраўся ў новае месца, пакуль не забруджваў вакол падлогу, а мэблю разьбіраў на полымя для абарончага рову вакол замку.

У адным пакоі Этна пабачыла ляльку, сьмешнага сабачку – відаць, створанага з таго, што было пад рукой: анучка, шкарпэтка, гузікі, матузкі... Этна адчула такую пяшчоту да гэтай цацкі, нібыта ўпершыню за шмат гадоў сустрэла блізкага чалавека.

Пакемоха сьцяміў, пабачыўшы норкі, што гаспадаркай у замку займаюцца мышы, яны і гатуюць, дапамагаючы парасяці Куку, і прыбіраюць. Але Жаба гэтак засьмеціў усё навокал, што іх маленькія лапкі не даюць рады.

Аднойчы Пакемоха запытаўся ў вартавых, якія суправаджалі яго ў пошуках новых закінутых пакояў: навошта ў замку гэтулькі прасторы? І даведаўся, што ў старыя часы ўсе насельнікі замку і ваколіцаў жылі кожны ў сваім пакоі, бо гэтак лягчэй дапамагаць адно аднаму і абараняцца ад начных прывідаў. Замкавыя жыхары шылі сабе лялек, якія ўначы спалі каля дзьвярэй і вартавалі сон.

Этна і сама пазьней заўважыла, як яе цацка сярод ночы апынаецца каля дзьвярэй – пэўна, клапоціцца пра яе.

Аднойчы мышы прынесьлі дзецям купу дагератыпаў, пажоўклых і састарэлых. Брат зь сястрой якраз сьнедалі ў вялізнай зале для прыёму гасьцей



*Жаба ажно разьдзьмуўся, як мяч, ад такой прапановы – пасяліць дзяцей у замку, і толькі зароў, каб яго разьвязалі ды неадкладна кінулі дзяцей у найцямнейшы пакой!*

за цяжкім каменным сталом. Пакемоха пазнаў сярод шматлікіх рыцараў і князёў знаёмыя рысы – яму здалося, што ён убачыў бацькоў. Яны сядзелі на ложку, бацька трымаў на руках малога ў сьмешным касьцюме з хвастом-маланкай, а маці абдымала лялечку-дзяўчынку, зусім малую, якая туліла да сябе цацачнага сабачку.

## 5

Адным звычайным ранішнім днём у замку, калі нічога дзіўнага не адбывалася, вартавыя драмалі каля паднятага над ровам моста, а пяцьсот салдацікаў, ня ведаючы, чым заняцца, вылоўлівалі з кіпеню згатаваную рыбу, Пакемоха ўрэшце знайшоў велікана Боба.

Боб недзе месяц таму зайшоў у пакой з матрацамі і заваліўся спаць, а на раніцу ня змог адшукаць выйсьця, бо пакой быў велічэзны, а сонны велікан пераварушыў матрацы гэтак моцна, што закідаў дзьверы.

І вось хлопчык адчыняе дзьверы – цікава, што ён знойдзе, гэта былі ўжо пяцідзясятыя дзьверы за месяц жыцьця ў замку, – а на яго вывальваюцца матрацы, а за імі Боб, якога даўно ўжо згубілі.

Велікан у сьлязах, скардзіцца, як было страшна, што шукаў выхад, і не знаходзіў, і схуднеў праз нэрвы і голад на пяць памераў у штанах і на дзесяць памераў у кашулі, бо толькі матрацы еў і запіваў горкімі сьлязьмі.

Боб абдымаў і цалаваў Пакемоху, свайго ратавальніка…

Давялося тэрмінова клікаць Кука, каб той забраў у салдатаў увесь рыбны ўлоў і пільна згатаваў Бобу юшку.

Парася адразу пабег на кухню, а Этна адшукала Бобу вялікую падушку, каб прылегчы супакоіцца, але Боб за трыццаць тры матрацныя дні нават глядзець на рэчы, зьвязаныя з ложкам, ня мог. Давялося за ім, спужаным падушкай, ганяцца да абеду па калідорах замку, пакуль Кук не паклікаў есьці.

Гэтак ішлі дні ў замку. Бывала і сумна, калі даводзілася толькі вучыцца пісаць і чытаць ды слухацца мышак, а часам было і весела, калі велікан учыняў нешта дзіўнае і сьмешнае альбо гарэзілі салдаты. Пакемоха і Этна павесілі фотаздымкі бацькоў на сьцяну ў пакоі, які выбралі як самы ўтульны і цёплы, бо ў ім стаяў двухпавярховы ложак, які нагадваў лясное дрэва, дзе яны бавілі час і гадаваліся побач зь мядзьведзем. Тут жа была печка, у якой увечары палілі, і яна саграваў большасьць пакояў.

## 6

Мінуў яшчэ месяц, у лесе падоўжыліся ночы, сталі халоднымі вечары, і рака, што выцякала з вулькану, халадзіла ўраньні паветра, калі дзеці бегалі да яе мыцца, – не хацелася ўжо ў ёй затрымлівацца басанож.

І тут пад сьценамі замку зьявіўся замерзлы і моцна схуднелы Кароль-Жабка, а цяпер проста Жаба, бо каралём ён сябе называў у замку, нахабна захапіўшы і закатаваўшы насельнікаў.

Жаба вярнуўся прасіцца жыць, каб ня зьмерзнуць у лесе ў адной піжаме, але ён ня ўмеў прасіцца і ніколі не прызнаваў сваіх памылак, ён ня ведаў нават, як прабачацца. Ён мог толькі захопліваць чужыя дамы і валадарыць там. Ня ведаючы, як трапіць у замак напярэдадні хуткай зімы, гэты Жаба пачаў крычаць, шпацыруючы вакол замку і рову: «Адчыняйце вокны і дзьверы, апускайце мост! Я вярнуўся панаваць і валадарыць, я непераможны! Прашу вас здаць мне зброю! І замак!»

Жаба ходзіць навокал і не дае нікому спакойна жыць, вартавыя не адпачываюць, салдаты хвалююцца – і дзеці вырашылі, што надышоў час сур'ёзнай гутаркі.

Пакемоха і Этна ўзялі з сабой веліканa Боба на размову, апусьцілі мост і перайшлі роў.

Не пасьпелі дзеці і слова вымавіць, як Жаб адным скокам ухапіў Этну ў сьлізкія лапы і адскочыў далёка, каб Пакемоха і велікан не дацягнуліся да яго. Ён сказаў, што зараз жа праглыне дзяўчынку, калі ўсе тэрмінова не пакінуць замку! Ён напраўду гатовы зьесьці Этну, бо дужа галодны.

Жаба толькі не ўлічыў, што Этна мела ляльку-ахоўніцу, палатняна-шкарпэткавага сабачку. І пакуль Жаба разяўляўся, пагражаў і махаў кулакамі, ён нават не заўважыў, як цацка дапамагла дзяўчынцы высьлізнуць зь ягоных зялёных абдоймаў. А калі Жаба тое прыкмеціў, бегчы ўжо не было куды: велікан Боб наступіў на яго нагой і расплюшчыў тут жа, у бруднай лужыне.

## 7

Гэтак ня вельмі слаўная Жабава гісторыя і скончылася б, каб не адна акалічнасьць.

На месцы, дзе Боб расплюшчыў Караля-Жабу, у гэтай самай бруднай калюжыне завялося адразу дзьвесьце апалонікаў, якія ад яшчарак атрымалі травяныя



*Вакол замку велікан Боб выкапаў велічэзны роў, заліў вадою, распаліў вакол полымя, якое дзень і ноч падаграе ваду ажно да кіпню.*

кароны і ўсе разам праз тыдзень зрабіліся жабянятамі-прынцамі – ды пасьпяшаліся з лужыны на прыгоды, паскакалі па лесе, а некаторыя даскочылі нават да вяршыні вулькану. Усе яны рушылі падалей ад замку ў пошуку іншых дамоў і прытулкаў, якія можна будзе захапіць і ўсіх ператварыць у рабоў, а тых, хто ня слухаецца, кінуць у турму альбо нават атруціць… Бо ў жабіным сьвеце панаваць можа толькі адна рэч – гвалт.

*Жнівень – кастрычнік, 2018*
*Сыцылія, Італія – Вэнтсьпілс, Латвія*

# МОРА-АКІЯН

Я валодаю барам ужо трыццаць гадоў, але такіх наведнікаў, як той, што завітаў да мяне мінулым вечарам, ніколі не сустракаў. Мужчына быў сівы, і здавалася, ён перажыў нейкую бяду, па якой ніяк ня можа ачуняць. Нібыта хтосьці моцна яго напужаў, і ён такі і застаўся – з вырачанымі вачыма, з вуснамі, скрыўленымі, нібыта ён працягвае бязгучна крычаць.

Цені над барнай стойкай рабілі госьцеў твар самотным, сумным, страшным і адначасова прыцягальным, яго хацелася разглядаць, дзівіцца на зморшчыны на лобе і пад вачыма.

Мужчына сеў за барную стойку і папрасіў грогу.

На вуліцы гула завея, некаторыя дарогі былі ўжо заваленыя сьнегам, на вуліцах анікога, крамы пазамыканыя.

Я пачаў разаграваць кардамон і перац, каб дадаць у ром.

– Я вось што скажу, шаноўны, – пачаў размову мужчына. – Вы ж памятаеце, быў тут у нас на гары жылы комплекс пабудаваны, гадоў сорак таму?

– Так. Ці не, ня памятаю, быў замалады. На гары? Велізарны дом...

– Ага, велізарны ня тое слова, яго абзывалі чалавейнікам, бо кватэраў было, як у сотах, а калідораў, як хадоў у мурашніку. Я тады займаўся гэтым домам, я валодаў ім, і будаваў яго таксама я. І назву яму прыдумаў я – «Мора-Акіян», бо дом гэты ўсімі вокнамі, як ні павярні, глядзеў на мора, на сьвітанак і заход сонца, прадзімаўся салёнымі вятрамі з захаду на ўсход і з поўначы на поўдзень. Фантастычная ўгода была ў мяне – зямлю пад будоўлю горад аддаваў амаль за так, разумееце?




*Пасьля некалькіх месяцаў блуканьняў я і знайшоў сабе гэтую гару. Адразу пайшоў у мэрыю, дамаўляцца, а мне там і сказалі: бяры гэтую гару з гушчаром хоць за так, толькі крыжы і шыбеніцы прыбяры.*

– Не, ня вельмі.

– Ну, пустка гэтая на гары аддавалася чыноўнікамі амаль за бесцань, а я быў жвавы, малады, хацеў хутка разбагацець.

– А, усё, я зразумеў, пра якую вы пустэчу на гары, гэта ж тое месца, дзе ў Сярэднявеччы былі шыбеніцы, на якіх вешалі бандытаў. І там цяпер звалка нейкая.

– Ня звалка, а тое, што засталося ад дамоў.

– І гэтую пустку аддалі для пакараньняў, каб увесь горад бачыў на гары, каго караюць, зь любога месца кожны жыхар мог падняць галаву і на верхатуры ўбачыць, ці гайдаецца там цела вядзьмаркі альбо забойцы. Кепскае месца, бо шыбенікаў там адразу і закопвалі.

– Ведаю-ведаю, але для бізнэсу і будоўлі гэта ня мела аніякага значэньня, людзям толькі давай сьмерць, ды яшчэ цёпленькую, і на талерцы з прыборамі. Паглядзіце, як у ахвотку людзі ходзяць на могілкі, як там часта ў сьвяты ядуць і выпіваюць яны са сваімі, а ў некаторых культурах нябожчыкаў і па рэках сплаўляюць, і ядуць іх згарэлыя парэшткі, і муміфікуюць розных манахаў. Вось я і думаў ператварыць месца «трох шыбеніц» у новы спальны раён «Мора-Акіян», зарабіць на страшным месцы. Ведаеце, шаноўны, для бізнэсу часта няма межаў, ёсьць толькі фінансавыя абмежаваньні. Чалавек на ўсё згодзіцца, пытаньне толькі ў коштах. І вось я такі шчасьлівы, прадаў бацькаву хату і вырашыў далёка грошай не адкладаць, звольніўся з будаўнічай кампаніі і пачаў езьдзіць па ваколіцах, думаць, як і што б такое пачаць будаваць, каб выйшаў пасьпяховы праект. Пасьля некалькіх месяцаў блуканьняў я і знайшоў сабе гэтую гару. Адразу пайшоў у мэрыю, дамаўляцца, а мне там і сказалі: бяры гэтую гару з гушчаром хоць за так, толькі крыжы і шыбеніцы прыбяры, гара ніколі нікому не была патрэбная, акрамя вернікаў і фанатыкаў, бо вось разьвіваецца турыстычны бізнэс уздоўж узьбярэжжа, а ў горы мала хто прагне падымацца. Я запэўніў, што, калі інфраструктура хутка разьвіваецца, будзе і ў майго праекту добры прыбытак. Я знайшоў памочніка, добрага хлопца, акуратнага, які паўсюль пасьпяваў з маімі наказамі. Літаральна за год праект «Мора-Акіян» стартаваў, усе каштарысы былі падпісаныя, і мая будаўнічая кампанія ўзялася за работу над новым жылым комплексам, складзеным з трох дваццаціпавярховых дамоў, аб’яднаных адным унутраным дваром, паркінгам на першым паверсе – утульна заяжджаць – і пэнтгаўсамі на апошніх. Пачаўся пошук патэнцыйных кліентаў. Сур’ёзна, я быў сьведкам, як мая рыэлтарка ўзяла тэлефон, каб абзваньваць мясцовых бізнэсоўцаў, заводзіць знаёмствы, ажно тэлефон сам зазваніў у яе руках –

нумар быў схаваны, і гэта быў добры знак, бо свае тэлефонныя нумары часта хавалі людзі, якія займаліся сур'ёзнымі справамі.

– Альбо пад нумарамі плішчацца рэклямнікі ды розныя тэлефонныя боты апэратараў... – дадаў я.

– Я не спрачаюся, але тое ня так істотна. Званіла жанчына, якая хацела набыць кватэру ў маім комплексе. Разумееце, вось у мяне на стале ляжаць яшчэ не разасланыя поштай рэклямныя флаеры, ніякіх нідзе банэраў аб продажы кватэраў, рыэлтары толькі пачыналі працу, а нам ужо тэлефануюць, каб набыць кватэру. Суразмоўніца сказала, што прыедзе хутка і што гатовая засяліцца і аплаціць кватэру адразу на месцы. Мы яе папярэдзілі, што пакуль ідзе аздабленьне, трэба падпісваць паперы і рабіць першы ўнёсак, каб засяліцца праз тры месяцы. На што жанчына адказала, што прыедзе, калі ўсё будзе гатова, і ўмовы яе такія: на месцы адразу ўсё падпісаць, заплаціць яна гатоўкаю і засеціцца адразу ж. Мы ўсе ў офісе падумалі, што тэлефануе хворая. І забыліся на яе амаль адразу. У нас закіпела праца... але радасьці тое кіпеньне не прынесла, выявілася, што жыхары гораду нават слухаць не хацелі ні пра якія гарачыя прапановы ў новым комплексе «Мора-Акіян». Усе кідалі слухаўкі альбо яшчэ горш – маглі аблаяць маладых і руплівых агентаў.

Быў час, я ажно страціў веру ў тое, што знайду пакупнікоў. Бо ня толькі тутэйшыя, а нават з суседніх гарадоў людзі адмаўляліся слухаць, і ўсе на адзін голас казалі, што побач з шыбенікамі жыць ня будуць, бо зямля там насычаная сьлязьмі ды іншымі вывяржэньнямі зь целаў павешаных. Да ўсяго пайшлі плёткі, што там, побач з шыбеніцамі, у лясным гушчары пакараных і закопвалі, і быў такі цёмны час у нашай гісторыі, што нават расстралялі мясцовую інтэлігенцыю ў чорныя гады жыцьця пад акупацыяй.

Спачатку я думаў, што быў жа добры знак: пазваніла жанчына, няхай і здавалася вар'яткай, яшчэ да пачатку рэклямнай кампаніі – але ўсе нашыя тэлефоны ў офісе пачалі пакрывацца пылам, ніводны не азываўся, толькі мы называньвалі з мабільных кліентам. Шчыра скажу, я і ня памятаю, хто працаваў у маім офісе, але мой памагаты Януш выконваў працу за пецярых, і ўсё адно пад канец будаўніцтва, калі здалі гатовыя дамы, я выдыхнуў з палёгкай, бо яшчэ пара месяцаў – і варта было б хвалявацца наконт фінансаваньня. А цяпер заставаўся час сабраць усе сілы і шукаць кліентаў, я нават падумваў, каб заахвоціць Януша паехаць у Галівуд і пагутарыць пэрсанальна зь Людвігам пра нечуваныя пэрспэктывы – займець маёмасьць каля мора, на гары, вокнамі на чатыры бакі сьвету, такіх дамоў ніхто ніколі не будаваў, і да таго ж,

тут можа ўсё вырасьці ў залаты зімовы курорт, у параўнаньні зь якім той жа Аспэн будзе глядзецца недарэчнай вёскай... І не пасьпеў я дадумаць, як мне патэлефанаваў мужчына і сказаў, што хоча зараз прыехаць і набыць кватэру. На месцы падпіша ўсе дамовы, заплаціць наяўнымі.

– Хм, дзіўна неяк. Здаецца, я чуў пра гэты дом, але ў маладосьці жыў у іншай краіне, мне бацькі распавядалі, што нехта тут распачаў будоўлю стагодзьдзя, але я ня надта слухаў, што там бацькі казалі, прыяжджаў рэдка, дый тое, калі вымушаны быў, а цяпер... Бачыце, амаль трыццаць гадоў даглядаў бацькаў бар, сям'ёй аброс, варта было толькі на пахаваньне маці прыехаць і ўбачыць, які хворы зрабіўся мой стары.

– Вось таму вам будзе цікава пачуць гэтую гісторыю зь першакрыніцы, а не з газэтаў, якія пісалі розную лухту і нават пачалі праводзіць незалежныя расьсьледаваньні якасьці і хімічнага складу будматэрыялаў. Але я забег наперад.

– Я, шчыра, даволі доўга зусім не цікавіўся жыцьцём сваёй правінцыі, бо марыў скончыць школу і адразу паляцець мясцовым кукурузьнікам у сталіцу, бо там было шмат пэрспэктываў.

– А ў выніку... – і мужчына разьвёў рукамі.

– Так, у выніку я працягваю бацькаву справу і жанаты са сваёй аднаклясьніцай. Каб мне сказалі пра гэта ў мае дзёрзкія дваццаць тры, калі я быў безразважным шаленцам, змагаўся зь дзяржавай і лічыў, што ўхапіў удачу за хвост...

– Во-во, і я лічыў, што ўхапіў удачу за хвост з гэтай неверагоднай гарой шыбенікаў.

І вось уявіце, праз гадзіну да нас у офіс, а мы перавезьлі яго з падгор'я на першы паверх аднаго з корпусаў навабуду, заходзіць мужчына – выглядае ён, нібы яго білі на баксёрскім рынгу, а потым не далі нават душ прыняць і гэткага сіняга, змалочанага і сьмярдзючага выправілі да нас.

Ён рухаўся нібыта ў сьне, павольна. Зайшоў, павітаўся і спытаў, хто прадасьць яму жытло.

Я паказаў яму на фатэль, хітнуў сакратарцы, і тая ўзялася рыхтаваць паперы.

Я зьбіраюся зь першым пакупніком кватэры працаваць асабіста – так бы мовіць, сам запушчу машыну продажу. Мужчына сеў і на імгненьне быццам прыснуў, потым заківаў галавой, нібы пагадзіўшыся са сваім унутраным голасам, паклаў на мой стол старую валізку, раскрыў яе, і я ўбачыў купу наяўных грошай, банкноты былі неахайна спакаваныя, некаторыя пакамечаныя... Я адразу падумаў, што мужчына



*Заходзіць мужчына – выглядае ён, нібы яго білі на баксёрскім рынгу, а потым не далі нават душ прыняць і гэткага сіняга, змалочанага і сьмярдзючага выправілі да нас. Мужчына сеў і на імгненьне быццам прыснуў, потым заківаў галавой, нібы пагадзіўшыся са сваім унутраным голасам, паклаў на мой стол старую валізку, раскрыў яе, і я ўбачыў купу наяўных грошай.*

ці абрабаваў банк, ці разьбіў велічэзную скарбонку, куды зьбіраў грошы не адзін дзясятак гадоў.

Я папрасіў Януша ўзяць валізку, пералічыць грошы і трымаць пры сабе, пакуль мы не падпішам дамовы.

Праз гадзіну я ўжо перадаваў ключы першаму ўладальніку кватэры. І ведаеце, што мяне зьдзівіла? Мужчына зайшоў у новае жытло безь нічога, без валізаў, торбаў, і машыны не было з рэчамі для пераезду.

Я тады падумаў, што яму ўсё прывязуць яшчэ... і папрасіў Януша зноў пералічыць грошы.

Можна мне запаліць тут?

– Добра, курыце, сёньня пусты вечар, сьнег мяце гэтак, што на двор хіба вар'ят выйдзе, – сказаўшы гэта, я пашкадаваў, бо мужчына пільна на мяне паглядзеў, але не было відаць па ягоным твары, што я яго пакрыўдзіў. – Вам наліць яшчэ?

– Давай, налі, мы ж на ты, добра?

– Ага. Тады пазнаёмімся: Томас.

– Зрабі мне двайны грог, то-бок вялікі куфаль, можна нават літровы, піўны. Калоціць мяне. Я – Адам. Адам Тарасаў.

Ну дык вось, мінае роўна тры дні, і я магу прысягнуць, што роўна а дзявятай гадзіне раніцы мне тэлефануюць. Цяпер ужо жанчына, нібыта з далёкай краіны, голас зь іншага канца сьвету, глыбокай ямы, і распавядае, што хутка прыедзе набыць кватэру, на апошнім паверсе, з сабою вязе гатоўку.

Разумееш, Томас, усё як дэжавю, паўтараецца: званок, візыт, валізка скамечаных грошай, толькі гэта была жанчына, і выглядала яна гэтак, быццам толькі што перанесла апэрацыю на страўніку і яе адразу з бальніцы паслалі сюды: яна няспынна гікала і трымалася за жывот, і гэтая яе гікаўка (нібыта перад вачыма ўсё тое) сьмярдзела скіслым халадцом. Яна падпісвае паперы, а выглядае так, нібыта яе званітуе.

– Ох, фу, брыдота.

– І вось, Томас, усе тэлефоны ў офісе маўчаць, замоваў няма, але кожныя тры дні я атрымліваю кліента праз мабільны тэлефон. Усе кліенты далёка ня ў лепшым фізычным стане. Нягледзячы ні на што, на розны ўзрост і стыль адзеньня, усе гэтыя людзі выглядалі, нібыта яны адной нагой у труне. Стандартная схема: за гадзіну ўсё аформіць – грошы ў валізцы – ключы ад кватэры.

Некаторыя ўдваіх прыходзілі, і ўтраіх, але ніводнай сям'і зь дзецьмі я не засяліў. Усе выглядалі самотнымі сужыцелямі, сябрамі...

А цяпер, Томас, давай зоймемся матэматыкай.

– Добра, Адам, ты ня супраць, калі я і сабе налью?

– Ды рабі што хочаш! Мне трэба пра ўсё распавесьці, бо я нават дзецям нічога не казаў, а жонка ўвогуле думае, што я на старасьці гадоў паехаў урэшце адведаць бацькоўскія магілы. Разумееш, я занадта доўга трымаў гэта ў сабе.

– Так, разумею, – адказаў я, змаўчаўшы, што ва ўсіх разьвязваецца язык з бармэнам.

– Глядзі, ёсьць тры будынкі на дваццаць паверхаў, аднапад'ездавыя будынкі, квадратныя з чатырма кватэрамі на паверсе, каб кожная кватэра выходзіла на іншы бок сьвету, – атрымліваецца роўны крыж. Потым у нас першыя паверхі ў дамах – паркінг, і ў адным доме мы забралі другі паверх цалкам пад офіс. А, ну і апошні паверх – гэта пэнтгаўс, адзін пэнтгаўс на паверх – разам тры пэнтгаўсы. Палічым, колькі кватэраў агулам з пэнтгаўсамі: дзьвесьце пятнаццаць.

І як павялося, кожны трэці дзень я прадаваў кватэру. Два гады запар, нікуды не зьяжджаючы, я прадаваў кватэры. Супрацоўнікаў усіх звольніў, бо яны ня мелі працы, толькі Януша пакінуў, які на самым пачатку, калі я афармляў трэцяга паводле ліку кліента, паклаў мне ў рукі ляльку.

– Якую ляльку? У сэнсе? Праз гэта вы Януша пакінулі? Ці што? – Відавочна, мой госьць ужо добра сагрэўся і нават разагрэўся грогам – пра гэта сьведчыла няроўнае апавяданьне.

– Не. Слухай. Прыносіць мне Януш ляльку, я гляджу – апранутая, як я, і нават у прышытых гузіках я знайшоў падабенства да сваіх вачэй.

Януш мне кажа, што лялька – абярэг. Што не падабаюцца яму гэтыя паўжывыя кліенты. І што я адзін атрымліваю іхныя званкі і замовы – нячыста гэта. Кажа мне, каб ляльку я насіў у кішэні, што зрабіў яе з маіх шкарпэтак, якія днямі падабраў у душавой.

А я яшчэ бегаў шукаў тыя шкарпэткі.

– Гэта што, Адам, лялька вуду нейкая?

– Я ня ведаю, сур'ёзна, але пачаў яе насіць у кішэні швэдра, назваў яе Джэкам, бо спадабалася, як гучыць, ну й верш такі, помню, мне ў дзяцінстве маці чытала: «Дом, які пабудаваў Джэк», так што ўсё супала. Я таксама дом пабудаваў. І не адзін.

І вось мінаюць тыдні, павольна, але непахісна я прадаю кватэры разам зь Янушам і Джэкам, і вось што дзіўна – паркінг пусты. Ніхто з жыхароў ня езьдзіць аўтамабілем? Немагчыма. У двары ніхто не гуляе з сабакам, не выходзіць на шпацыр, дзяцей на пляцоўцы няма.

Мой праект «Мора-Акіян»ператварыўся ў жах і без шыбеніцаў. А іх мы, дарэчы, вырашылі ня зносіць, бо хто ведае, што пад імі ў зямлі ляжыць... Проста перарабілі іх у аркі ды абсадзілі плюшчом, каб усё гэта схавалася з вачэй, бо напраўду ніхто не наважыўся выкопваць іх.

У вокнах дамоў вечарамі зрэдку запальвалася сьвятло.

Я суцяшаў сябе думкаю, што, відаць, гэтак спрацавала рэкляма, і сюды багатыя сваякі выправілі нямоглых, старых і ссохлых родных – дыхаць паветрам, бо мора побач, і лавіць промні сонца ў кожнае імгненьне дня.

– Разумею вас, цяжка было назіраць, як руйнуецца мара.

– І не кажы, я ж спадзяваўся на іншае, але першыя два гады можна было назваць самымі прыўкраснымі, пакуль прадаваліся кватэры. А пазьней, калі да мяне прыйшла маладая пара, нечакана маладая, я нават зьдзівіўся, што хлопец і дзяўчына выглядалі звычайна, ня кепска і ня хвора, акрамя, можа, шнараў – шырокіх і чырвоных, на руках у абодвух. Яны мне сказалі: «На пятнаццатым паверсе ў вас засталася кватэра нумар пяцьдзясят тры. Мы яе набываем». І вывалілі мне з торбы, старой такой торбы, прагнілай, цэлы стос скамечаных банкнотаў.

Калі хлопец нахіляўся вытрасьці грошы на стол, я заўважыў у яго агідна тоўсты чырвона-сіні шнар на патыліцы і яшчэ падумаў: з такімі шнарамі не жывуць.

Я праверыў дакумэнты, але насамрэч правяраць не было чаго, бо я і сам ведаў, што ў мяне засталася свабодная толькі кватэра пяцьдзясят тры.

Ну вось, я прадаў ім апошнюю кватэру. Выдыхнуў, супакоіўся, пачаў думаць, што і гэты офіс мне не патрэбны, і паркінг таксама... Думаю сабе, гладжу звыкла ў кішэні Джэка, і тут чую сьветлы, разумны голас у галаве: «Трэба табе, Адаме, зьяжджаць куды падалей, грошы на рахунку ёсьць, “Морам-Акіянам” няхай далей займаецца Януш!»

І на наступны дзень я перадаў усе справы Янушу, зрабіў яго аканомам, дворнікам (прыбіраць і так не было патрэбы, бо сьмецьце не зьбіралася), ахоўнікам і вахторам.

Зьехаў я на радзіму, думаў, што на пару тыдняў, ажно захрас там да сёньня, бо займеў сям'ю.

– Мы з табой тут падобныя, мне таксама трэба было рызыкнуць, каб зразумець, што дома лепш!

– Не кажы, Томас, і вось калі я зьехаў, – Адам працягла каўтнуў палову ўжо цеплаватага грогу з паўлітровага куфля і працягнуў: – Калі я зьехаў, на наступны дзень, а гэта значыцца, зноў на трэці...

Памёр першы пакупнік. Знайшоў яго мёртвым Януш, бо хадзіў па калідорах і заўважыў на дзьвярах нейкую цьвіль, пачаў адціраць, а цьвіль не паддаецца, да ўсяго яшчэ і прарасла неяк дзіўна, літарай Х…

Ну, Януш пачаў адскрабаць, налёг на дзьверы, а тыя адамкнуліся, і вось, карціна алеем: мярцьвяк.

Ты разумееш, блізкіх у яго няма, страхоўкі ніякай, толькі цела ў кватэры – акуратна адзетае, абутае, нібы гаспадар кватэры паклаўся, стомлены, у гарнітуры адпачыць. Нават дакумэнтаў не знайшлі… Але ж я і ня памятаю, каб ксэракапіяваў іх, усе дамовы запаўнялі на падставе таго, што даваў мне ў якасьці пашпарта кліент, і я, далібог, не магу згадаць, што дакладна бачыў.

Мэдычная экспэртыза выявіла спыненьне сэрца, якое, паводле патолягаанатама, было ў вельмі кепскім стане.

Я папрасіў Януша сьціпла і акуратна пахаваць майго першага пакупніка на гарадзкіх могілках, што ніжэй па схіле гары.

І каб ні слова не пратачылася ў мэдыі! Каб ніводнай літары зь любога сказу, слова, радка пра тое, што адбылося, не зьявілася ні ў воднай газэце. Самі аплацім пахаваньне.

– Ды гэта неймаверная гісторыя. Адам, ты мне тут прыдумляеш, п’яны… Але добра, распавядай, я люблю такое слухаць.

– Вось бачыш, я і кажу, людзі любяць пра сьмерць слухаць, пагатоў вусьцішныя гісторыі, і ня толькі слухаць, але і зазіраць пад ложак, у шафу альбо ў чорны калодзеж у спадзеве спужацца – але ня так моцна, каб адбіла ахвоту ўзірацца празь мяжу дазволенага.

Карацей, усё памкнулася, нібыта ў зваротным кірунку. Кожны трэці дзень Януш знаходзіць на дзьвярах імшысты крыж, а за дзьвярыма нябожчыка, нябожчыцу альбо адразу дваіх пмерлых.

Я, каб не разьдзімаць з гэтага скандалу, на працягу двух гадоў выплачваў Янушу грошы, і той займаўся не ўладкаваньнем дамоў, але пахаваньнем за пахаваньнем.

Усё, што ў мяне засталося з той выспы, – а я ж паехаў толькі з дакумэнтамі, грашыма і спадзевамі, – мой Джэк. Я гэтак да яго прывязаўся, што нават памыў у пральнай машыне, зашыў і схаваў на кніжнай паліцы, пакуль падрослая старэйшая дачка не знайшла яго…

– Добра, добра, добра, Адам, а далей што?!

– Ну… Паліцыя толькі паціскала плячыма: маўляў, самі вінаватыя, пазасялялі старых і нямоглых, яшчэ і на гушчары трох шыбеніц…

Ніхто нічога не хацеў ведаць, развашаць, шукаць адказаў, на мае дамы пачалі глядзець як на справядлівую кару.

– Ну ня ведаю – думаю, што ўсе гэтыя паліцэйскія дома ўвечары зьлівалі сваім родным інфармацыю пра сьмерці, пагатоў новых пахаваньняў не маглі не заўважаць у невялікім горадзе.

– Я мяркую, Томас, што я свой жылы комплекс пабудаваў дзеля таго, каб дапамагчы перапахаваць шыбенікаў у нармальных умовах, на могілках, бо іншага тлумачэньня ў мяне няма. А гэты Януш, хто б ён ні быў, надта ладна выканаў такую працу, яшчэ і Джэка мне стварыў. А сам, ведаеш што? – Адам відавочна быў нападпітку.

– Што?

– Зьнік ён. Разумееш, зьнік.

– Вось гэта гісторыя…

– Самая рэальная гісторыя, а то! Дарэчы, а як там гара тая, з шыбеніцамі?

– Ну як, я ведаю толькі, што прастаялі будынкі некалькі гадоў, потым улады абвясьцілі іх зонай карантыну, бо нейкая цьвіль пайшла па цэгле, вырашана было разабраць будынкі, бо высокія яны, і небясьпечна на гары.

– Гэта зразумела. Цікава, куды падзелі ўвесь матэрыял. Вядома, не адвозілі далёка, мо закапалі ў які катлаван.

– Я б у мора выкінуў, каб з канцамі. Але ведаеш, калі разабралі будынкі, цьвіль высахла, і нават амаль нічога не засталося, каб дасьледаваць і захоўваць карантын на гары…

– У мора, так, каб той жа Ктулху там пабудаваў дамы для тапельцаў, – і Адам засьмяяўся, а хутчэй захрыпеў, сумна і страшна. Потым рэзка сьціх. – Я сюды ня проста так прыехаў, бо колькі гадоў не дае мне спакою адзін і той жа сон – вось я ўздымаюся на гару, а там мяне сустракае навюткі, толькі пабудаваны комплекс «Мора-Акіян», увесь такі прыгожы, і з кожнага акна на мяне глядзяць яны, мае кліенты, жыхары… І я падымаюся на апошні паверх у сваім улюбёным трэцім корпусе, дзе месьціцца самы прыгожы, як на мой густ, пэнтгаўс. І шчасьлівы я ад гэтага неверагодна… Нейкае нерэальнае шчасьце, такое, якога я ніколі не адчуваў, эўфарыя, словам. І вось я ў пэнтгаўсе, і мяне сустракае і абдымае надзвычай прыгожая, проста нейкая шалёна сэксуальная жанчына з кашэчымі вачыма, а я іду да яе і ў кішэні швэдра гладжу ляльку Джэка, а потым мне робіцца страшна, балюча шкада самога сябе і сьмерці… – стары апусьціў галаву на рукі, і на сэкунду здалося, што ён плача, але ён нешта прамармытаў пад нос і прыціх.



*А калі мінула хвіліна, я зразумеў, што мой наведнік сьпіць. Я яшчэ пастаяў моўчкі, падумаў, што рабіць з Адамам, потым наліў сабе ўіскі ды замкнуў уваходныя дзьверы — усё адно чакаць сёньня няма каго.*

А калі мінула хвіліна, я зразумеў, што мой наведнік сьпіць.

Я яшчэ пастаяў моўчкі, падумаў, што рабіць з Адамам, потым наліў сабе ўіскі ды замкнуў уваходныя дзьверы – усё адно чакаць сёньня няма каго – і пайшоў у другую частку дому, жылую.

Мая памерлая жонка сядзела перад тэлевізарам з келіхам віна, у яе былі мокрыя валасы і адзежа.

– Даўно цябе не было.

– Справы.

– Там у бары заснуў адзін падарожнік.

– Ага.

– Што глядзіш?

– Нічога. Толькі ўключыла.

Я падышоў да валізкі побач з фатэлем, адчыніў, кінуў заробленыя сёньня некалькі паперак і жменю манэт, потым сеў у фатэль і выпрастаў ногі.

– Ці доўга мне яшчэ зьбіраць грошы?

– Пакуль іх ня будзе дастаткова.

*Сакавік 2017 – кастрычнік 2018*
*Вісьбю, Готлянд, Швэцыя / Вэнтсьпілс, Латвія*

# ХЛОПЧЫК-КРЭВЭТКА

1

Сямейства Дугаў чакала сына. Бацька ўяўляў, як будзе гадаваць першынца, як яны пойдуць разам пад ветразем на рыбалку, будуць гуляць у футбол, як сын вырасьце разумны і добры. Маці ўяўляла, як сыночак будзе яе любіць і лашчыцца, яны будуць катацца на роварах у лесе, і яна навучыць яго шанаваць жанчын, а потым стане прыгожай бабуляй пяцярняшак.

Дугі доўга плянавалі сына, і можна нават заўважыць з колькасьці цацак, лялек і адзежы, якую яны накуплялі, – сына яны перачакалі. Шмат у каго зь іх знаёмцаў стварылася ўражаньне, што Дугі чакаюць дзіцёнка толькі дзеля саміх сябе і што свабоды волі, магчымасьці жыць у хлопца не застанецца. Але ж бацькоў не выбіраюць – бацькі выбіраюць самі, і ў гэтым жыцьцёвым правіле хаваецца адказ на загадку пра тое, што зьявілася перш: яйка альбо курыца. Паводле Космасу, лягічна, што яйка, але ў выпадку сямейных стасункаў – Космас зьявіўся дзякуючы курыцы.

Дзіцёнак нарадзіўся хутка, на гэты конт у місіс Дуг не было ніякіх прэтэнзіяў да нованароджанага, і калі ён пачаў плакаць, а дактары паклалі немаўля ёй на грудзі, яна моцна зьдзівілася, чаму яе сын такі запэцканы і зусім не прыгожы – ну натуральная крэвэтка.

Місіс Дуг трэба было адпачыць, выспацца і набрацца сілаў жыць далей.



*Сямейства Дугаў чакала сына. Бацька ўяўляў, як будзе гадаваць першынца, як яны пойдуць разам пад ветразем на рыбалку, будуць гуляць у футбол, як сын вырасьце разумны і добры. Маці ўяўляла, як сыночак будзе яе любіць і лашчыцца, яны будуць катацца на роварах у лесе.*

## 2

Сумныя і трагічныя падзеі разгарнуліся пасьля таго, як Дугі вярнуліся дадому. Містэр Дуг некалькі дзён ночыў у шпіталі побач з жонкай, абдымаў яе, прасіў, каб яна ўзяла сына на рукі, але місіс Дуг спачатку ўпарцілася, а калі муж доўга заглядаў ёй у вочы, урэшце брала дзіцёнка на рукі і карміла.

І вось яны дома, і тут жанчына, а цяпер ужо маці, зразумела, што ёй нашмат вальней дыхаецца, і яна сказала мужу:

– Рабі, што хочаш, але я чакала іншага дзіцёнка! Зірні! Ну зірні ж ты толькі! Ён, нібыта крэвэтка! Ён ружовы, рукі вунь не выгінаюцца, і да ўсяго вочкі такія маленькія, як у крэвэткі!

– Што ты такое вярзеш! Мы чакалі сына, гэта мой гонар!

Зь місіс Дуг спрачацца было немагчыма, і містэр Дуг пачаў злоўжываць белым віном, а дзіцёнку знайшлі няньку, каб тая ім займалася.

Такім чынам пляны на гадаваньне сына былі зруйнаваныя ўшчэнт.

Місіс Дуг на працягу году не магла ачуняць ад шоку, што дзіцёнак зусім не такі, як чакалася, і паступова, крок за крокам, пад віно яна пераканала мужа, што гэта ня іхны сын. Іхнае дзіця недзе ў іншай сям’і, а гэтага ім падсунулі ў радзільні, пераблыталі. Вось і ўсё.

Містэр Дуг моцна кахаў жонку, бо яна была прыгожая і эмацыйная, а ён мяккі і бязвольны, яму трэба было абіраць: жонка альбо сын. І ён падумаў, што яны з жонкай яшчэ пасьпеюць нарадзіць новых дзяцей, а гэтага... Нават як яго зваць, яны так і ня вырашылі, толькі крэвэткай і абзывалі, але нянька клікала яго Мося.

Трэба было вырашаць. Што рабіць, яны ня ведалі, але аднойчы місіс Дуг пайшла з вазочкам на шпацыр, прайсьціся праз парк да ўзьбярэжжа, пагуляць і падыхаць сьвежым паветрам. Яна паклала ў вазок хлопчыка-крэвэтку, дала яму ў цупкія рукі яго ўлюбёную цацку – плюшавага зайку...

А празь дзьве гадзіны на пляжы яна ў гістэрыцы крычала ў вуха паліцэйскаму, што вось тут, вось на гэтым месцы яна літаральна на пару сэкундаў адцягнула ўвагу, каб вытрасьці з туфліка мулкі каменьчык і адказаць на тэрміновае паведамленьне ў тэлефоне, а як павярнулася – вазок пусты! Скралі цыгане, паглядзіце, містэр паліцэйскі, колькі іх тут, бадзягаў, навокал.

Місіс Дуг заломвала рукі і вельмі натуральна плакала, бо гэта ўсё-такі яе сын.

3

Наш хлопчык-крэвэтка Мося, кінуты дарагой матуляй у мора, быў аточаны цікаўнымі альбатросамі, якія вырашылі, што ў сьвеце і так шмат несправядлівасьці, і трымалі яго на паверхні, і той гайдаўся на хвалях амаль цэлы дзень, сплываючы ўсё далей, пакуль на яго куляй не прызямліўся пэлікан і, ухапіўшы доўгай дзюбай, не запіхнуў разам з плюшавым зайцам у свой гарлавы мяшок.

Пэлікан разгарнуў велізарныя крылы, падняўся высока над вадою і паляцеў як найхутчэй у бок скалаў і лесу. Пэлікан згаладаўся.

Вялікая птушка добра лавіла паветра, плаўна і прыгожа ляцела некаторы час, пакуль не пачала сутаргава біць крыламі ды рэзка губляць вышыню. І нарэшце праз хвіліну барацьбы зь бязважкасьцю яна шлёпнулася аб зямлю каля скалы.

Было відаць, што вялікая птушка ня можа нармальна дыхаць.

Як толькі пэлікан зваліўся, зь ягонай дзюбы выскачыў спачатку плюшавы заяц, а за ім хлопчык.

Пэлікан падняўся, пакруціў галавой, пахлопаў крыламі па зямлі ды, зрабіўшы колькі глыбокіх удыхаў, падскочыў да хлопчыка і, разявіўшы пашчу перад тварам дзіцяці, зьбіраўся ўжо праглынуць гэтую вялікую ружовую крэвэтку, аднак птах чагосьці спужаўся, а праз момант яму нехта моцна даў па галаве, і, вылупіўшы вочы, пэлікан даў драпака ў неба, клацнуўшы ў паветры вострай дзюбай ды зачапіўшы руку і шчаку малога.

Пасьля спробы двайнога забойства і цудоўнага выратаваньня Хлопчык-Крэвэтка пачаў жыць каля скалаў і лесу, а на руцэ і шчацэ ў яго засталіся вялікія шнары, памятка ад пэлікана.

У першы ж дзень плюшавы заяц адшукаў недалёка пячору, акуратна абвязаў пялюшкай рану на руцэ хлопчыка, памыў замызганы сьлязьмі, соплямі, зямлёй і крывёю твар і завёў у спакойнае цёмнае месца, а сам выправіўся на выведку і пошук ежы ды чагосьці цёплага для начнога сну свайму найлепшаму сябру і брату.

4

Бастурма! Пахлава! Смажаныя коржыкі, печаныя пончыкі, кока-кола, піва, вада, цыгарэты, капелюшы, панамы, салодкая кукуруза, вараныя ракі, салёныя карпы! Халоднае марозіва, гарачая чакаляда! Накідкі, ручнікі, пляжныя шорты, шлапакі,



*Хлопчык-Крэвэтка, падрослы, дужэйшы, маленькі драпежнік, які добра ведаў мову ад гандляроў і колькі замежных словаў ад турыстаў, спрытна і лёгка манэўраваў сярод сонечных парасонаў, падбіраў тое, што кепска ляжала, пад'ядаў недаедкі.*

крэмы для і супраць загару, фенечкі ды акуляры ад сонца, парасоны! Самаробны алькаголь! Пляжныя гандляры заклікалі з усіх бакоў, некаторыя нават прапаноўвалі арэнду кватэры, амаль дарма, афармленьне мэдычнай страхоўкі на месцы і новыя пашпарты грамадзяніна ўзьбярэжжа, але пра апошнюю прапанову – ціха, нікому ні слова.

На пляжы сапраўды было ўсё, што заманецца.

Сярод пяску, распаленых камянёў, цёплага, як нагрэтае малако, мора, безьлічы недапалкаў, пустых пляшак і шалёнай колькасьці пакетаў і цюбікаў з-пад крэмаў, нібыта цюлені, тут і там ляжалі людзі. Усе лавілі промні сонца, імкнуліся назапасіць як мага больш, каб потым завезьці дадому і яшчэ месяц зьзяць у сваім шэрым горадзе.

Хлопчык-Крэвэтка, падрослы, дужэйшы, маленькі драпежнік, які добра ведаў мову ад гандляроў і колькі замежных словаў ад турыстаў, спрытна і лёгка манэўраваў сярод сонечных парасонаў, падбіраў тое, што кепска ляжала, пад’ядаў недаедкі. Удзень ён быў на пляжы, уначы ў сваёй пячоры, прыносіў усё, што знайшоў пад сонцам, раскладаў перад плюшавым зайцам, які ляжаў на падушцы і шторазу аднолькава весела сустракаў свайго сябра.

Сёньня Крэвэтка ўпаляваў наступнае: адзін чэбурэк, акурат на вечар, пяць недапітых бутэлек колы, адна бляшанка піва, фенечка з сэрцайкамі ды сонечныя акуляры. Ня так і шмат, але, як на малога хлопца, які сустракае сёмае лета дзікуном, і тое добра!

Марское сонца хутка сядае за гарызонт, здаецца, вось яно на небасхіле, пячэ сьпіны турыстаў, а праз імгненьне трэба класьціся. Калі цалкам сьцямнела, хлопчык запаліў сьвечку, зьеў чэбурэк і дапіў рэшткі з пляшак колы, пагладзіў сябе па жываце, гучна адрыгнуў і, залезшы пад плед да зайца, які за столькі гадоў ператвараўся зь белага ў амаль чорнага, абняў яго і дастаў патрапаную кнігу коміксаў – пасьля цяжкага дня, перад сном, гэта было тое, што трэба.

## 5

Пляжныя гандляры даўно ўжо прызвычаіліся назіраць за дзікім хлопчыкам, які па-майстэрску краў кепска пакладзеныя рэчы. Часта здаралася, што некаторыя зь іх, назіраючы за малым, рабілі стаўкі, ці ўдасца яму забраць тую пакінутую кніжку альбо майку непрыкметна, ці за ім хто пагоніцца...

Ніхто зь мясцовых ня ведаў, адкуль хлопец, дзе жыве, але і моцна не цікавіўся, бо кожны зь іх, тых самых гандляроў усім на сьвеце, сам меў мінулае, якое варта было трымаць у сакрэце: хтосьці прыехаў нелегальна зь іншай краіны, а хто зрабіўся бадзягам праз абставіны, і часта страшныя – алькаголь, махлярства, банкруцтва.

Шнары на шчацэ Хлопчыка-Крэвэткі загаіліся няроўна, ён і так быў непрыгожы, але праз шнары глядзець на яго без шкадаваньня было немагчыма.

6

Першым на пляжы Крэвэтку злавіў за руку Дамінік, васьмігадовы хлапчук. Крэвэтка думаў, што хлопец заснуў ад сьпёкі і ня бачыць, і акуратна пачаў адкопваць зь пяску плястмасавы грузавік, як раптам Дамінік адным рухам ухапіў яго за нагу і паваліў.

Хлопчык-Крэвэтка маўчаў, яму хацелася закрычаць, але гэтага нельга было рабіць.

«Усё, напэўна, мяне заб'юць на месцы!» – падумаў Крэвэтка і заплюшчыў вочы, каб ня бачыць, як гэты вялікі хлопец пачне яго біць, але Дамінік падняўся на ногі ды цікаўна аглядаў Крэвэтку: доўгія валасы, але не дзяўчынка, завялікія шорты, шмат фенечак на руках, страшныя шнары... Крэвэтка на гарачым пяску выглядаў як цыганя.

Дамінік пачаў штосьці прамаўляць на незнаёмай мове і працягнуў у руцэ грузавічок... Крэвэтка падняўся, неахвотна і падазрона ўзяў цацку, пастаяў пару імгненьняў, разглядаючы хлопца, які гутарыў зь ім на незнаёмай мове, але праз слова паказваў на сябе і казаў: «Dominik».

І Крэвэтка падрапаў з пляжу... Ён бег, як заяц, мяняючы кірункі, пераскокваючы празь людзей, збочваючы на паваротах гэтак, як вучыў яго ў дзяцінстве плюшавы сябар. Крэвэтка хаваў сьляды, толькі гандляры шавэрмай і кока-колай сьмяяліся яму наўздагон, бо гэта быў першы раз, калі таго-самага-брыдкага-пацана-з-шнарамі злавілі за руку падчас крадзяжу.

7

Хлопчык-Крэвэтка схаваўся ў сваёй пячоры да наступнага дня, ён гуляўся з грузавічком і думаў, што гэты хлопец, які яго падлавіў, цікавы яму, і ён першы, хто яго не пужаў і выклікаў жывы інтарэс.

З такімі разважаньнямі наступнай раніцай Крэвэтка выйшаў на пляж з адзінай мэтай: адшукаць Даменіка.

Паблукаўшы да абеду, ён так яго і не сустрэў, знайшоў толькі забытыя акуляры і крэм для загару... У абед большасьць турыстаў сышла на сіесту, а рэштка схавалася пад парасонамі ў цень, бо ад паўдзённага сонца добрага ніхто не чакае.

Крэвэтка, нырцануўшы пару разоў у мора, астудзіўся і цяпер сядзеў каля латка з марозівам, марачы, каб хтосьці з малых дзетак, якім набывалі марозіва, упусьціў бы халодную смакату, і яна дасталася б яму.

Так ён сядзеў, гіпнатызаваў пакупнікоў, калі раптам хтосьці дакрануўся да пляча.

Хлопчык-Крэвэтка схамянуўся, спужана ўсунуўся на латок з марозівам і пабачыў Даменіка.

Дамінік усьміхаўся і працягваў руку. Хлопец не разумеў... Тады Дамінік узяў руку Крэвэткі і, прывітаўшы яго, пацягнуў да вады.

Дамінікавы бацькі былі ня супраць. Яны лічылі, што ўсе дзеці павінны вучыцца камунікацыі, лёгка разумецца адно з адным, знаёміцца і не баяцца, бо ў час іхнага дзяцінства ўсё спрэс было забаронена. Ня гутарыць, не скакаць, ня бегаць, ня есьці салодкага, нічога нельга было. Яны шчыра зычылі ўласнаму сыну сустракаць у жыцьці як найменш забаронаў.

Дамінік разам з Крэвэткам пагайдаліся на хвалях і селі будаваць замкі на мокрым пяску.

Гадзіны ляцелі хутка, было шмат сьмеху, сонца, шчырага захапленьня кожным момантам. Хлопчык ніколі дагэтуль ня ведаў, што можна так цудоўна бавіць дзень з кімсьці, акрамя зайца. Ён ня думаў пра ежу, бо Дамінікаў тата бязь лішніх пытаньняў набыў кожнаму салодкую кукурузу і сок у пляжных гандляроў, а на дэсэрт яны атрымалі марозіва... А потым да самага заходу сонца Дамінік паказваў гульні на пальцах, і гэта было штосьці надзвычайнае.

Спачатку хлопцы гулялі ў камень-нажніцы-паперу... Крэвэтка доўга імкнуўся зразумець зь незнаёмай мовы, што да чаго. Потым яны гуляліся ў «Злаві вялікі палец рукі» – гэта было сьмешна, бо нельга было дапамагаць і нічым варушыць, акрамя аднаго вялікага пальца рукі. Потым, калі цямнела, Дамінік паказваў Крэвэтку розных зьвяроў рукамі пад сьвятлом ліхтара: вось цень ператварыўся ў птушку, а вось і воўк, і лось, і заяц...

Хлопчык-Крэвэтка быў на вяршыні шчасьця, ён ачмурэў ад гульняў і Даменіка і няспынна рагатаў, ён паводзіўся, як дзікі зьвярок. Спачатку Дамінік і ягоныя

бацькі пасьмейваліся, але калі «ня-вельмі-прыгожы-хлопчык-з-шнарамі-і-падобныда-крэвэткі» моцна ляснуў Дамініка і ў яго пайшла з носа кроў, усё зьмянілася.

Хвіліну таму было ў Крэвэткі шчасьце праз край, а цяпер крыкі, плач, лямант... Крэвэтка падхапіўся і пабег куды падалей.

8

Дамінік не паказваўся на пляжы два дні.

Гэтыя два дні былі самыя сумныя для Крэвэткі. Ад раніцы да вечара хлопчык толькі і рабіў, што хадзіў і прыглядаўся да людзей на пляжы. Ён не паляваў на рэчы, не хацеў нічога ўхапіць, нават не падбіраў забытых каляровых цікавостак... Гандляры тужліва выкрыквалі свае заклікі: «Пахлава... салодкая пахлаваааааа», «Кола, піва, вада – прыўкрасныя, як мора». Усім, хто назіраў за жыцьцём непрыгожага хлопчыка, было ніякавата, бо трэба было ратаваць дзіцёнка, інакш ён праз самоту можа зусім схуднець і распусьціцца ў моры. Такое часта здараецца з сумнымі людзьмі – яны ідуць купацца і распушчаюцца ў вадзе, бо вада вельмі лёгка паглынае смутак і змрочныя думкі.

На трэці ранак Хлопчык-Крэвэтка ўзяў з сабой на пляж зайца, каб было ня гэтак тужліва... Учора хтосьці з гандляроў даў яму проста так саламяны брыль і лаваш зь мясам і сказаў, што ягоны сябра, напэўна, зьехаў дадому. Куды зьехаў і навошта было ехаць, Крэвэтка не разумеў... Ён сядзеў на камяні, да якога ледзь дацягваліся марскія хвалі, і назіраў, як ягоны заяц, каб было весялей, скача вакол уласнага хвосьціка.

Хлопец ужо зьмірыўся, што найлепшы сябра зьехаў, і неахвотна, але паволі ўсьміхаўся зайку, як раптам пачуў знаёмы голас і ўбачыў Дамініка.

Той ішоў разам з чатырма хлопчыкамі, яны сьмяяліся і пасавалі адзін аднаму белы футбольны мяч.

Хлопчык-Крэвэтка саскочыў з каменя, забыўшыся на зайца, і пабег, выкрыкваючы імя сябра: «Дамінік! Дамінік! Дамінік!» Крэвэтка бег, абмінаючы нагрэтыя сонцам целы, і радаваўся, як самы мілы сямігадовы хлопчык, ніхто б у гэты момант ня змог бы з агідай, як некалі ягоная маці місіс Дуг, сказаць, што ён падобны да брыдкай ружовай крэвэткі.

Калі хлопчык падбег да кампаніі зь мячом, Дамінік не працягнуў руку, а толькі прамовіў штосьці на сваёй мове, што гучала варожа і непрыемна, і адвярнуўся,

далей распавядаючы штосьці рабятам. Толькі калі Дамінік павярнуў твар да сонца, Крэвэтка заўважыў пабіты нос, сінякі пад вачыма і апухлую шчаку.

Крэвэтка зьнерухомеў, зірнуў на сваю руку, якой ударыў (навошта ён увогуле ўдарыў?!), заўважыў, якая яна ў яго: брудныя доўгія пазногці, шнары...

Увесь дзень хлопцы гулялі ў футбол, а Крэвэтку выпала толькі глядзець і бегаць за мячом, прыносіць яго, калі той далёка вылятаў, але і гэтага яму было дастаткова, каб весяліцца. Ён зноў забыўся на тугу і весела сьмяяўся, нібыта славіў у паветры сьмяшынку. Ён бегаў па мяч і бегаў, сьмяяўся і сьмяяўся, і ня мог стрымацца. На яго ўжо пачалі абарочвацца і падазрона глядзець адпачынкоўцы. Было адчуваньне, што хлопчыку кепска, а зусім ня весела... І малы проста ня можа спыніцца, бегае і крычыць у гістэрыцы. Можа быць, гэта сонечны ўдар?

Так, напэўна, Крэвэтка і рагатаў бы, пакуль ня лопнуў, ён ужо нічога ня бачыў і не разумеў, калі раптам усьвядоміў, што яго за плечы трасе зайка, а на пляжы нікога, толькі пара самотнікаў з сабакамі бегаюць непадалёк, і ўжо зусім цёмна.

9

Заяц ня ведаў, што рабіць з хлопчыкам. Ён выгадаваў яго, як умеў, старанна карміў, апранаў, даглядаў. Рупіўся, каб ён яшчэ зусім малы вывучыў чалавечую мову, таму прынёс аднойчы ў пячору вялікую кнігу казак, якая зрабілася для Крэвэткі цэлым сусьветам на некалькі гадоў, зайку даводзілся наўмысна выкідаць хлопчыка зь пячоры на пляж, каб той мыўся і адаптаваўся да грамадзтва... Так пакрысе Хлопчык-Крэвэтка навучыўся гутарыць, трохі дачыняцца, яму спадабалася, як той сароцы, падбіраць усё бліскучае і каляровае, і гэтак ён гадаваўся. Але каб навучыцца культуры ўзаемаадносінаў, пра такое ні заяц, ні Крэвэтка ня ведалі, таму на працягу тыдня адбывалася адно і тое: Дамінік адмаўляўся браць Крэвэтку ў кампанію, і той, назіраючы за астатнімі, пачынаў дурэць, рагатаць і шалець, паводзіўся абсалютна як вар’ят. Сам таго не ўсьведамляючы, ён імкнуўся зьвярнуць на сябе ўвагу.

Пляж штодня радзеў, усё менш людзей прыходзілі лавіць сонца, якое ўжо ня так цёпла грэла.

І гандляроў паменела, зьніклі салодкая кукуруза і малочнае марозіва... Зьніклі гандляры капелюшамі ды фенечкамі, нават кебаб, бастурма і катлеты больш не выкрыквалі сваіх прапановаў. На пляжы засталіся толькі кола, вада, піва і адзеньне на ўсе выпадкі жыцьця.



*Пляж штодня радзеў, усё менш людзей прыходзілі лавіць сонца, якое ўжо ня так цёпла грэла. І гандляроў паменела, зьніклі салодкая кукуруза і малочнае марозіва... Зьніклі гандляры капелюшамі ды фенечкамі, нават кебаб, бастурма і катлеты больш не выкрыквалі сваіх прапановаў.*

Хлопцаў з кампаніі Дамініка станавілася з кожным днём усё менш, пакуль на чатырнаццаты дзень і сам Дамінік ня выправіўся ў сваю краіну, загарэлы, моцны і здаровы хлопец, якога дужа любяць бацькі.

10

Хлопчык-Крэвэтка моцна сумаваў па страчаным сябры, раней ён ня ведаў такіх пачуцьцяў, але яму не хацелася есьці, спаць, гуляцца таксама не хацелася... Надыходзілі халодныя месяцы, і ён упершыню не рыхтаваўся да іх, не шукаў вопратку, не назапашваў ежу. Усё рабіў зайка, якому ня так і проста даваліся некаторыя рэчы.

Крэвэтка цяпер гадзінамі заставаўся на пляжы, ён не сьпяшаўся ў пячору нават уначы, больш не хаваўся ў лесе і не цікавіўся турыстамі. Ён чакаў і спадзяваўся, што, можа, калі-небудзь, на наступны дзень альбо праз некалькі начэй, вернецца Дамінік, а да гэтага часу хлопчык вывучыць дасканала ўсе гульні на пальцах, якія яму паказаў сябра, прыдумае яшчэ больш жывёлінаў і стварэньняў, якія можна паказваць рукамі, а мо і нагамі!

Так, Хлопчык-Крэвэтка сядзеў на камяні, паказваючы зайку рукамі мудрагелістыя фігуры, якіх той не разумеў, і не заўважыў, што каля яго нехта спыніўся.

– Хлопчык, а дзе ты ўзяў такую цацку? Гэты зайка вельмі падобны да таго самага, якога я неяк прывёз свайму сыну з Гвінэі. Той быў незвычайны. А гэты вельмі падобны, брудны толькі і стары нейкі... – сумнымі вачыма мужчына зазіраў проста ў сэрца Хлопчыку-Крэвэтку. – Мой сын маленькі быў зусім... Калі зьнік... – мужчына быў ссутулены і нейкі недагледжаны. – Ня ведаю, трэба маю былую жонку запытваць, куды падзеўся наш сын, – мужчына зрабіў паўзу.

Крэвэтка ўвесь сьціснуўся і прытуліў зайку мацней, бо баяўся, каб гэты незнаёмец не забраў апошняга сябра.

– Чакай, – спахапіўся мужчына, – ня хочаш са мной гутарыць? Адкажы хаця б, колькі табе гадоў і адкуль ты!

*Жнівень 2017, кастрычнік 2018*
*Адэса, Украіна / Вэнтсьпілс, Латвія*

# ЛІСТЫ Ў БУТЭЛЬЦЫ

## ГОРАД

Горад В. невялікі, але ўсім, хто ў ім жыве, ён здаецца самым вялікім у сьвеце, бо з кожнага вакна кожнай хаты можна бачыць бясконцы гарызонт мора, за які на ноч сыходзіць купацца сонца.

У горадзе сто адзінаццаць дамоў, і горадам яго завуць толькі мясцовыя, бо, акрамя бясконцасьці гарызонту, да іх у партовы тэрмінал ходзіць стары, тоўсты і рыпучы паром, і такім чынам, калі ёсьць порт, хоць і невялікі, і нават паром, то кожная вёска ператвараецца ў горад.

## МАМА

Стася, як звычайна гэта было ў яе жыцьці, колькі яна сябе памятае, прачнуўшыся ўначы а чацьвертай нават без будзільніка, паднялася з ложка, дастала з-пад коўдры яшчэ цёплую Лэцьці – плюшавую паласатую чорна-белую котку, прыціснула да грудзей і накіравалася ў матчын пакой, будзіць яе на паром.

Мама, колькі сябе памятае Стася, раз на год, у сэзон, адпраўляецца на паўгоду працаваць на вялікім лайнэры, да якога яна паплыве спачатку паромам.

Стася становіцца каля мамы, тая яшчэ сьпіць, і акуратна, лапкай Лэцьці дакранаецца да яе носа. Пачынае гладзіць мамін нос, пакуль тая не расплюшчыць вачэй.

– Стася! Ты што робіш? Колькі часу?!

– Ня ведаю, колькі часу. Добрай раніцы!



*Горад В. невялікі, але ўсім, хто ў ім жыве, ён здаецца самым вялікім у сьвеце, бо з кожнага вакна кожнай хаты можна бачыць бясконцы гарызонт мора, за які на ноч сыходзіць купацца сонца.*

– Добрай, дачушка. Ты зноў мяне рана падымаеш!? Я прачнуся, толькі калі пачую будзільнік, а ты альбо ідзі да мяне і ціхенька паляжы, альбо вяртайся ў свой пакой, і там можаш гуляцца.

Стася, зразумела, абірае першы варыянт, бо мама цёплая і мяккая, зусім як яе плюшавая котка, да таго ж з мамай весела, нават калі яна сьпіць і сапе.

## ПАРОМ

Раніцай мама піла моцную чорную каву і пакідала Стасі настаўленьні на будучыя паўгоду, ня слухаючы абурэньня і незадаволенага пасопваньня дачкі:

– Я буду слаць табе паштоўкі, лісты, і калі будзе магчымасьць, буду званіць, але нячаста... Слухайся цётку Валю, добра? Гэта, можа, апошні раз я на лайнэры працую, разумееш... Нам патрэбныя грошы, ці ты на ўсё жыцьцё хочаш тут захраснуць? Табе трэба нармальная адукацыя, праца – бачыш, я адна стараюся, як магу. І так цудоўна, што мяне яшчэ бяруць на гэтую працу. Так, я зарабіла грошай, але не дастаткова, каб мы з табой змаглі пачаць новае жыцьцё. Бачыш, бацька твой адразу рукі ў ногі ды сплавіўся на сваёй баржы, куды вочы глядзяць, а я не хачу, каб у нас праз гэта не было грошай, бо я твая падтрымка... І слухаць нічога не жадаю пра тваю цётку і тваю кузыну, мы ім мусім быць удзячныя, што будуць цябе даглядаць, у школу вадзіць, карміць цябе. Так, я пакінула ім грошы, так, ты будзеш з кузынай разам хадзіць у школу. Так! Хопіць мне тут плакаць! Думаеш, мне самой ня моташна? Тут працы няма, мала плацяць, а я прывязу нам грошай, шмат, і мы пачнём нармальна жыць. Не, мы не нармальна жывём...

Стасіну маму можна было нават не перапыняць, не ўступаць у дыялёг, дастаткова было толькі моўчкі слухаць альбо акуратна плакаць, каб яна не сварылася і проста распавядала, выказалася, каб палягчэла перад далёкай дарогай. Каб не забірала з сабой свае боль і смутак, скруху і расчараваньне.

Маме з сабой патрэбна ўзяць толькі любоў і шчасьце і пару кавалкаў шарлёткі, што сьпякла малая.

## ЧАКАНЬНЕ

Стася адразу, як схаваўся карабель за даляглядам, пачала думаць пра маму і пра тое, што калі яна вернецца, то яны абавязкова адразу пойдуць і набудуць дом –

уласны дом, каб ня жыць ні ў цёткі, ні дзе яшчэ... Усе справы адкладуць, бо галоўнае – быць разам, закласьці свой кветкавы сад.

Дзяўчынка спачатку палічыла дні ў месяцах, каб ведаць, паводле календара, колькі чакаць. Потым яна зразумела, што час пойдзе хутчэй, калі палічыць колькасьць гадзінаў, і такім чынам, калі будзе мінаць адна гадзіна, адымаць ад агульнага ліку...

Стася нудзілася тры дні і потым ужо на калькулятары палічыла хвіліны ў гадзінах, у спадзеве, што гэтак яшчэ хутчэй пацячэ час чаканьня...

Цётка сачыла за раскладам дня дзяўчынкі, але ня дужа цікавілася яе ўнутраным станам, супакойваючыся тым, што Стася сытая і апранутая адпаведна надвор'ю, у астатнім жа: школа, уласны час, урокі ды пачуцьці, гэта яе не цікавіла, таму Стася праз тыдзень пачала прапускаць школу, выпраўляючыся адразу на ўзьбярэжжа.

Спачатку дзяўчынка будавала замкі, дамкі і вёскі, уяўляючы, як і што будзе месьціцца ў новым горадзе, краіне, куды яны пераедуць. Аднак, калі надышоў час вяртацца лайнэру з падарожжа, калі мама мусіла была ўжо зьявіцца на гарызонце, Стася не магла гуляцца зь пяском, каменьчыкамі і ўвогуле радавацца вясноваму сонцу, яна магла толькі глядзець удалячынь і чакаць, напружана, да болю ў вачах і скронях. Стаяць да болю ў нагах, пакуль цела само ня падала, бо здатнае было толькі сядзець. Стася і седзячы чакала, пакуль цётка не прыяжджала і не забірала яе позна ўвечары, бо раптоўна заўважала, што дома за сталом кагосьці не хапае і талерка супу зацягваецца тлушчам.

## ЛІСТЫ

У той год увесну і нават улетку, увосень і ўзімку ніхто не прыехаў, не прыйшоў, не прыплыў і не прыляцеў. Паром прыйшоў, але мамы на ім не было. Лайнэр іншай кампаніі таксама спыняўся ў тэрмінале на суткі для пагрузкі. Прыходзілі рыбацкія судны, і таксама бяз мамы.

Стася пачала кепска вучыцца ў школе, стала ня проста прапускаць апошнія ўрокі, бо бегла на маяк, яна зусім кінула вучыцца.

На ўсе скаргі са школы і ад цёткі мясцовы доктар выдаў для абароны дзяўчынкі вызваленьне ад вучобы, прымусіўшы Стасю вучыцца дома і прапісаўшы супакаяльныя пігулкі, бо добра ведае, што такое чаканьне і што такое любоў, і што ад доўгага чаканьня можна забыцца на ўсё ў сьвеце.

І калі мінула тры гады чаканьня, а нічога не зьмянілася, Стася гэтак і працягвала хадзіць да мора, доктар больш не выпісваў лекаў, а цётка ўжо даўно стамілася прыяжджаць па яе ўвечары, каб забраць дадому.

Паціху, паволі, вельмі павольна, але няўмольна – на Стасю ўсе забыліся, і яна раптам заўважыла сябе... Сваю прысутнасьць у гэтым сьвеце, нікому не патрэбную, акрамя ўласна вось гэтага часу, волкага паветра і салёнага мора.

Каб неяк падсумаваць сваё існаваньне, патлумачыць уласнае чаканьне, Стася пачала пісаць доўгія лісты, апісваючы, што яна рабіла і што будзе рабіць, пра што яна марыць. Гэтыя лісты, якія яна адрасавала маме і падпісвала маленькім малюнкам чайкі, Стася штодня клала ў заплечнік.

Лістоў у заплечніку большала, Стася пачала хадзіць у школу і нават пасябравала з Аяй, самай ціхай дзяўчынай у клясе...

Лістоў большала, бо дзяўчо вырашыла пісаць маме пра ўсё, што ў жыцьці адбываецца, каб мама усё ведала. Яна пачала зноў бачыць людзей, сябраваць, займацца сваім жыцьцём, каб было пра што пісаць і калі мама вернецца, даць ёй вялікі стос на чытаньне пра яе самотнае жыцьцё ў чаканьні.

## БУТЭЛЬКА

Напэўна, пэрыяд пісаньня лістоў быў для Стасі самым вясёлым і добрым, бо па трынаццатым дні нараджэньня ў дзяўчыны пачало мяняцца цела – яна рабілася дарослаю, яе думкі пачалі блукаць і адшукваць такія завулкі ды цёмныя пакоі ў сэрцы, дзе акрамя скрухі і плачу нічога не было. Стася крочыла наперад у жыцьці, дзе падлеткавы сум быў ня самым страшным для яе, бо аднойчы яна знайшла каля маяка бутэльку віна, паўпустую.

Спачатку Стася падумала: а што, калі яна ня будзе больш пісаць маме лістоў, а кожны свой аповед пачне апускаць у бутэльку, закаркоўваць і пускаць па хвалях у падарожжа?

Можа, такім чынам лісты ў бутэльцы знойдуць шлях да мамы?

Стася падняла бутэльку, паглядзела праз шкло на мора, страсянула вадкасьць, панюхала рыльца, адчула пах віна і, замест каб выліць яго на пясок, пакаштавала.

Стася не заўважыла, як прамінула тры гадзіны, сонца пасьпела патануць у моры, а яна ўсё пісала ліст маме і піла з бутэлькі, каб вызваліць месца для скручанай у трубачку паперы.



*Стася падумала: а што, калі яна ня будзе больш пісаць маме лістоў, а кожны свой аповед пачне апускаць у бутэльку, закаркоўваць і пускаць па хвалях у падарожжа? Можа, такім чынам лісты ў бутэльцы знойдуць шлях да мамы?*

Як яна дайшла дадому, Стася памятае цьмяна, але яна дакладна ведае, што ліст у бутэльцы паплыў да мамы.

А ўжо дома цётка раўла на яе, бо пляменьніца прыйшла п’яная, але Стася кепска гэта памятала.

Надышоў час і старыя лісты даслаць маме.

## ДОМ

Як цётка раўла на дзяўчыну ў той вечар, нават немагчыма і ўявіць. Абзывала п’янюгай, дурным падлеткам, ненадзейнай асобай і нават выдумала тры новыя гідкія мянушкі для Стасі. Але дзяўчо было стомленае ад віна, таму адразу на канапе і заснула, абняўшы сваю плюшавую котку Лэцьці.

Пасьля таго вечара і знойдзенай бутэлькі Стася пачала штовечар адшукваць адмысловую шкляную капэрту і сама не заўважыла, як на яе і цётка перастала крычаць, і сяброўкі забыліся. Яна засталася сама сабе, а дом свой перанесла на ўзьбярэжжа, дзе штовечар піла і пісала лісты ў бутэлькі.

Усе спробы пачаць дыялёг з капрызным і кепскім падлеткам заканчваліся сваркамі ды пагрозамі сысьці ў мора за маці. Зь дзяўчынай было цяжка.

## ВЯРТАНЬНЕ

Ніхто ня ведае, чым бы скончылася гэтае аднабаковае ліставаньне і піцьцё, мо Стасю давялося б празь некалькі гадоў пакласьці на лячэньне альбо што і горшае адбылося б: самагубства, гвалт... Калі б аднойчы ня здарылася непрадказальнае, дзіўнае і неймавернае.

Калі Стасі споўнілася шаснаццаць, яна была чорным дзяўчом, замкнёнай дзяўчынкай, якая ні з кім не сябравала, прымусова заходзіла часам у школу, але кожны дзень бавіла на пляжы, дзе адшуквала алькаголь, альбо нават скрадала якую пляшку з крамы, альбо далучалася да сумнеўных кампаніяў, якія радасна запрашалі выпіць прыгожае дзяўчо... Стася даўно перастала пісаць маці, пакінуўшы ў сваім жыцьці толькі бутэлькі ды марскі пясок, першае – каб забывацца, другое – каб памятаць, бо пасьля віна ўжо не было моцы пісаць, толькі думаць, нібыта ў імгле, пра штосьці даўняе і крыўднае.

Аднойчы раніцай цёплым дотыкам да шчакі, мяккай пяшчотнай рукою Стасю хтосьці пабудзіў, бо яна заснула наўпрост на лаўцы, схаваная летняй ноччу.

Яна расплюшчыла вочы і пабачыла размыты сылюэт, які праз колькі сэкундаў набыў выразныя рысы яе маці.

– Мама! – спалохалася і адначасова ўзрадавалася дзяўчына. – Я што, сплю!?

– Не, дачушка, я вярнулася!

– Ня можа быць! Я цябе так чакала! Так чакала!

– Я бачыла, што ты мяне чакала, таму пасьпяшалася да цябе!

– Ты зарабіла ўсе патрэбныя грошы?! Мы можам нарэшце зьехаць ад цёткі!?

– Так, я ўсё прывезла... Я атрымала ўсе твае лісты ў бутэльках і вельмі табе ўдзячная, бо калі б не лісты, мора мяне не пусьціла б да цябе.

– О, мама, як жа я сумавала!

– І ты тут заўжды начыла? На гэтай лаве? І што, піла вось гэта? – і маці кранула босай нагой бутэлькі з-пад віна.

– Ну як табе сказаць, я пачала сябе гэтым суцяшаць, – прамовіла Стася, і толькі калі маці кранула нагою пляшку, заўважыла, што тая стаіць у чорнай сукенцы і белым фартуху, босая і з мокрымі валасамі. – А што гэта за ўбор, дзе твае рэчы?

– Я працавала пакаёўкай на лайнэры, якая ж на мне мусіць быць адзежа? Дый мокрая я, бо кажу табе – мора адпусьціла мяне да цябе, але часова. Пакуль я табе сапраўды патрэбная, я буду з табой.

Стася нічога не зразумела з матчыных словаў, яна была проста шалёна радая, што нарэшце яе дачакалася пасьля незьлічонай колькасьці дзён, лістоў і бутэлек...

## ЖЫЦЬЦЁ

Мама шмат ня гутарыла, нікому нічога не тлумачыла, яна забрала дачку ад сваёй сястры, пакінула той вільготныя грошы на стале і сышла ў бор, дзе самотна, далёка ад астатніх катэджаў, стаяў утульны дамок.

Стася імгненна забылася ня толькі на ўвесь боль, але і на сумнеўныя кампаніі з алькаголем, і пачала зноў хадзіць у школу і сябраваць зь ціхай дзяўчынкай Аяй.

Час паплыў павольна і лагодна, да дамка прыйшла бадзяжная чорна-белая котка, з выгляду рыхтык як Стасіна плюшавая цацка ў дзяцінстве. Котка пасялілася пад страхой, і яе, як і цацку, назвалі Лэцьці.

Стася моцна палюбіла дом, проста жыць і радаваць сваю маму. Адзінае, што моцна засмучала, – мама бывала сумнай і ня вельмі часта гутарыла з дачкой. Вось Стася пакладзе галаву маці на калені, каб тая пагладзіла, але тая просіць яе



*Калі Стасі споўнілася шаснаццаць, яна была чорным дзяўчом, замкнёнай дзяўчынкай, якая ні з кім не сябравала, прымусова заходзіла часам у школу, але кожны дзень бавіла на пляжы, дзе адшуквала алькаголь, альбо нават скрадала якую пляшку з крамы, альбо далучалася да сумнеўных кампаніяў, якія радасна запрашалі прыгожае дзяўчо выпіць…*

падняцца, бо шмат справаў... Альбо мама магла праседзець за сталом увесь вечар, гледзячы на дождж за вакном, трывожна ўздыхаючы...

Дачка адчувала, што з мамай штосьці ня тое, бо пасьля яе паўсюдна заставаліся лужынкі, кроплі вады, вільгаць на канапе.

Маміна скура была нібыта з сыру, мяккая, з своеасаблівым пахам, але гэта ўсё ж была мама, родная маці.

Стася старалася вучыцца, па абедзе яна прыносіла дадому навіны пра свае адзнакі ды матэрыял, які ім далі на ўроках. Яна шмат чытала, гулялася з коткай і надоўга нават забылася, што за сасновым лесам ёсьць пляж і мора. Ёй нічога не было трэба, акрамя мамы, якой яна распавядала цяпер пра ўсё на сьвеце, седзячы за сталом, на якім стаялі бліны з маслам і сочывам.

Стасі хацелася вучыцца і моцна хацелася радаваць маму, і каб неяк кампенсаваць столькі гадоў самоты, яна ані разу не засталася па ўроках з аднаклясьнікамі пагуляць хоць гадзінку. Акрамя аднаго разу.

## ГУЛЬНЯ

Гэта быў канец траўня, апошні вучэбны дзень, апошняя кляса. Стасі дужа хацелася застацца зь сябрамі, бо яны могуць больш ніколі ня ўбачыцца, хтосьці зьедзе вучыцца, хтосьці пойдзе працаваць.

Затрымацца, пагутарыць, пагуляцца, падурэць, бо наперадзе апошняе бестурботнае кароткае лета, паступленьне... Дзяўчына вырашыла застацца ў кампаніі, дзе хлопцы хутка знайшлі віно і гітару.

Дадому Стася вярнулася позна і была не ў гуморы, бо стамілася, віно грукала ў скронях, і да ўсяго яна намуліла ногі новымі сьвяточнымі туфлікамі. Маці сядзела на ложку, было відаць, што дачка яе пабудзіла.

– Чаго ты так позна?

– А што? Вунь, аказваецца, усе мае аднаклясьнікі ўжо тры гады як вяртаюцца яшчэ пазьней! Што я табе, закладніца нейкая!? – Стася абуралася надта рэзка, вінаваты быў алькаголь.

– Я проста запыталася, дачушка, чаго ты на маці крычыш?

– Я не крычу, я хачу, каб ты нарэшце перастала за мной сачыць!

– Добра, Стася, дарагая, я ж табе казала, што я тут толькі дзеля цябе, толькі калі табе патрэбная!

– Ай, слухай, хопіць мне тут заліваць! Ты як вільготная сурвэтка, як рыба, як мяккі сыр, ты мяне кінула жыць зь цёткай... Сама сказала, што хутка вернесься, а насамрэч! – і Стася заплакала. – Самой не было шмат гадоў! Ты мяне кінула, прымусіла піць, а цяпер я нікому з аднаклясьнікаў не цікавая, і сябрам не патрэбная, бо жыву тут з табой у лесе! Як... Як з Бабай Карготай! Усе ўжо цураюцца мяне!

– Што ты такое кажаш?

– Што, што?! Дзе ты была?! Дзе?!

– Я ж казала, у моры... Працавала... Усё дзеля нас!

– Ай, ды ну цябе! – Стася расчыніла дзьверы, шпурнула свае прыгожыя сьвяточныя туфлі на абцасах і басанож пабегла ў бок пляжу, ступаючы на вострыя шышкі ды галінкі.

Усё, чаго хацела дзяўчына, – выпіць яшчэ віна, супакоіцца.

Стася бегла і дарогаю разумела, што яна перабольшыла, што ня трэба было так з мамай гаварыць, што яна ўсё-ткі ня мае рацыі, бо маці вярнулася, хоць і не зусім такая, якой адплывала ў мора, але час мінае, і хто ведае, як мусяць выглядаць людзі пасьля шматгадовай працы на караблі.

Дзяўчына раптам спынілася. Яна больш не хацела піць і бегчы на пляж, ёй пільна трэба вярнуцца дадому. Вярнуцца да мамы і папрасіць прабачэньня.

Калі Стася ўвайшла ў дом, мамы ўжо не было, толькі некалькі кропель салёнай вады на стале і лужына, якая не пасьпела высахнуць, нагадвалі пра тое, што калісьці мама любіла тут сядзець. А побач на ложку ціхамірна спала Лэцьці, яна пасьпела ўпаляваць мышанё і цяпер, пасьля смачнай вячэры, ні на што не зьвяртала ўвагі.

*Кастрычнік 2018*
*Вэнтсьпілс, Латвія*

# ПУСТАЯ ВЫСПА

## 1

Ян нарадзіўся падчас навальніцы. Дождж ліў другі дзень запар, калі сьцены шпітальнага пакою зазьвінелі ад плачу.

Немаўляці наканавана было зьявіцца на сьвет разам зь цяжкімі аблокамі, шэрымі хмарамі ды глыбокімі лужынамі, і гэта моцна вызначыла лёс нашага героя.

Усе кажуць, што вялікую ролю грае час, калі ты зьяўляесься на сьвет. Народжаныя раніцай – самыя пасьпяховыя і актыўныя жаўрукі, а вечаровыя немаўляты – прадуктыўныя ў справах совы. Ёсьць тыя, хто ўначы пачуваюцца гэтак, нібыта ўдзень, і тыя, хто ў абедную пару, калі ўсе стомленыя, – працуюць за траіх як заведзеныя.

Зь Янам здарылася інакш, для яго час не адыгрываў ніякай ролі, бо хлопчыку адразу спадабалася вільготнае паветра навокал і дождж, які зьвінеў па падвоканьні, гучаў, нібыта калыханка. Волкі сьвет быў падобны да месца ў маміным жываце, таму Ян, маленькі, жывы, ружовы і брудны камочак, парумзаў усяго хвіліну і заснуў на руках акушэраў.

– Ваш сынок проста цуд, ціхі такі, – казалі мэдсёстры маці, калі прыносілі ёй карміць сына.

Дождж ліў тыдзень, потым раптоўна спыніўся на дзень, нібыта ўзяў адпачынак, а ранкам пачалася залева. У гэты дзень без дажджу здавалася, што Яна падмянілі: ён няспынна плакаў, ня еў, быў не ў гуморы, амаль ня спаў.

Недзе з год маці не магла выявіць сувязі, дазнацца, што сын наўпрост зьвязаны з дажджом, вільгацьцю, вадою, ажно пакуль ня высьветліла гэта, калі купала заплаканае дзіця ў ваньне.

Стаяла сьпякота, трэці дзень без дажджу, і Ян трэці дзень быў калючы, як кактус, як зьбянтэжаны дзікі зьвярок. І як толькі ён крануўся нагамі вады – адразу засьмяяўся, затупаў ножкамі ды ручкамі замахаў, гэтак яму стала добра.

Ад гэтага моманту маці пачала назіраць таямнічую сувязь яе дзіцяці з вадой, і спачатку неяк неўсьвядомлена ў кватэры пачалі зьяўляцца бутэлькі з распыляльнікам вады, потым ванначкі, а потым нават вадзяныя пісталеты і мінібасэйны, бо роднаму сыну заўжды зычыш найлепшага. Кватэра ператварылася ў аквапарк, у міні-мора. Не хапала толькі пяску.

## 2

Ян гадаваўся, хадзіў у школу, а двор, дзе ён жыў, пакрысе зрабіўся мясцовым цудам – бо толькі тут, у гэтым мікраараёне, гэтак часта ішоў дождж. Анамальна. Як казалі мясцовыя, тут не абышлося бяз магіі ды бабак-шаптух, бо паўсюль улетку магла быць сьпёка, а тут, на гэтай высьпе, хоць пару кропель, але выпадала, не заўсёды нават зь неба капалі тыя кроплі...

Сам Ян альбо ягоная маці маглі выкінуць на вуліцу шлянг і паліваць ім наваколле, пакуль ня зьявяцца вясёлкі ды вада не пацячэ ручаямі па каляінах да аўтабану.

Адразу станавілася радасна і хораша на душы.

У такія дні вільгаці, вадзяной раскошы пасярод лета хлопцу дыхалася асабліва добра.

Яну, як і належыць падлетку, што дасьледуе сябе і спрабуе перажыць усю гаму ўласных эмоцыяў, станавілася цікава, чаму ён так ня любіць сонца, чаму залежны ад вады, быццам сам ён не зусім чалавек альбо, як у школе кажуць, ненармальны хлопец, адвечна вільготны нейкі.

Ян прачынаўся рана, за дзьве гадзіны да школы, бо вельмі любіў, калі раса яшчэ ня высахла на траве, басанож прабегчыся ў суседнім парку, адчуць радасьць жыцьця, і ўжо потым, калі трэба будзе сядаць піць гарбату з бутэрбродамі, ён выйдзе пасьля душу, нацягне розныя шкарпэткі: ён калекцыянуе шкарпэткі з жывёлінамі, зьбірае ўласны заапарк на нагах, потым нацягне майткі ды майку, якія здыме з сушылкі яшчэ мокрымі, і такі халаднаваты сядзе сьнедаць, а пасьля – школа.



*Ян гадаваўся, хадзіў у школу, а двор, дзе ён жыў, пакрысе зрабіўся мясцовым цудам – бо толькі тут, у гэтым мікрараёне, гэтак часта ішоў дождж.*

Яшчэ адзін дзень вучобы ў школе, дзе самае цікавае – геаграфія, што бывае толькі раз на тыдзень...

Менавіта на геаграфіі Ян захапіўся новымі месцамі на зямлі, ён даведаўся пра існаваньне лясоў Амазоніі ды пра тое, што бываюць самыя сапраўдныя пустэльні і што ў сьвеце існуе каля дзевяноста мораў. Пустэльні зацікавілі хлопца, ён пачаў шмат пра іх думаць, бо ня мог уявіць, што ападкі бываюць раз на некалькі гадоў – дый тое пару мілімэтраў.

Сваё мора Ян насіў кожны дзень, і яму захацелася вызваліцца ад няспынных дажджоў над галавою, ён падумаў, што ён мог бы знайсьці пустэльню і падзяліцца зь ёй дажджавымі хмарамі, сваёй вадой, таму ён прыдумаў плян: калі скончыць школу, ня будзе паступаць адразу ў першы год ва ўнівэрсытэт, але выправіцца ў падарожжа, балазе маці ведала пра ягоны плян і лічыла яго вартым, яны разам зьбіралі грошы: з матчынага заробку і зь Янавых падпрацовак – ён часам разносіў газэты і рэкляму, сядзеў зь дзіцем суседкі, а таксама паліваў і даглядаў раённы парк, за што ад адміністрацыі яму прыносілі сымбалічную падзяку ў капэрце, якой хапала на пяць марозіваў альбо тры пляшкі вады.

3

Для маладога хлопца вільготны настрой, вільготныя сны, як і вільготнае жыцьцё, станавіліся штодня ўсё больш напружанымі, юнак ніяк ня мог знайсьці спакою, ураўнаважыць эмоцыі ў сэрцы, ён пачаў лавіць сябе на думцы, што вечны дождж над галавою – ня самае гарманічнае жыцьцё.

Ён навучыўся прафэсійна плаваць, пераплыў усе рэкі ўздоўж па ўсёй краіне, але калі дождж зноў ліў над галавой, гэта ўжо не прыносіла шчасьця і спакою – Ян відавочна стаміўся ад вільгаці ў сваім жыцьці.

4

Ян выправіўся ў вандроўку, спачатку ён трапіў у Крым, калі той быў яшчэ вольны, цёплы, а дажджы ўлетку выпадалі толькі начамі. Хлопец прабавіў дванаццаць дзён, пераяжджаючы з гораду ў горад, і ўсюды ён прывозіў з сабой навальніцу. Ніякай магчымасьці загарэць ці пакупацца не было ні ў яго, ні ў іншых побач

зь ім. Дождж стаяў сьцяною. Падлетак ня мог зразумець мясцовых аповедаў пра засушлівыя сэзоны, месяцы пустэльных пакутаў. Ян прыяжджаў і бачыў, як буйныя кроплі падаюць на сасьмяглую глебу, а навакольле за ноч ператвараецца з засушлівай паўвыспы ў райскае месца.

Для жыхароў гэта было шчасьцем, для Яна – звычайнай карцінай, рутынай, якая ня так ужо радавала і супакойвала, як у дзяцінстве.

5

Ян мяняў гарады, краіны і кантынэнты, часта там, куды ён прыяжджаў, дождж называлі анамаліяй... Вось ён у Турцыі, і з высокіх вуліцаў Стамбулу рачулкамі сьцякае вада пасьля навальніцы.

Ян заехаў у Адэсу, і на наступны дзень горад заліло да аварыйнага стану.

Хлопец наведаў прахалодныя берагі балтыйскіх краінаў, куды прынёс свой настрой: дождж з парывістым ветрам.

Ян баяўся лётаць самалётам: ён уяўляў, што падымецца да сваіх аблокаў – і яны проста пашкодзяць самалёт і той разаб’ецца. Але аднойчы, калі хмары адступілі і хлопец часова застаўся адзін пасярод сухога паветра, яму зноў зрабілася блага: ні з дажджом, ні безь яго – Яну было ніякавата, і ён вырашыў, што зараз жа сядзе на самалёт і рызыкне.

Падчас такога сумнага і прыгнечанага стану Ян і пачаў лётаць.

6

За год хлопец пабываў на Балтыйскім моры, на Чорным і ўжо лічыў грошы, каб паляцець на Карыбскае мора, калі зусім выпадкова, толькі таму, што быў нечувана казачны кошт палёту да Іянічнага мора, Ян выбраў Сыцылію.

Ян за год ператварыўся ў сапраўднага падарожніка, бадзягу, мужчыну з абветраным тварам і першай барадой, ускудлачанай і нечасанай.

Ян адкрыў сусьвет і дазнаўся шмат цікавага з жыцьця розных народаў.

Хлопец самастойна дакрочыў да ўскрайку мора на балтыйскім узьбярэжжы і дабраўся з кампаніяй часовых сяброў, якія ўсе пасьпелі прамокнуць, да найвышэйшай кропкі ў Карпацкіх гарах.

Але спакою і адказаў на важныя пытаньні не было.



*Калі Ян скончыў сьнедаць, пайшоў дождж, стала холадна. Хлопец выйшаў з тэрасы і адразу ўбачыў хмару, якая прычапілася да вулькану і адчайна палівала навакольле.*

7

Яшчэ раніцай ён нічога не плянаваў – Сыцылія, яна непрадказальная са сваім вульканам.

Ян адсачыў у навінах, што апошнія сэзоны гэтая вялікая выспа перасыхала і палала часьцей за апошнія сто гадоў, тут і там даводзілася змагацца з кілямэтрамі агню.

Ён прачнуўся адразу пасьля абсалютна спакойнага пералёту, надзвычай лагоднага, ранкам было незразумелае надвор'е, усе ў гатэлі падчас сьняданку казалі, што для жніўня нетыпова пахмурна, мо нават зьбярэцца дождж, але маладзён бачыў толькі сухое паветра і адчуваў скурай прыемную сонечную цеплыню.

Турыстам дождж быў не патрэбны, яны прыехалі купацца і загараць. А мясцовым любая кропля зь неба як дабраславеньне на ўраджай.

8

Калі Ян скончыў сьнедаць, пайшоў дождж, стала холадна.

Хлопец выйшаў з тэрасы і адразу ўбачыў хмару, якая прычапілася да вулькану і адчайна палівала навакольле.

Ян заскочыў у нумар, надзеў любімыя сабачыя шкарпэткі: адна нага далмацінец, другая – пітбуль, памяняў шорты на штаны і захапіў на ўсялякі выпадак байку, бо за колькі хвілінаў тэмпэратура значна ўпала. І паехаў мясцовым блакітным аўтобусам у горы, бо яму тут і сонца не патрэбнае, ён зараз даедзе да самага жэрла вулькану, дацягнецца да той самай хмары і надае ёй па дупе за ўсе мінулыя дажджы над ім! Альбо ўвогуле кінецца ў гарачую лаву, каб высахнуць у полымі назаўжды.

Хлопец ехаў доўга, марудна, паціху выглянула сонейка, пачало пячы, у аўтобусе ён зьмяніў кеды і шкарпэткавых сабак на шлёпанцы, надзеў іншую майку, сухую, і нарэшце апынуўся на вулькане, які зіхацеў ад сонца і струменіў летнім настроем і цеплынёй.

Пакуль Ян, злосны, караскаўся ўгару, настрой ягоны зьмяніўся, і ён ужо зноў прагнуў дажджу, і піць хацелася гэтак, што язык гарэў.

Было цяжка змагацца з гэтым станам, калі адно бязь іншага не магло існаваць, і хлопец змагаўся, як самы ўпарты ў сьвеце падлетак, змагаўся, пакуль знаходзіў сілы гэта рабіць.

## 9

На наступны дзень Ян прачнуўся рана... І адразу да чысткі зубоў, кавы і ранішняга ёгурта, ён выправіўся плаваць у мора.

За ім ішло воблака, часам яно было на даляглядзе, але ніколі не хавалася за гарызонт. Ян увайшоў у ваду, звонку тэмпэратура зашкальвала за сорак, нікога прытомнага на ўзьбярэжжы не было.

Ён хацеў паплаваць і атрымаць асалоду ад сонца, пакуль хмара лунала над вульканам.

І тут хмара паціху адарвалася ад гары, паплыла нізка-нізка, чапляючыся за ліхтары ўздоўж пляжу... І празь некалькі хвілінаў над хлопцам грымнула ў ваду так, што ён ледзь не ўтапіўся, маланкі пачалі біць варожа блізка, і Ян, замест каб вярнуцца на бераг, адчайна запрацаваў рукамі ды нагамі, заплываючы далей у мора. Хлопец стаміўся, яму нічога не хацелася, а воблака не адставала.

Ён плыў, колькі хапала сілаў, адпачываў на сьпіне і лавіў ротам кроплі дажджу і салёную марскую ваду...

## 10

Пустая выспа, суцэльная пустэльня навокал, ссушаная вятрамі пальма, больш нічога, толькі дождж ліе бесьперапынку, ад самага часу, як Яна прыбіла хвалямі да берагоў.

Ян сьпіць зняможаны, а дождж палівае пясок. Дождж прыйшоў разам з хлопцам упершыню за два гады і ўпершыню за сто гадоў гэтак працягла палівае спустошанае месца, выпаленае ўшчэнт сонцам і агнём.

Ян паўжывы. Ён альбо сьпіць, альбо ледзь варушыцца, спрабуе схавацца ад дажджу, накрываючыся самотным жоўтым пальмавым лістом. Хлопец яшчэ не разумее, што толькі цуд дапамог яму выжыць, бо цела адмаўлялася варушыцца, ногі, рукі ня здатныя былі грасьці, і Ян дрэйфаваў на сьпіне, пакуль хвалі ня выкінулі яго ў пустэльні.

Сухая выспа прагна глынала кожную кроплю, якую хлопец прынёс з сабою, кожны мілілітар вільгаці, і наўзамен карміла яго сьвежай, смачнай рыбай, якую выкідала на ўзьбярэжжа каля Яна, што ўжо часам сядзеў і мог дапаўзьці да рыбы.



*На высьпе, падобнай да трохногай галавы, нібыта гэта трыскеліён, празь месяц забуяў сад расьлінаў і кветак, а за адну ноч нават паказаліся кусты ананасаў. Пустая выспа зрабілася райскім месцам, па-над якім пасялілася дажджавая хмара, яна за тыдзень шмат праліла вады і цяпер вымушаная была адпачываць і назапашваць вільгаць для новага дажджу.*

## 11

На высьпе, падобнай да трохногай галавы, нібыта гэта трыскеліён, празь месяц забуяў сад расьлінаў і кветак, а за адну ноч нават паказаліся кусты ананасаў. Пустая выспа зрабілася райскім месцам, па-над якім пасялілася дажджавая хмара, яна за тыдзень шмат праліла вады і цяпер вымушаная была адпачываць і назапашваць вільгаць для новага дажджу, а пакуль у выспы зьявіўся час вырошчваць дрэвы і пальмы, каб карміць свайго героя і збаўцу ад сухмені ня толькі рыбай.

Ян ператварыўся ў сапраўднага рабінзона. Ён пачаў будаваць спачатку шалаш, плянуючы пазьней вярнуцца на плыце на Сыцылію і адтуль дадому – часова дадому, трэба забраць сюды маму, прывезьці цэглу і збудаваць сапраўдны вялікі дом.

Калі Ян змог даплыць сюды, на плоце яму будзе лёгка і вярнуцца, галоўнае – плыць раніцай і ў бок сонца…

Ян заўважыў, што для гэтай выспы ягоны дождж пасуе найлепш у сьвеце, ён адчуў, што знайшоў месца, дзе ён патрэбны, і менавіта тут праз спалучэньне сонца і вады адбываецца цуд гармоніі. Ян застаецца тут жыць, гэта ягоная ўласная выспа, самая блізкая сяброўка і сэнс жыцьця.

*Жнівень 2018 – сакавік 2019*
*Сыцылія, Італія / Вільня, Літва*

# ЧОРНЫ НАШЫВІЛІМАС

Тое, што я сёньня апынуўся ў шпіталі, мяне зусім ня дзівіць. Як кажуць мае сябры, я – Чалавек-Гузак. Гэта як супэргерой, толькі мая надзвычайная якасьць – трапляць у бальніцу.

Учора я сапраўды наўмысна, упершыню ў жыцьці, сам зрабіў крок насустрач аўтобусу.

Так, раней я ніколі б і не падумаў пра такое – самастойна і пад аўтобус.

Звычайна ўсе падзеі, якія са мной адбываліся, былі непрадказальныя, балючыя, і я жаліўся на лёс.

З часам я пачаў адчуваць, што тут нешта ня тое, падазраваць, што гэта ня проста лёс. Але пасля кожнага майго рашучага дзеяньня, жыцьцёвага выбару са мною нешта здаралася – то хвароба, то пералом нагі, то апаноўвала такое расчараваньне, што і жыць не хацелася.

Я вырашыў, што я звычайны няздара, у якога за паўкроку да выніку штосьці адбываецца: спачатку зьнікае імпэт, а ўжо потым я аказваюся ў цяжкім фізічным стане. Стаўлю кропку свайму памкненьню, ламаю захапленьне і справу ўсяго жыцьця. Раз – і ўсё.

Час у мяне ёсьць, у мяне багата часу, я прапісаўся ў гэтым лячэбным пакоі на два месяцы дакладна, а мо і на тры. Бо выжыць пасьля сутыкненьня з аўтобусам – адна рэч, а выкараскацца з таго сьвету і застацца бяз страшнага курдупеля,



*Учора я сапраўды наўмысна, упершыню ў жыцьці, сам зрабіў крок насустрач аўтобусу. Так, раней я ніколі б і не падумаў пра такое – самастойна і пад аўтобус.*

таго гнюснага дарадцы, сумнага, мэлянхалічнага гобліна на сьпіне, які ўсё жыцьцё псуе табе настрой, – зусім іншае.

Рашэньне трапіць пад аўтобус было ўдалым. Вартым таго, каб я пачаў жыць шчасьліва, тут і цяпер стаў адлічваць хвіліны жыцьця.

Вы, напэўна, яшчэ нічога не зразумелі, буду больш пасьлядоўны...

Мой літоўскі сябра сказаў, што я здатны праходзіць праз замкнёныя дзьверы, калі мне штосьці сапраўды патрэбна, проста я яшчэ не апынуўся перад такімі дзьвярыма.

Здаецца, учора я адчыніў тыя дзьверы. Я прайшоў праз гэтыя закалочаныя доўгімі цьвікамі, крыж-накрыж абвешаныя замкамі дзьверы.

Толькі, разумееце, мы тут з вамі ўдвух у пакоі, і вы, відаць, зусім ня можаце мне адказаць, але нічога, паварушыце ўказальным пальцам, я яго добра бачу, я зразумею, што мне варта працягваць. Або не варушыце, і я заткнуўся навечна.

Ага, добра, мне прыемна, што вам цікава, я тады працягну...

Вы, пэўна, таксама перажылі дарожна-транспартнае здарэньне, а можа, яшчэ што горшае, трапілі пад абвал на будоўлі... Прынамсі, мне пашчасьціла, хаця б гутарыць магу... Вы мне, калі што, можаце пальцам падказваць, паклікаць вам мэдсястру – можаце сагнуць палец, у вас кнопка выкліку спаўзла, так што ўсе спадзевы на ваш палец. Як заўважу, што вы зьнерухомелі надоўга, то замоўкну, гэта будзе азначаць, што вы заснулі, я вас стаміў. Мы з вамі прыдумаем асабісты код, сваю азбуку, будзем як найлепшыя сябры, бо нам з вамі тут доўга яшчэ ляжаць, і хто ведае, мо потым сваю мову распрацуем, як міжнародную... Кнігі на ёй будуць пісаць розныя пабітыя жыцьцём хворыя. Уявіце: мова жэстаў указальным пальцам!

Разумееце, для мяне шпіталь – другі дом. Усё пачалося, калі я хацеў дагнаць адну дзяўчынку, маю аднаклясьніцу, гарэзу. Першая кляса, хочацца бегаць, адчуваць, які ты хуткі ды няўлоўны, у цябе няма межаў, нічога кепскага ў жыцьці не існуе, нейкіх сьмешных дарослых праблемаў таксама няма... І вось я бягу за ёй, хочацца торгнуць за коску, і я амаль дабег, амаль дацягнуўся, будзе супэрсьмешна ўсім на спартовай пляцоўцы! Як раптам я не дацягваюся, мне становіцца зусім не цікава і ня варта таго, каб даганяць, я спрабую спыніцца, адна нага чапляецца за другую, і я лячу каленямі на асфальт. У выніку на правым калене тры швы, на левым – чатыры. Я раву, усе чакаюць хуткую, настаўніца панікуе, кроў цячэ прыгожа, няспынна, як таматны сок, зацякае ў боты, я ажно хлюпаць магу.

Здаецца, гэта мой першы яркі досьвед, калі я раптоўна згубіў інтарэс да справы і праз гэта нашкодзіў сабе і свайму целу.

Потым здарылася траўма на каратэ. Я пачаў хадзіць у гурток самастойна, бацькі мяне не прасілі, ніхто за руку не завёў, я проста аднойчы даведаўся, што ў раёне адкрылі спартовы клюб каратэ. Я ўзрадаваўся і пачаў штодня наведваць татамі, тыя маты, стаяць і сядзець на якіх была адна асалода. Праз год я меў ужо і сваё кімано, і ўсё ішло як мае быць, пакуль аднойчы, седзячы на лаве ды назіраючы за бойкай хлопцаў, якія адпрацоўвалі ўдары нагамі, голас у галаве нечакана прамовіў, што тут усё нецікава, што гэтае каратэ нікому не патрэбнае, бо калі я апынуся сам-насам з дваровымі хлопцамі, ад мяне ня будуць чакаць падрыхтоўкі, а проста дадуць у нос, імгненна і зьнянацку. І як толькі голас у галаве гэта вымавіў, я падняўся, каб ісьці ў распранальню, дакладна ведаючы, што сюды не вярнуся, ажно ў мой бок праляцела палка, якая вырвалася ў кагосьці з рук, і выцяла мяне па сьпіне гэтак моцна, што нават доктар хуткай падазраваў перапом хрыбеткі, пакуль ехалі ў шпіталь.

Я ж кажу – спачатку думаў, я няўклюда. Хлопец, якога Бог не пацалаваў у патыліцу, але добра выцяў па макаўцы.

Потым, калі я разьвітаўся з баявым мастацтвам, я вырашыў заняцца мастацтвам выяўленчым. Ня так шкодна для здароўя. Я памятаю дзень, калі абвясьціў бацькам, у захапленьні і радасьці, размаляваўшы першы альбом выявамі Бэмбі і Дамба са стужак Дыснэя, што гатовы пайсьці з наступнага вучэбнага сэзону ў мастацкую школу. Бацькі таксама радаваліся. Але ўлетку трэба было здаць іспыт па маляваньні, каб узялі ў школу, і за дзень да іспыту я ламаю ўказальны палец на правай руцэ. Вельмі проста яго ламаю, засунуўшы пад дзьверы, якія зачыняліся. Вось так, гоп, і я больш не мастак – бо справа гэтая бедная, нікому не цікавая, да ўсяго яшчэ і дзьверы скразьняком зачыняюцца без папярэджаньня, а я такі няўклюда, што вочы невядома дзе пакінуў. І добра, што палец паламаўся ў двух месцах, доктар сказаў, што сабраў яго з парэштак костак, якія скура толькі і трымала...

Потым мяне пацягнула займацца футболам.

Ну, як потым...

Мінула тры гады, я стаміўся назіраць за дваровымі пацанамі праз акно і пачаў сам выпаўзаць вонкі са свайго пакоя... І калі ўдавалася назьбіраць у двары каманду ў баскетбол, то і ў стрытбол гулялі, ня толькі ў футбол, і нават двойчы за лета я пасьпеў згуляць у валейбол. Я быў на вышыні, я забыўся на няўдачы дзяцінства, мне было хораша сярод спатнелых і стомленых сяброў.

Вядома, падлеткавы ўзрост, як там уседзіш дома, нават бяз ног і рук хочацца на двор, і ніякія страхі не ўтрымаюць у сумным пакоі, хоць той і перапоўнены кнігамі ды відэагульнямі для «Іксбокс».

Мяне хутка зацягвае, я захапляюся рэчамі ўмомант, магу доўга марудзіць, хадзіць вакол, прыглядацца, але калі сам сабе кажу: «Так», то мяне ўжо не спыніць, не стрымаць, не спужаць, толькі шпіталь ці хвароба мяне ўтаймуюць. Гэтак і са спартовай пляцоўкай я завязаў, калі за дзесяць дзён дзесяць разоў скокнуў на расьцягнутую галёнку.

Урэшце...

Вы ж мяне слухаеце? Ці мне памаўчаць паўгадзіны? Я ўжо ня памятаю, як мы з вамі дамовіліся на ўмоўныя знакі, але калі мне працягваць, сагніце ўказальны палец, альбо не – дакладна ня тое, паварушыце ім, я згадаў, што сагнуць палец у нас азначае паклікаць сястру.

Добра, не пытаньне, згода...

Працягну свой аповед з таго, што раскажу вам, як ня трапіў вучыцца ў кансэрваторыю, паступіўшы праз конкурс юных дараваньняў, бо захварэў на гнойную ангіну. Паўгоду ачуньваў, маці нават у царкву пачала хадзіць маліцца, сьвечкі ставіць, крыжы цалаваць. А я ляжу хворы, ледзь прытомны, і сам сабе думаю, што гэта ўжо перабор. Ну паламаць рукі, ногі, пальцы, ня ведаю, расьцягнуць цягліцы – адна справа, гэта можна сьпісаць на тое, што я няўклюдны бараў, а вось каб так жорстка захварэць... Гэта новы этап у маім нязграбным жыцьці. Хвароба – штосьці ад усявышніх альбо ад усяніжніх сілаў, дакладна незямнога паходжаньня.

І я проста на фоне ангіны захворваю на дэпрэсію, кажу сам сабе, што больш мне нічога не цікава, нічога я не хачу і займацца нічым не буду. Вось тут пакладуся і займуся абломаўшчынай, паслаўшы ўсе справы падалей.

Час паплыў марудна, жыцьцё падзялілася на два моманты: сон – дэпрэсія. Я пралічыў усе крокі ў пакоі, вывучыў колеры і нюансы неба ў акне, потым навучыўся спаць і ня спаць адначасова. Маці са мной працавала, псыхоляг таксама, папа выклікалі, каб ён чадзіў па кутах. А мне чытаць не хацелася, і нават рука была цяжкая, каб падняць пульт ад тэлевізара, і дыхаць не хацелася таксама.

І ў маім жыцьці зьяўляецца псыхіятар, які адзін раз мяне прыняў, пагутарыў, агледзеў і падсумаваў: тэрмінова зьмяніць горад на вёску, лецішча, прыроду, на што заўгодна... А я, трэба сказаць, і сам стаміўся ад асфальту і пылу на сваім ложку

і самастойна вырашыў паехаць на лецішча, увосень, калі ўсе сабралі ўраджай, навокал ніводнага суседа. Зьмяніць гарадзкі ложак на саламяны стары матрац у хатцы на сьвежым паветры.

Счакаў два месяцы, узяў споднюе, кнігі «Атляс інсэктаў» і «Гісторыю Сярэднявечча» і папярэдзіў бацькоў, што пажыву ў нас на лецішчы, сярод прыроды, трэба мне штосьці рабіць з жыцьцём, але акуратна, каб зноў не трапіць у якую пастку са здароўем.

Мне амаль васямнаццаць, так, магу і сам пажыць, так, я ня супраць, што мяне будуць наведваць суседзі з участкаў, і так, добра, я ня супраць, каб мне тэлефанавала маці штовечар, і я згодны, што раз на тры дні бацька будзе прывозіць мне ежу. На апошняе я ня проста згодны, а ахвотна пагаджуся, каб мне тата прывозіў паесьці, а як інакш мне там заставацца?

Вы, вядома, скажаце, што восень, закаткі ёсьць, бульба, капуста кіслая, і яблыкі можна есьці, але як я, такі прыгожы і сумны, буду лекаваць сваю душу бяз колы, безь любімага печыва на сьняданак і без марозіва? Безь любімых ласункаў жывейшы і весялейшы я не зраблюся.

На лецішчы я праспаў два дні. А на трэці дзень увечары запаліў на градках вогнішча, пагрэўся, папіў гарачай гарбаты, трохі пачытаў знойдзенага Сянкевіча і вярнуўся ў дом уключыць тэлевізар, паглядзець фільм альбо павісець у «Фэйсбуку» і з кім пагутарыць, бо я ўпершыню за шмат месяцаў зноў сабраўся жыць.

Вось нібыта ўчора адбылося, а ня пяць гадоў таму. Я так добра і ясна запомніў той вечар на лецішчы.

Уключыў я тэлевізар, сеў у фатэль і бруднай далоньню пацёр вока, і вейка трапіла, і гэтак балюча стала, кінуўся да люстэрка, да старога трэльяжа, што ў савецкі час усе куплялі сабе ў залі ды калідоры.

Тру вока, спрабую ўгледзець у цэнтральнае люстэрка, што і дзе там баліць, як раптам у правым люстэрку, якое было павернутае кутом, бачу я, што на маіх плячах сядзіць нейкі чорны чалавечак, і я як закрычу!

Божа, я крычаў напэўна гадзіну, крычаў і біў сябе па сьпіне, падаў на падлогу, круціўся як вугор... Потым усхапіўся, павярнуў люстэркі трэльяжа з двух бакоў сабе на сьпіну і бачу: сядзіць там хтосьці ды нават не варушыцца! Такі чоооорны чалавечак! Гном! Што ён там робіць?!

Ну ўсё, кажу я сам сабе, давёў свае мазгі да псыхапатыі, час выклікаць санітараў. Што я бацькам скажу? Што я сам сабе скажу?



*Тру вока, спрабую ўгледзець у цэнтральнае люстэрка, што і дзе там баліць, як раптам у правым люстэрку, якое было павернутае кутом, бачу я, што на маіх плячах сядзіць нейкі чорны чалавечак, і я як закрычу!*

Разумееце, паважаны сусед па палаце, я ня хворы. Хоць сказ гэты і прагучаў так, быццам я хворы, але гэта было напраўду, без трызьненьня, фантазіяў і злоўжываньня!

Я на сваёй сьпіне выявіў нейкага чалавечка, і гэта быў дакладна ня цень, бо цень мой акуратна заставаўся побач, часткова падаючы на сьцяну.

Спачатку я вырашыў пайсьці ў лазьню. Нагрэў яе пасярод ночы да ста градусаў, натапіў так, што ажно вочы пульсавалі і горла гарэла. Папарыўся дзьве гадзіны. Думаў, змыю зь сябе ўсё на сьвеце і гэтага гнома куды падалей.

Лазьня добрых вынікаў, акрамя таго што я быў бессаромна чысты, не прынесла. На сьпіне сядзела чорная пачвара, і ўсё тут.

Потым я некалькі дзён запар у рэчцы сьцюдзёнай плаваў да аняменьня.

Качаўся па траве на сьпіне.

Скокаў з дрэваў і нават куляўся.

Чорны чалавек працягваў сядзець на маёй сьпіне.

А што было потым? Бачу з напружанасьці вашага пальца, калі можна так сказаць, вам усё-ткі цікава, што здарылася далей?

Я паехаў да сваёй бабкі, бо вырашыў, што бацькам ня трэба казаць пра гэты праклён, ці як тую істоту на сьпіне назваць. Вырашыў, што спачатку пагутару з бабкай.

Прыехаў да яе, а яна мне і распавядае, маўляў, такі харошы раней я быў хлопчык, ладны, добры, а як зьезьдзіў на Балтыйскае мора з бацькамі, дык па вяртаньні адны капрызы, нэрвовы зрабіўся, выбрыкі, шнары на руках, гузакі на твары, швы на нагах, пайшлі пераломы і хваробы.

Спрабавала мая бабка распавесьці бацькам, што, напэўна, Нашывілімас са мной здарыўся, парадніўся чорцік са мной. Чула мая бабка, ад сваёй бабкі, што жывуць у сьвеце такія чорныя курдупелі, гномы, як іх ні назаві, але любяць усе яны адно і тое ж! Як адшукае такі гном утульныя плечы, то і ўзлазіць на іх жыць, каб у вушы гадзіць, сумныя думкі наводзіць, а калі яму карысна, дык падножкі робіць у самы нязручны час, каб зьбіць з жыцьцёвага шляху, бо курдупелям сьлёзы патрэбныя, як вада, яны растуць ад кепскіх думак, нібыта ад булак, становяцца дужымі ад чалавечай нявыкруткі, як быццам у спартовай залі пабылі.

Бабка мая сказала, што раней ня бачыла гэтага Нашывілімаса на маёй сьпіне, але калі ўжо я занурыўся ў дэпрэсію, то цяпер дакладна можна будзе пабачыць яго. Але толькі я сам, на ўласныя вочы здольны яго ўбачыць, а бабка можа толькі адбітак ценю на сьцяне падгледзець.

І вось мы выключылі сьвятло ў хаце, старая запаліла сьвечку, падняла перада мною, глядзіць на сьценку і кажа: «Вялікі цень бачу, адкарміў ты свайго чорціка, бачыш? Нават абрыс кія нейкага або нажа віднеецца ў ягоных руках, няўжо забіць рыхтуецца?!»

І кепска мне стала, холадна на сэрцы, мароз па скуры прабег. Праўда ўсё. Высьвятляецца, цэлае жыцьцё мне замінаў, паганіў мае сьветлыя памкненьні гнюсны курдупель!

Гэта страшна, але адначасова і добра – бо цяпер я ведаю, хто мой вораг і нават як яго завуць!

Я штораніцы прачынаўся і альбо сядаў каля трэльяжа, альбо браў у рукі люстэрка і глядзеў на сваю сьпіну ў другім люстэрку і так сядзеў ды вёў гутарку: «Ну што, курдупель? Як з табой жыць будзем? Чуеш, Нашывілімас паганы! Можа, адпусьціш мяне ўрэшце? Я больш ня буду сумаваць і плакаць ня буду… Радавацца буду назло табе! Я жыць хачу і даводзіць справы да лягічнага канца. І жыць хачу адзін, самотным насіць сваё цела, свабодную сьпіну хачу мець пад ясным небам!»

І паступова праз нашыя дыялёгі я адчуў, што слабее мой чорт, паменшаў, нават палку сваю ці нож схаваў, толькі вочкамі чырвонымі лыпае, калі я зь ім гутару, але сыходзіць ня думае.

Мінае час, я зноў адчуваю сілы жыць, перамагаць, рабіцца дарослым, мужным, як заўгодна гэта назавіце…

Я вырашаю падрыхтавацца да паступленьня ва ўнівэрсытэт. Я захацеў паступаць у мэдычны інстытут. Надумаў стаць хірургам, каб раз і назаўсёды выразаць скальпэлем Нашывілімаса.

І вось я цэлы год рыхтуюся да іспытаў па біялёгіі, хіміі, вучу граматыку беларускай мовы, каб здаць тэст… І я скажу вам, што за тыдзень да іспытаў я трапляю ў інфэкцыйны шпіталь, мне робяць тэміновую апэрацыю на страўніку. Доктар потым скажа, што ў маім жываце знайшлі неверагодную колькасьць чарвякоў.

Як я застаўся жыць, як я ўвогуле насіў такое ў сваім целе і не памёр, невядома.

Але мне ўсё вядома, бо я ўжо бачыў, як танчыць на мне падужэлы чорт, як ён радуецца маёй няўдачы, як ён захапляецца сваімі чарвякамі.

Праляжаўшы ў шпіталі месяц, на дыеце і адмысловых таблетках, якія выклікалі моцную пякотку і ваніты, мяне выпісалі, як ёсьць. Адпусьцілі ў вялікі сьвет няспраўджаным абітурыентам, вымушаным цяпер шукаць працу, каб жыць. І не з маім



*Я імгненна адчуў, што цяпер ведаю сэнс свайго жыцьця. Ведаю, што рабіць далей, і дакладна ведаю, што цяпер буду рызыкаваць дзеля каханьня – высокай, сьвятой мэты, дзеля галоўных пачуцьцяў у сьвеце.*

шчасьцем, ды нейкім чынам ня трапіць у войска на два гады, але тут, я думаю, курдупель мне якраз дапаможа з пытаньнем войска.

Як вы там? Яшчэ цікава ці мо заснулі ўжо?

А, бачу, можна працягваць далей.

Карацей, я зь пераменным посьпехам пражыў тры гады, мяняючы працу, так і ня трапіў у войска, жыў сабе са сваім дэманам на плячах, нават прамаўляў доўгія маналёгі, калі адным вечарам, на невялікай вечарынцы з нагоды народзінаў аднаго супрацоўніка, я не сустрэў дзяўчыну. На лесьвічным пралёце яна адчыняла ўваходныя дзьверы.

Дзяўчына была суседкай імяніньніка, і так яна мне спадабалася, што я ня проста ўтаропіўся ў яе, я зьнерухомеў, аслупянеў. Я імгненна адчуў, што цяпер ведаю сэнс свайго жыцьця. Ведаю, што рабіць далей, і дакладна ведаю, што цяпер буду рызыкаваць дзеля каханьня – высокай, сьвятой мэты, дзеля галоўных пачуцьцяў у сьвеце. Я адразу сабе сказаў, што гэтая жанчына, суседка майго супрацоўніка, зробіцца маёй жонкай, але сьпярша я распраўлюся з Нашывілімасам. Назаўжды.

Я пачаў выбудоўваць плян сьмерці курдупеля, перабраў усё на сьвеце, узважыў усе мэтады і спыніўся на тым, што найбольш сур'ёзна нашкоджу чорту, толькі калі ён атрымае наймацнейшы ўдар у маю сьпіну.

Паведаміў я сваёй бабцы, каб хоць хто з родных ведаў пра мой плян, а тая за тыдзень мне ляльку зрабіла. Набіла мне хустку саломай, зрабіла лялькy-абярэг, якая гаспадарыць у доме і лад наводзіць у сям'і, гоніць вонкі нячысьцікаў.

Разумееце, як дзіўна я мусіў выглядаць з гэтай лялькай, а яна, скажу вам, не маленькая зусім была.

Вядома, каб скокнуць адкуль сьпінай уніз не было і думкі, я сам мог загінуць. А каб застацца жывым, я падумаў, што найлепшым выйсьцем будзе аўтобус. Ляльку-абярэг дбайна запіхнуў назад у джынсы, каб палова яе прыкрывала мне хвасьцец і ныркі зь пячонкай...

Ад удару я пралячу некалькі мэтраў, прызямлюся на рукі і ногі, папярэдне скокнуўшы сьпінай як мага вышэй у лабавое шкло, каб адляцець, а ня трапіць пад колы. І вось такім чынам паб'ецца Нашывілімас, зваліцца і трапіць пад колы шматтоннага аўтобуса.

І вось я тут, як ёсьць, у шпіталі, на ложку, забінтаваны і ў гіпсе. Пасьля дарожнага здарэньня! Шчасьлівы! Ніякіх скрушных думак. Ні каліва расчараваньня! Я нарэшце пачуваюся вольна, сьветла і годна. Нягледзячы на ўсе гэтыя пераломы, я жывы

і гатовы кахаць, жыць, жаніцца, завесьці шчасьлівых дзетак. Упершыню з шасьці гадоў я вызваліўся ад цяжару, і каштавала мне гэта ўсяго толькі – амаль загінуць на дарозе!

Мой сябра літоўскі кажа, што я змагу прайсьці праз замкнёныя дзьверы, разумееце? Я сапраўды прайшоў праз гэтыя дзьверы, я забіў свайго курдупеля! І я жанюся, вольны, шчасьлівы і цяпер абсалютна ўпэўнены ў тым, што мне яна патрэбная, ніякага больш дурнога расчараваньня, ніякіх недаробленых справаў, ніякіх бальніц. Пасьля аўтобуса я зрабіўся лёгкім, удачлівым і самым сапраўдным мужчынам!

Вы мяне чуеце? Што?! Я так разумею, вы просіце пазваць сястру?

Зараз я пазваню. Чакайце. Напэўна, я вас тут забалбатаў, і мо ня толькі вам, але і мне трэба зьмяніць судны пад дупай.

– Так, як маецеся, удзельнікі ДТЗ?

– Вітаю, сястра, у мяне ўсё добра, я рады быць жывым. Увогуле добра ўсё! Файна!

– Гэта прыемна чуць, але сябру вашаму ня так пашчасьціла, ягоны стан горшы за ваш.

– У сэнсе? Я ж адзін трапіў пад аўтобус!

– Што вы кажаце? Адзін? Ёсьць сьведкі: вы стаялі разам з другім мужчынам, гутарылі, а потым штурхаеце свайго прыяцеля на аўтобус, а ён хапаецца за вас, у выніку вы абодва тут. І пра гэта я ведаю ад сьледчага, які ранкам прыходзіў і не засьпеў вас прытомнымі, распавёў мне ў двух словах пра здарэньне. А цяпер, бачу, ня тое што пальцы варушацца – сакочаце няспынна!

– Ды што вы верзяце!? Я пад аўтобус адзін пайшоў, наўмысна, бо кепска мне было, дэпрэсія, расчараваньне! Я ж закахаўся! Сястра! Я кахаю! Мне жыць трэба вольным і шчасьлівым!

– Распавядацьмеце тое ў судзе, калі мы вас вылечым, а пацярпелага на ногі паставім, а да таго часу ачуньвайце, набірайцеся сілаў.

*Сакавік 2019*
*Вільня, Літва*

# ЗЬМЕСТ

## Календа Сяргей Аляксандравіч

(піша і пад псэўданімам Аляксандар І. Бацкель)



Колка, Латвія. *Фота Максіма Шапялевіча*

Скончыў факультэт міжнародных адносінаў. Стрыжэ валасы з 15 гадоў, вучыўся ў найлепшай ангельскай цырульніцкай акадэміі «Toni&Guy».

Напісаў шмат кніг, але галоўным дасягненьнем жыцьця лічыць тое, што ў 30 гадоў навучыўся плаваць усімі магчымымі стылямі.

Ляўрэат прэміі «Празрысты Эол 2018» за найлепшую электронную кнігу. Атрымаў узнагароду «Выбар Сьвятланы Алексіевіч» у фінале прэміі імя Ежы Гедройца – 2019.

Гадуе дваіх сыноў. Захапляецца баскетболам, лецішчам і настолкамі.

Фанат Тома Ёрка, якога неяк выпадкова сустрэў на Сыцыліі.

